

*Радуйцеся ў гэты велікодны перыяд перамозе Хрыста. Перамозе жыцця, перамозе дабра над злом. Для хрысціянаў — гэта таксама перамога над страхам смерці. Дзякуючы гэтай перамозе мы набліжаемся да больш справядлівай і людскай будучыні, да свабоды дзяцей Божых.*

*Св. Ян Павел II*



У нумары 1/2015

НАША ВЕРА


**Жыццё Касцёла**

2 *Арцыбіскуп Тадэвуш КАНДРУСЕВІЧ* ДЗЕЛЯ ПАЯДНАННЯ ВЕРЫ І НАВУКІ

3 *Францішак СІЎКО* «ПРЫХОДЖУ, БОЖА, СПОЎНІЦЬ ТВАЮ ВОЛЮ...»

7 *Крыстына ЛЯЛЬКО* «ДА ЖЫЦЦЯ ВЕЧНАГА Ў БОГУ...»

9 *Караль ВАЙТЫЛА / ЯН ПАВЕЛ II* «Я ЎВЕСЬ У РУКАХ БОЖЫХ»

**Да 500-годдзя святой Тэрэзы ад Езуса**

12 *Аркадзь КУЛЯХА OCD* СВЯТАЯ ТЭРЭЗА АД ЕЗУСА – НАСТАЎНІЦА КАМУНІІ З БОГАМ

17 *Святлана ГРЭСВІ* ПРА «КНІГУ ЖЫЦЦЯ» СВ. ТЭРЭЗЫ АВІЛЬСКАЙ

18 ЖЫЦЦЁ СВЯТОЙ ТЭРЭЗЫ АД ЕЗУСА, ЗАПІСАНАЕ ЁЮ САМОЮ

21 *Валеры БУЙВАЛ* ГОРАД СВЯТОЙ ТЭРЭЗЫ

**Sanctorum opera**

24 *Стэфан СВЯЖАЎСКІ* СВЯТЫ ТАМАШ, ПРАЧЫТАНЫ НАНАВА

**Постаці**

26 *Ірына БАГДАНОВІЧ* «БЫЦЬ КСЯНДЗОМ, АФЯРНІКАМ «БОГА ЖЫВОГА»...

**Пераклады**

32 *Клайв Стэйплз ЛЬЮІС* ЧАТЫРЫ ВІДЫ ЛЮБОВІ

**Паэзія**

34 *Ян ЧЫКВІН* ВЕРШЫ

36 *Аксана ДАНІЛЬЧЫК* ВЕРШЫ

**Асобы**

38 *Міхась СКОБЛА* ХРАМ ЯГО ПАЭЗІІ

**З архіваў часу**

41 *Язэп ЯНУШКЕВІЧ* АДВАКАТ ВІЛЕНСКАЙ КАНСІСТОРЫІ, АБО АЎТОГРАФЫ БАГУШЭВІЧА... Ў МІНСКУ

**Проза**

46 *Ірына ЖАРНАСЕК* НАШЫХ ДЗЁН КРЫГАХОД

**Архітэктура**

53 *Тамара ГАБРУСЬ* АД РЫМА ДА НЯСВІЖА

**Проза**

58 *Аркадзь ШПУНТ* З «АГУЛЬНАГА СШЫТКА»

**Спадчына**

60 *Ірына ЗВАРЫКА* ГРАВЮРА ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ Ў КНІЗЕ ПРАРОКА ДАНІЭЛЯ

**Літаратуразнаўства**

64 *Уладзімір КАРОТКІ* БУЛАВА, З ПЯРОМ ЗЛУЧАНАЯ

**Мастацтва**

68 *Мікола КУПАВА* «ART-ВОРША-РУБОН»




# Дзеля паяднання веры і навукі

Сёлета навукова-папулярны рэлігійна-культуралагічны часопіс «Наша вера» адзначае 20-годдзе свайго існавання. Ад усяго сэрца віншую яго рэдакцыю, шматлікіх аўтараў і чытачоў з гэтаю датаю.

За гады сваёй працы часопіс запоўніў лакуну паміж вераю і навукаю, якая існавала ў нашым грамадстве ў выніку 70-ці гадоў прымусовай атэізацыі, калі рэлігію называлі «опіумам для народу». Адраджаючыся пасля трох пакаленняў ганенняў, Касцёл у Беларусі мае патрэбу ў грунтоўным прадстаўленні веры ў адпаведнасці з нашым часам, каб паспяхова адказваць на яго выклікі.

Евангелле і Традыцыя, як крыніцы нашай веры, разам з навукаю павінны служыць пазнанню адзінай і нязменнай праўды. Нездарма св. Ян Павел ІІ кажа, што вера і навука — гэта два крылы, на якіх чалавечы дух узносіцца да сузірання праўды (пар. Энцыкліка «*Fides et ratio*» – «Вера і розум», Уступ).

Разрыў паміж розумам і вераю выяўляецца ў адной з самых вялікіх чалавечых драмаў, якая мае шмат прычынаў. Пачынаючы ад эпохі Асветніцтва, аднабаковы рацыяналізм вёў да радыкалізацыі погляду на свет на аснове натуральных навук і філасофіі. У выніку расколу паміж вераю і розумам была нанесена вялікая шкода не толькі рэлігіі, але і культуры. У запале вострай палемікі часта забываецца, што вера не баіцца розуму, але шукае яго дапамогі (пар. Энцыкліка «*Fides et ratio*» – «Вера і розум», 43). Такім чынам, вера абапіраецца на розум і ўдасканальвае яго. Сёння патрэбна вялікая праца для аб’яднання веры і навукі.

Дзякуючы Богу, Яго Эмінэнцыі ксяндзу кардыналу Казіміру Свёнтку, які заснаваў квартальнік «Наша вера», і яго рэдакцыі, выказваю надзею, што часопіс будзе і надалей спрыяць працэсу аб’яднання веры і навукі, новай евангелізацыі для перадачы веры і рэлігійнасці ў Беларусі.

Давяраючы Богу рэдакцыю часопіса, яго аўтараў і карыстальнікаў, ад усяго сэрца благаслаўляю.

*Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч*
*Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі*



# «ПРЫХОДЖУ, БОЖА, СПОЎНІЦЬ ТВАЮ ВОЛЮ...»

***У студзені споўніўся год біскупскай сакры ардынарыя Віцебскай дыяцэзіі Алега Буткевіча. Было ў гэты зімовы дзень шмат віншаванняў на адрас Яго Эксцэленцыі, пажаданняў ад вернікаў, святароў, прадстаўнікоў манаскіх кангрэгацый, дзяцей, моладзі — шчырых, па-чалавечы прачулых выразаў удзячнасці і павагі. Так ацанілі людзі энергічнасць, добразычлівасць, дзелавыя і асабістыя якасці маладога пастыра. Але чым стала гэтая невялічкая дата для яго самога? Якімі клопатамі напоўнены сённяшні дзень біскупа Алега Буткевіча? Як бачыцца яму будучыня дыяцэзіі і Касцёла? Пра гэта — наша размова.***

*— Ваша Эксцэленцыя, год — не такі ўжо і вялікі прамежак часу. Але ж зусім, напэўна, іначай ён успрымаецца, калі чалавек воляю лёсу, Божага Провіду пачынае існаваць у новай для сябе якасці. Як Вы пачуваецеся ў такой новай для сябе ролі — кіраўніка дыяцэзіі?*

— Напэўна, як і кожны чалавек пачуваўся б у такой сітуацыі. Пераходны перыяд — гэта ж заўсёды няпроста. Новыя абавязкі, новыя патрабаванні. Новыя абавязкі, у сваю чаргу, вымагаюць новых падыходаў да справы, новага погляду, у тым ліку часам і на сябе, на справу, якую робіш. Бывае так: хочаш штосьці зрабіць, а пэўнасці, ці правільным яно менавіта вось так будзе, як у гэтую хвіліну бачыцца, няма. З'яўляецца сумнеў, асабліва тады, калі разумееш, што справа датычыць не аднаго дня, а можа мець у будучыні нейкія наступствы. Іншы маштаб дзейнасці і, адпаведна, іншыя клопаты.

Апроч таго, мяняецца звыклы лад жыцця, трэба штосьці і ў сабе перабудаваць, штосьці памяняць, чамусьці навучыцца. Новае — гэта заўсёды рух, удасканаленне. А ці можа быць рух без высілкаў? Безумоўна, не. Рух сам па сабе — ужо дзеянне, ужо пераадоленне, праца над сабой. Так і ў мяне было цягам года. Што да сённяшняга самаадчування, то адно магу дакладна сказаць: працэс станаўлення працягваецца.

*— А калі казаць пра пабытавыя змены? Не сакрэт жа, што дзесяць гадоў Вы жылі пры навабудзе касцёла Святога Духа ва ўмовах, у якіх далёка не кожны мог бы жыць без рызыкі страціць жаданне працаваць ды яшчэ і заставацца пры гэтым аптымістам.*

— Было б недарэчна рабіць выгляд, што зменаў не адбылося ці што ўспрымаю іх без удзячнасці Пану Богу. Так, рэзідэнцыя біскупа — не пакойчык у паўразбураным, занядбаным будынку, дзе, напэўна, мала хто з гараджанаў згадзіўся б жыць у век дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу. Але ж такая была воля Бога, і я як вернік, як святар не мог успрымаць яе іначай як з пакораю і малітваю.

Так, у маім побыце шмат што змянілася. Але гэта толькі знешні бок сённяшняга майго жыцця, бо, як я ўжо казаў, і адказнасці, і перажыванняў паболела. Гэтулькі з'явілася справаў, клопатаў, гэтулькі людзей, пра якіх раней і ўяўлення не меў. З аднаго боку, усё гэта — новыя магчымасці даверыцца Божай ласцы, з другога — новыя выпрабаванні. Часам такія, што і ўласнай пабытавай уладкаванасці не пазайздросціш.

*— Што ўяўляе на сённяшні дзень Віцебская дыяцэзія?*

— Гэта каля ста парафій у розных стадыях функцыянавання. Ёсць сталыя парафіі з даўнімі традыцыямі каталіцкага жыцця, святарамі, законнымі сёстрамі. Ёсць парафіі маладыя, дзе такое жыццё яшчэ толькі наладжваецца. Ёсць супольнасці ў стане фарміравання, дзе нават і свята-



Чэслаў Францавіч і Іяланта Аляксандраўна Буткевічы.

роў пакуль няма, і святыя Імшы ладзяць ксяндзы з суседніх парафій. Ёсць парафіі, дзе святыні знаходзяцца ў стане дабудовы, — у Дзісне, Віцебску, Оршы. Вось нядаўна асвяцілі каплічку ў вёсцы Ураджайнае Глыбоцкага дэканата. Усё ў руху, таму і лічба, як бачыце, прыблізная. Але важна казаць пра тое, што адна з галоўных нашых праблем — гэта недахоп святароў.

Што да вернікаў, то іх прыкладна 130 тысяч. Тут таксама, зразумела, склад даволі стракаты. Адзін жыццё пражыў з малітваю на вуснах, другі толькі-толькі прыйшоў да Бога, трэці першыя крокі робіць на шляху да веры праз катэхізацыю. Наша паства — людзі рознага веку: пажылыя, сярэдняга ўзросту, моладзь, дзеці. Канечне ж, прадстаўнікі самых розных прафесій. Як, напэўна, і ўсюды, шмат католікаў са змешаных каталіцка-праваслаўных сем'яў. Такія сем'і важна падтрымліваць у справе экуменічнага паяднання ў Богу, у памкненні знаходзіць паразуменне на сутыку канфесійных адрозненняў.

*— На сайце catholic.by і ў друкаваных сродках масавай інфармацыі звычайна падаецца шмат навінаў з Віцебскай дыяцэзіі. Якія найбольш масавыя агульнадыяцэзіяльныя мерапрыемствы Вы маглі б адзначыць?*

— Найперш, канечне, тыя, што ладзяцца ўжо шмат гадоў і займелі і добрую рэпутацыю, і розгалас у межах Беларусі. Напрыклад, вядомы ўсім фестываль хрысціянскіх фільмаў «*Magnificat*», які вось ужо 10 гадоў праводзіцца ў Глыбокім. Дні хрысціянскай культуры, якія гуртуюць і аб'ядноўваюць вернікаў парафій дыяцэзіі на шляху засваення культурных здабыткаў іх папярэднікаў і рэалізацыі ўласных творчых здольнасцяў. Міжнародная медыцынская канферэнцыя «Праблемы ўрачэбнай этыкі ў сучасным свеце» з удзелам навукоўцаў і медыкаў — практыкаў з нашай краіны і краінаў замежжа, святароў і вернікаў — прадстаўнікоў розных канфесій. Фестываль хрысціянскіх спеваў «Зорка Бэтлеема» ў Мёрах... Дарэчы, усе нашы сёлетнія мерапрыемствы будуць прысвечаныя знамянальнай даце — 15-годдзю ўтварэння дыяцэзіі.

*— Усё гэта — рэпрэзентатыўны бок дыяцэзіяльнага жыцця. А як Вам бачыцца пытанне евангелізацыі?*

— Так, галоўнае ў касцёле — малітва. Малітва як выраз сутнасці чалавека, як сродак яго пастаянных зносінаў з Богам. Як грунт, падмурак для здзяйснення годных імя хрысціяніна ўчынкаў. Таму для мяне як пастыра дыяцэзіі вельмі важныя пытанні катэхізацыі і евангелізацыі. Данесці да чалавека праўду Евангелля, дапамагчы яму не згубіцца ў лабірынце нярэдка аблудных уяўленняў аб сутнасці веры — заданне кожнага святара, сястры законнай, біскупа. Магу сказаць, што святары Віцебскай дыяцэзіі ў гэтай справе нясуць цяжар святарскай паслугі з належным разуменнем і адказнасцю.

*— Дарэчы — аб адказнасці. Не сакрэт, што гэтае паняцце ўсё больш і больш дэвальвуецца. Мы ўсё часцей сутыкаемся з сітуацыяй, калі нават свае непасрэдныя абавязкі людзі выконваюць спехам, абы-як, збольшага. Як кажуць: стук ды грук, абы з рук. Як Вы ставіцеся да такіх праяваў?*

— Безумоўна, не ўхваляю. І спадзяюся, што такім недахопам, як адсутнасць адказнасці, усё-такі сам не грашу. Калі ж хтосьці такі недахоп мае, то, мяркую, усё гэта — недахопы выхавання.

Мне пашанцавала ў тым, што, колькі сябе памятаю, бацькі заўсёды нас, дзяцей, прывучалі нават самую дробную справу выконваць як след. І рабілі гэта не шляхам нейкіх абстрактных павучанняў ці доўгіх нудотных натацый, а, што вельмі важна, уласным прыкладам. Напэўна, гэта атрымлівалася ў іх падсвядома, але ж звычку адказна ставіцца да сваіх абавязкаў яны і мне, і сёстрам тым не менш прывілі, за што я вельмі ім, як і за дар жыцця, і за прыклад веры, удзячны.

*— І Вы, і Вашы сёстры Аліцыя*

*і Ганна, законныя сёстры Кангрэгацыі служабніцаў Езуса ў Эўхарыстыі, прысвяцілі сябе служэнню Богу, Касцёлу. Як паставіліся парафіяне браслаўскай парафіі Народзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі Чэслаў Францавіч і Іяланта Аляксандраўна Буткевічы менавіта да такога выбару дзяцей?*

— Напэўна, так, як і кожныя бацькі паставіліся б... Напэўна, перажывалі, можа, дзесьці ўнутрана і сумняваліся, і не пагаджаліся. Але ў нас у сям'і ніколі не было звычкі штосьці навязваць, дыктаваць, да нечага змушаць. Мы былі вольныя ў выбары жыццёвага шляху і зрабілі так, як адчувалі патрэбным зрабіць.

*— А як бацькі пачуваюцца цяпер, пасля Вашага біскупскага пасвячэння?*

— Маё прызначэнне на біскупства і тата, і мама перажылі нават больш востра, чым святарскае пасвячэнне ці даванне манаскіх абяцанняў сёстрамі. Моцна, асабліва мама, хваляваліся, бо не маглі не ўсведамляць, якая адказнасць кладзецца на плечы сына. Разам з тым падзея гэтая сталася для іх у нейкім сэнсе і матывацыяй для больш інтэнсіўнай, больш глыбокай малітвы. Пакрысе, хоць, можа, і не да канца яшчэ, звыкліся з новым станам рэчаў. Але самае галоўнае, самае важнае — гэта тое, што ўзаемаадносіны паміж намі зусім не змяніліся. Як адчувалася заўсёды крэўная сувязь, так і адчуваецца. Як былі мы блізкімі духоўна, так і засталіся.

*— З чаго пачыналі Вы сваю дзейнасць у ролі біскупа?*

— Як ні банальна прагучыць, з арганізацыі працы дыяцэзіяльнай курыі. Укамплектаванне штату, аптымальнае размеркаванне абавязкаў, вызначэнне кірункаў працы, формаў дзейнасці на бліжэйшую і аддаленую перспектыву — тое, без чаго ніводная ўстанова, ніводная супольнасць, ці то дзяржаўная, ці то грамадская, ці то рэлігійная, нармальна функцыянаваць не могуць.

Другое, не меней, а можа нават і болей важнае — пастырскія сустрэчы з парафіяльнымі супольнасцямі. Каб нармальна працаваць, трэба ведаць, чым жывуць людзі. Найлепшы ж спосаб пазнаёміцца з дзейнасцю парафій, напрыклад, у Відзах ці ў Глыбокім, у Браславе, — наведаць іх. І сам шмат падчас такіх візітаў пабачыш, і святары або вернікі нешта падкажуць, параяць. Дасведчаных у справе касцёльнага ўладкавання людзей шмат, трэба толькі ўмець іх пачуць.

*— Пераход чалавека ў ранг кіраўніка часам самым непрадказальным чынам уплывае на яго ўзаемаадносіны з калегамі, сябрамі. Як у Вас, Эксцэленцыя, у гэтым плане? Адчужэння не адбылося?*

— Сапраўды, змена статусу аднаго з бакоў для сяброўства — выпрабаванне, якое людзі не заўсёды годна вытрымліваюць. Канечне ж, і я асцерагаўся нейкіх праяваў адчужэння, узнікнення бар'еру. Магчыма, дзесьці ён, той бар'ер, і ўзнік, але сказаць, што так ужо выразна ён акрэсліваецца ў стасунках, не магу. Захаваліся сяброўскія, зычлівыя ўзаемаадносіны са святарамі, і я гэтым вельмі даражу і вельмі гэтаму рады.

*— У гамíліі падчас святой Імшы ў дзень гадавіны свайго біскупства Вы працытавалі словы з псальма «Прыходжу, Божа, споўніць Тваю волю»...*

— Так, бо ў пэўнай ступені яны з'яўляюцца адказам на



пытанне аб сэнсе жыцця чалавека. Чуючы такія словы, людзі нярэдка звязваюць іх выключна з Божымі заданнямі. Але ж усё прасцей. Калі чалавек з'явіўся на свет, гэта ўжо частка Божага плану, чалавек ужо існуе дзеля нейкага задання. Пры гэтым нельга забывацца пра перашкоды, якія паўстаюць на шляху кожнага з нас пры яго выкананні. І найбольш цяжкія для пераадолення якраз тыя, што паўстаюць унутры нас саміх, перашкаджаюць нам напоўніцу адчуваць хараство даραванага нам Богам жыцця, нашага зямнога існавання. Вось у такіх сітуацыях і выяўляецца каштоўнасць веры як шляху да суладдзя, гармоніі са светам і ўласным «я». Гэта важна разумець, бо менавіта такое разуменне дае нам моц пераадолець і роспач, і апатыю, і хібы ўласнага характару.

*— Ад пачатку працы ў якасці біскупа Вы двойчы сустракаліся са Святым Айцом Францішкам. Чым сталіся для Вас гэтыя сустрэчы?*

— Першы раз гэта было падчас урачыстасцяў з нагоды кананізацыі папаў Яна XXIII і Яна Паўла II. Другі — падчас сустрэчы Папы з маладымі біскупамі свету, на ўшанаванне 100-годдзя біскупа Чэслава Сіповіча. Такія сустрэчы ў час станаўлення — вельмі важныя. І не так, напэўна, самім фактам сустрэчы з вышэйшым іерархам Касцёла, як адчуваннем прыналежнасці да сусветнага Касцёла, да той спаконвечнай хрысціянскай традыцыі, якую Касцёл увасабляе. А тут яшчэ імя біскупа Сіповіча, земляка, марыяніна... Самі разумееце — неардынарная, знакавая падзея для чалавека, які паходзіць з тых самых мясцінаў, што і слынны біскуп...

*— У Вас прыгожая беларуская мова. Змалку ёю карыстаецеся? І што для Вас родная мова як для чалавека і святара?*

— Сказаць, што карыстаюся змалку беларускай літаратурнай мовай, не выпадае, бо, як і большасць прадстаўнікоў паўночна-ўсходняга дыялекту нашай мовы, ім, гэтым дыялектам, у дзяцінстве ды юнацтве і карыстаўся. З улікам напластаванняў з рускай і польскай, гэта хутчэй быў нават не дыялект, а так званая «трасянка». Падчас вучобы ў Беларускім дзяржаўным аграрна-тэхнічным універсітэце, вядома, усё было па-руску. А пералом настаў з пачаткам вучобы ў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі. Там выбар і быў зроблены на карысць мовы беларускай. Аднойчы і, спадзяюся, назаўсёды.

Агульнавядома, што мова — гэта не толькі сродак камунікацыі паміж людзьмі, але, што важна, і паказчык нацыянальнай тоеснасці чалавека, таго, наколькі ён адчувае сябе прыналежным да каранёў сваёй краіны, свайго рэгіёна, свайго роду. І тое, што сёння, нягледзячы на стагоддзі заняпаду, наша мова пакрысе адраджаецца, мяне асабіста вельмі радуе. Як радуе і энтузіязм людзей, якія аддана працуюць ні ніве яе адраджэння, надання ёй належнага — не на словах, а на справе — статусу.

Што да Касцёла, то беларуская ў нас афіцыйная, і кожны, каму яна дарагая, ёю карыстаецца без ніякіх абмежаванняў. Прынамсі на Віцебшчыне няма ніводнага касцёла, дзе было б інакш. Праводзяцца літургіі і на іншых мовах, але толькі там, дзе колькасць вернікаў — носьбітаў гэтых моваў — пераважае.

*— У свеце назіраецца рэзкае зніжэнне ўзроўню цікавасці да літаратуры, да кнігі. А што чытае біскуп Алег Буткевіч?*

— Прызнацца, часу на чытанне застаецца вельмі мала. Таму найперш — кнігі рэлігійнага зместу. Калі выпадае вымеркаваць час — творы класікі. Напрыклад, Караткевіча. Вось нядаўна перачытаў раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Уражвае ў гэтага пісьменніка своеасаблівасць погляду на праблемы Бацькаўшчыны.

*— Як Вы маглі б пракаментаваць сумнавядомыя падзеі, звязаныя з нападам на рэдакцыю часопіса «Charlie Hebdo»?*

— Калі коратка, то, на мой погляд, яны цалкам адлюстроўваюць сітуацыю ў свеце. З аднаго боку, сведчаць пра парушэнне суадносінаў паміж веравызнаннямі ў плане іх канцэнтрацыі. З другога, ілюструюць недастаткова зацікаўленае стаўленне хрысціянаў да будучыні ўласнай веры. Зрэшты, гэта няпростае пытанне, якое патрабуе і адмысловага аналізу спецыялістаў, і далікатнасці ў азначэннях.

*— У гэтай сувязі, напэўна, мае сэнс больш думаць пра неабходнасць узмацнення душпастырскай працы сярод хрысціянаў?*

— Вядома. Галоўнае заданне Касцёла — пропаведзь Божага слова, Евангелля. І чым большую колькасць людзей мы ахопліваем гэтаю дзейнасцю, тым на большы плён, на большыя духоўныя здабыткі можам спадзявацца ў будучыні. Таму так важная сёння праца і з дзецьмі, і з моладдзю, і з асобамі старэйшага веку, і з сем’ямі, і з людзьмі, якія маюць патрэбу ў нашай падтрымцы, і супраца з веравызнаўцамі іншых канфесій і рэлігій. Паглыбленне веры, а праз яго — узаемаразуменне, паважлівага стаўлення да інтарэсаў і патрэбаў іншага чалавека — вось тое галоўнае, адзіна сапраўднае, што робіць нас годнымі дзецьмі Божымі.

*— Што хацеў бы ксёндз біскуп пажадаць чытачам «Нашай веры»?*

— Думаю, лагічна будзе пажадаць таго, што наўпрост вынікае са зместу нашай гутаркі: цаніць сваю прыналежнасць да хрысціянскай веры, быць больш адважнымі і рашучымі ў яе сведчанні, жыць паводле яе прынцыпаў. Цаніць кожны момант, кожную хвіліну жыцця і рабіць усё, каб быць вартымі такога шчодрага дару Пана Бога.

*— Дзякуй за размову. Поспехаў Вам і Божага благаслаўлення ў Вашай працы ардынарыя дыяцэзіі, моцнага здароўя, плёну ва ўсіх справах!*

*Размаўляў Франц Сіўко.*
*Фота Анатоля Бандарчука.*

# «Да жыцця вечнага ў Богу...»




Дзесяць гадоў таму, 2 красавіка 2005 года, адышоў у вечнасць Вялікі Папа Ян Павел ІІ. Як сам ён напісаў у адным з вершаў: «Не затрымаць і не спыніць бег часу. Ён мінае...» Незаўважна мінула ўжо цэлае дзесяцігоддзе з тых красавіцкіх дзён, калі, здавалася, увесь свет апрануўся ў жалобу, развітваючыся з тым, хто быў маральным аўтарытэтам гэтага свету, хто яшчэ пры жыцці выпраменьваў святасць, сваім апостальскім служэннем даваў жывое сведчанне веры і хрысціянскай любові нават да сваіх ворагаў. Год назад Касцёл афіцыйна пацвердзіў святасць Яна Паўла ІІ: 27 красавіка, у свята Божай Міласэрнасці, ён быў кананізаваны...

Цяпер, молячыся і просячы заступніцтва новага святога, я з асаблівай цеплынёю і ўдзячнасцю згадваю дзве незабыўныя сустрэчы з Янам Паўлам ІІ, якія адбыліся ў 1994 і 1995 гадах у яго летняй рэзідэнцыі ў Кастэль Гандольфо. Тады Бог даў ласку не толькі паразмаўляць з Папам, але й атрымаць яго апостальскае благаслаўленне на нашу рэдакцыйна-выдавецкую працу, якую мы ў той час распачыналі. Потым на працягу многіх гадоў я мела шчасце кантактаваць з яго жывым словам, перакладаючы на родную мову энцыклікі, апостальскія лісты, асабістыя кнігі, а таксама *Тэстамэнт* сёння ўжо святога папы Яна Паўла ІІ. Менавіта ягоны *Тэстамэнт* (побач з рукапісным факсіміле) мы надрукавалі ў спецыяльным нумары «Нашай веры», прысвечаным памяці Яна Паўла ІІ адразу пасля яго адыходу да дому Айца. «Не пакідаю пасля сябе ўласнасці, якою трэба было б распарадзіцца, — напісаў Папа ў *Тэстамэнце*. — Рэчы штодзённага ўжытку, якімі карыстаўся, прашу раздаць паводле меркавання. Асабістыя нататкі — спаліць. Прашу, каб пра гэтыя справы паклапаціўся кс. Станіслаў, якому дзякую за шматгадовае спагадлівае супрацоўніцтва і дапамогу».

Якое ж было маё здзіўленне, калі мінулаю вясною ў адной з кракаўскіх кнігарняў я ўбачыла «Асабістыя нататкі» Яна Паўла ІІ, выдадзеныя асобнаю кнігаю: прыгожы, важкі (больш як на 600 старонак) том. Не хацелася верыць, што гэта тыя самыя «нататкі», пра якія Папа пісаў у *Тэстамэнце*... Разгарнула кнігу і ўбачыла прадмову кардынала Станіслава Дзівіша, якому Святы Айцец якраз і даручаў распарадзіцца сваёю спадчынаю. Былы сакратар Папы, а цяперашні Кракаўскі мітрапаліт, напісаў: «Я не спаліў „нататак“ Яна Паўла ІІ, бо яны — ключ да зразумення ягонай духоўнасці, гэта значыць таго, што найбольш унутранае ў чалавеку: яго адносінаў да Бога, да іншага чалавека і да сябе...»

«Усё гэта так, — падумалася мне, — але як жа быць з захаваннем волі Папы?» Тады я ўсё ж набыла кнігу, як, зрэшты, набываю амаль усё, што датычыць асобы Яна Паўла ІІ і яго спадчыны. Крыху пазней у польскай каталіцкай прэсе давялося сустрэць шмат розных думак і меркаванняў наконт таго, меў ці не меў права былы сакратар Папы публікаваць ягоныя «Асабістыя нататкі». Адны аўтары асуджалі ўчынак Кракаўскага мітрапаліта, іншыя называлі яго смелым і нават мужным. У мяне ж доўгі час не хапала духу падступіцца да чытання прывезенай з Кракава кнігі: было такое адчуванне, быццам зраблю штосьці забароненае... І толькі не так даўно я дастала яе з кніжнай шафы. Мушу прызнацца, што чым больш я паглыблялася ў кнігу, тым слабейшаю станавілася мая першапачатковая нязгода з публікацыяй «нататак». Замест яе ў душы з’яўлялася ўдзячнасць за іх ацаленне, за тое, што гэтыя запісы сталі даступныя нам як










яшчэ адно моцнае і яскравае сведчанне духоўнага жыцця ў Богу і з Богам Вялікага Папы. Сапраўды, як піша кардынал Дзівіш, гэтыя «нататкі» паказваюць нам крыніцу духовасці Яна Паўла ІІ, вытокі «яго ўнутранай сілы і рашучай волі служэння Хрысту да апошняга ўздыху».

Запісы ахопліваюць перыяд з 1962-га па 2003 год, калі Караль Вайтыла быў дапаможным біскупам, потым Кракаўскім арцыбіскупам і кардыналам, а пасля, больш за чвэрць стагоддзя — наступнікам святога Пятра. Гэта ягоныя медытацыі, роздумы, рэфлексіі, іншы раз — толькі пункціры думак, што ўзніклі падчас рэкалекцый, якія ён перажываў паводле ігнацыянскай духовасці. Уражвае дакладны план кожнага дня рэкалекцый, у цэнтры якога была св. Імша. Аўтар «нататак» рыхтаваўся да яе падчас ранішняй медытацыі, а пасля Імшы дзякаваў за дар Эўхарыстыі. Ягоны дзень быў запоўнены малітвамі Брэвіярыя, св. Ружанца, Крыжовага шляху і завяршаўся святою гадзінаю перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам.

У «Асабістых нататках», якія датычаць часцей за ўсё тэматыкі рэкалекцый, Аўтар разважае пра час і вечнасць, пра грэх і святасць, пра жыццё і смерць, пра важнасць і неабходнасць малітвы, пра місійнае пасланніцтва Касцёла і яго прароцкую структуру... Тут шмат важных, глыбокіх думак, якія хочацца занатаваць, каб назаўсёды пакінуць іх у памяці і ў сэрцы: «Радасць ад святарства — пункт апоры ў выпрабаваннях і пераследах, яна іх перамагае»; «Касцёл — не крэпасць, а адкрыты горад...»; «Калі ў Касцёле „крызіс“, то гэта заўсёды крызіс нашай малітвы»; «Трэба пачынаць з навяртання ўласнага сэрца...»

У апошнія гады жыцця запісы Папы становяцца ўсё больш кароткімі. Ян Павел ІІ запісвае ўжо толькі тэмы рэкалекцый і праграму дня, часам — тэмы медытацый і сваіх разважанняў. Вось некаторыя з іх: «Езус — апошняе Слова Бога, бо Ён — Яго першае Слова»; «Сакрамэнт любові і запаведзь любові», «Марыя каля падножжа крыжа»...

Кракаўскае выдавецтва «Знак», у якім выйшлі «Асабістыя нататкі» Яна Паўла ІІ, і рэдакцыйная група, што рыхтавала іх да друку, выканалі велізарную, карпатлівую працу. Наколькі яна была складанаю, можна меркаваць па факсімільных старонках у кнізе. Рэдактарам трэба было не толькі расчытаць драбнюткі, не заўсёды чытэльны почырк Аўтара «нататак», але і расшыфраваць усе скарачэнні, алюзіі і спасылкі. Бачна, што запісы рабіліся для сябе, а не для друку...

«Жыццё праходзіць, — запісаў Папа падчас аднаго разважання. — Але ж гэта не аднабаковы працэс: ад жыцця да смерці. Старэе і прамінае чалавек „вонкавы“, адначасова „дарастае“ чалавек унутраны, „дарастае“ да жыцця вечнага ў Богу...»

Шаноўныя чытачы! У 10-ю гадавіну адыходу «да жыцця вечнага ў Богу» святога Яна Паўла ІІ прапануем вам невялікую падборку ягоных «Асабістых нататак». Іх было няпроста выбраць і «выняць» з кантэксту гэтай унікальнай кнігі, але спадзяюся, што нават такая невялікая падборка стане для вас яшчэ адною магчымасцю адкрыцця духоўнай глыбіні нашага святога Сучасніка — незабыўнага папы Яна Паўла ІІ.

*Крыстына Лялько*

Караль Вайтыла
Ян Павел II

# «Я ўвесь у руках Божых»

## З «Асабістых нататак»

**Рэкалекцыі 1968 г. Тынец, 12, 13, 14. IX**

12.IX

<…>

Медытацыя 1. Мінае 10 гадоў з часу сакры і з часу рэкалекцый перад сакраю ў Тынцы. Час вельмі хутка аддаляе мяне ад гэтай галоўнай падзеі ў маім жыцці, падзеі, якая будзе мець вырашальнае значэнне для маёй смерці і для вечнасці.

Час і вечнасць — не як абстракцыя, а як удзел адной і той жа асобы. Перспектыва ўдзелу ў вечнасці, гэта значыць у Богу. Яе аснова — рэальнасць асобы: яна — з Богам і яна — з чалавекам.

Рэальнасць чалавечай асобы як адзінства, адоранага асаблівую трансцэндэнтнасцю, а несмяротнасць душы… (гэтае пытанне чакае больш глыбокага асэнсавання). Досвед паказвае мне не толькі адзінства быцця, але таксама і яго складанасць. Трансцэндэнтнае = духоўнае; асноваю трансцэндэнтнасці ёсць дух. Усведамленне сутнаснай незнішчальнасці таго, што духоўнае і трансцэндэнтнае ў асобе (у сваёй сутнасці яно такое, што не можа быць знішчана), напрыклад, маральная альбо інтэлектуальная годнасць. Адсюль першая выснова пра існаванне іманентнай прычыны ў чалавеку — таксама незнішчальнай. І адначасова відавочнасць тленнасці цела: уласнае «я» як цела — знішчальнае, як дух — незнішчальнае. <…>

**Рэкалекцыі 1976 г., 21–25 верасня, Закапанэ – Яшчаруўка, у сясцёр уршулянак.**

23.IX

*Meditatio (longa in deambulando)* [Медытацыя (доўгая падчас праходкі)]

Прароцкасць. *Christus profeta magnus* [Хрыстус вялікі Прарок]. У пэўным сэнсе можна гаварыць аб «прароцкай» структуры нашай рэчаіснасці <…>. Бог з'яўляецца Поўняю Быцця, а таксама і Поўняю Праўды. Чалавек па сваёй прыродзе скіраваны да праўды — і да Бога як Поўні Праўды. Гэтая сістэма з'яўляецца асноваю «прароцкай» структуры рэчаіснасці, у якой мы прабываем і дзейнічаем. Бог як Поўня Праўды дае сябе чалавеку. Ён не толькі ў сваёй унутранай Таямніцы ёсць Словам, але таксама і ў Слове наладжвае кантакты з чалавекам. Гэта Яго цалкам вольная ініцыятыва. Разам з тым яна адпавядае той скіраванасці да Праўды, якая належыць натуры чалавека, ягонай духоўнасці.

Прарок — гэта той, хто гаворыць ад імя Бога, чалавечаю моваю перадае Ягоную праўду, прынамсі ў пэўных межах. Такім чынам, прароцкасць лучыцца з Аб'яўленнем і вераю. «*Multifarie multisque modis loquens Deus olim in Profetis, novissime locutus est nobis in Filio*» [«Шмат разоў і па-рознаму прамаўляў калісьці Бог да айцоў нашых праз прарокаў, у гэтыя апошнія дні прамовіў да нас праз Сына»]. Хрыстус з'яўляецца паўнатою Аб'яўлення, «апошнім Словам» Слова. На Ім і на Яго Апосталах яно «заканчваецца». Адначасова Хрыстус дзеліцца сваёю прароцкаю місіяй <…> з тымі, хто прымае Яго слова. Адзін з галоўных атрыбутаў Народу Божага — удзел «*in munere profetico*» [«у прароцкай місіі»] Хрыста.

Такім чынам, прароцкасць — гэта ўласцівасць вызнаванай веры, а яшчэ больш — веры, якая абвяшчаецца праз навучанне і таксама праз учынкі, якія даюць сведчанне веры. Агромністы маштаб і аб'ём гэтага ўдзелу адкрыў Другі Ватыканскі Сабор. Абвяшчэнне Евангелля мае асаблівае значэнне для біскупаў; у сваю чаргу — гэта заданне святароў, манахаў і свецкіх. У прароцкай структуры Касцёла трэба скаардынаваць веру, навуку, веды (тэалогію) і сумленне, бо асаблівым чынам існуе прароцкасць сумлення і яна важная для ўсіх, а таксама для тых, што не вераць, але «шчырым сэрцам шукаюць Праўды». Бо ўся прароцкая структура Народу Божага знаходзіць падтрымку не толькі ў Слове Бога, але таксама і ў такой істотнай для чалавека скіраванасці да Праўды. Адно праз другое фармуе *munus profeticum* [прароцкую місію] у яе рэальным вымярэнні. Галоўнаю праблемаю застаецца тое, як чалавек разумее рэчаіснасць — як чалавек разумее Слова Бога ў ёй, каб сведчыць пра яго.

**[X 1978]***

13 кастрычніка 1978 [года] мой дарагі сябра бп Анджэй Дэскур перажыў нечаканы ўдар, які выклікаў у яго частковы параліч. Нягледзячы на лячэнне ў клініцы Джэмэллі, а пасля ў Швейцарыі, параліч не адступіў.

14 кастрычніка я наведаў Анджэя ў шпіталі па дарозе на Канклаў, які павінен быў абраць наступніка пасля смерці Яна Паўла I (26. VIII – 28. IX 1978).

Я не магу не суаднесці факту майго абрання 16 кастрычніка гэтым наступнікам з падзеяй, якая на 3 дні апярэдзіла яго. Ахвяра майго Брата ў біскупстве Анджэя здаецца мне як бы падрыхтоўкаю да гэтага

факту. Праз яго ўсё цярпенне было ўпісана ў таямніцу Крыжа і Адкуплення, здзейсненага Хрыстом.

Я знаходжу тут пэўную аналогію з падзеяй, якая адбылася 11 гадоў назад: падчас кансісторыі ў Рыме, дзе я быў далучаны да Калегіі Кардыналаў, мой сябра кс. Мар'ян Яворскі страціў руку ў чыгуначнай катастрофе пад Нідзіцаю. Анджэй, працуючы з 50-х гадоў у Камісіі па сродках масавай інфармацыі (апошні час яе кіраўніком), увёў мяне ў курс многіх важных спраў Апостальскай Сталіцы. Апошнім словам гэтага «абраду пасвячэння» стаў ягоны крыж.

*Debitor factus sum…* [Я стаў даўжніком…]

**З рэкалекцый 1980, Рым, капліца св. Матыльды, 24.II–1.III**

4. *Meditatio conclusiva* [Заключная медытацыя] (XXII канферэнцыя)

Пасхальная радасць — радасць ад святарства.

Радасць ад святарства — гэта ў пэўнай ступені асноўная ўмова спаўнення святарскай місіі і абуджэння пакліканняў. З гэтым паяднана дух. руплівасць (*fervor*). Умоваю радасці з'яўляецца братэрская *communio* (супольнасць).

Радасць ад святарства — пункт апоры ў выпрабаваннях і праследах, яна іх перамагае. Але яна знікае, калі не хапае жывога кантакту з Хрыстом, з Эўхарыстыяй, са Словам Божым.

Гэтая радасць — дар Божы, трэба прасіць аб ёй, пастаянна захоўваючы поўную гатоўнасць сэрца.

Радасць вашая дасканалая ў небе. Касцёлу і свету вельмі патрэбныя святары такой поўнай радасці. <…>

**З рэкалекцый 1981 г., Рым, капліца св. Матыльды, 8.III–14.III**

12.III

4. XIV канферэнцыя. *Anti-testimonianza*: Антысведчанне.

Антысведчаннем з'яўляецца грэх!

Скрыжалі «дэкалогу» (разбітыя Майсеем): закон, дадзены людской натуры. Потым — закон Евангелля: «Я — Пан Бог твой, які вывеў цябе з зямлі егіпецкай, з дому няволі». Грэх скіраваны супраць праўды і справядлівасці. Бог мае галоўныя правы ў адносінах да стварэння, да чалавека: «Фармуляр правоў Бога»! <…>

Пытанне: ці ўспрымаю я сваё служэнне ў Пятровай Сталіцы як абарону Божага права, правоў Стварыцеля і Адкупіцеля?

Калі грэх з'яўляецца антысведчаннем, то асаблівым чынам ім з'яўляецца грэх святара, якога Хрыстус кліча да асаблівага «сяброўства» з Ім <…> —

Грэх — антысведчанне ў адносінах да Жыцця, звышнатуральнага арганізму Ласкі. Асабліва — грэх святара, які павінен служыць гэтаму Жыццю!

Грэх скіраваны супраць годнасці чалавечай асобы. Дзякуючы Ласцы чалавек з'яўляецца святыняю Духа Св[ятога]. Грэх знішчае гэту святыню. Праз грэх чалавек пазбаўляецца годнасці сыноўства Божага. Грэх «памяншае» чалавека.

Грамадскі аспект граху: ён раніць Касцёл як супольнасць. Асабліва — грэх святара. <…>

**З рэкалекцый 1983 г. Рым, капліца св. Матыльды, 20.II–26.II**

22.II

*Cat. S. Petri* [свята катэдры св. Пятра]

<…>

Хрысталагічная медытацыя (IX)

Пасха. У Ізраэлі яна адзначалася ў сям'і, у дамах (не ў святыні!). Штогод Пасха была вяртаннем да Божага Плану, выйсцем з хаосу.

Такім чынам, Пасха стала святам хрысціянаў, якое адзначаецца ў сям'і Касцёла як супрацьпастаўленне сілам хаосу і распаду. <…>

Ізраэль успадкаваў пасху ад намадаў, для якіх яна была святам вясны. Адсюль такі пасыл: мы знаходзімся ў дарозе. <…>

Хрысціянская пасха — гэта пераход. Мы ў дарозе да іншага Жыцця, да іншай Айчыны. Касцёл — не крэпасць, а адкрыты горад. Верыць — гэта значыць «выходзіць» з ночы, з хаосу — так, як «выйшаў» Езус: Вялікі чацвер. Мы павінны выходзіць разам з Ім у кірунку *mysterium paschale* [пасхальнай таямніцы].

**5. Канф. (VI) Медыт.**

«Калі моліцеся, кажыце: Ойча…»

Пане, навучы нас маліцца… Хрыстус у адказ аб'яўляе сваё ўласнае жыццё менавіта ў гэтых просьбах, якія з'яўляюцца Яго просьбамі і памкненнямі: разам з тым — гэта Дух Сына, Жыццё Сына. Колькі разоў прамаўляем гэтую малітву, кожны раз трэба ўваходзіць у жыццё Сына ў Духу, які ўсклікае ў нашых сэрцах: Абба, Ойча! «Ойча наш» — гэта сінтэз, узнаўленне ўсёй малітвы вучняў, а перад тым — малітва псальмаў і ўсяго Старога Запавету. Гэта малітва («Ойча наш») уключае нас ва ўсю пасхальную Дзею Хрыста: выбаўленне ад зла (*libera nos a malo* [збаў нас ад злога]).

Уся [малітва] «Ойча наш» прасякнута рэальнасцю гэтага паяднання з Айцом, якое здзейсніў Хрыстус у Духу Святым: будзь воля Твая як у небе, так і на зямлі. Ад паяднання з Айцом да паяднання з людзьмі [адпусці… як і мы адпускаем вінаватым нашым]… не ўводзь нас у спакусу…

Калі б сам Хрыстус не прамовіў словаў малітвы Панскай, ніводзін чалавек не здолеў бы «вынайсці» гэтай малітвы. <…>

* Гэтым запісам распачынаюцца нататкі Караля Вайтылы ўжо як папы Яна Паўла II (заўв. пер.).

**7. Канф. (VII) Медыт.**

«Калі моліцеся, не гаварыце шмат...» Тут гаворка ідзе не пра шмат словаў, а пра адкрыццё сэрца Айцу ў Духу Святым. У гэтым самым духу прамаўляе св. Павел, які заклікае пастаянна дзякаваць за ўсё Айцу. Малітва вымяраецца не колькасцю словаў, якія павінны былі б «гарантаваць» выслухоўванне просьбаў, а менавіта гэтаю падзякаю за ўсё. Паўлава малітва — перадусім сузіранне Божага дзеяння ў нас і ва ўсім. Разам з тым гэта малітва «рэалістычная», без «эйфарычнага» аптымізму.

Паўлава падзяка тычыцца не мінулага, а сённяшняга: яна за тое, што Айцец пастаянна дзейнічае моцаю Хрыстовага Адкуплення. Малітва нашага жыцця — і жыццё нашай малітвы, бо мы з'яўляемся «Божымі супрацоўнікамі».

Паўлава малітва прыпадабняецца да малітвы самога Хрыста. Гэта спрадвечная падзяка, якая сыходзіць з людскога сэрца. Таксама маленне, якое ёсць у малітве Хрыста, выказваецца ў форме падзякі. <…>

**15. Канф. (VIII) Медыт.**

Малітва Маці Хрыста. Яна нічога не кажа сама пра сваю малітву. Малітваю з'яўляецца Яе пастаянная адкрытасць Богу. Перадусім — гэта малітва маўчання, асабліва пад крыжам.

*Magnificat* — гэта цалкам Яе малітва і разам з тым — яна ўся з традыцыі Ізраэля (асабліва з Песні Ганны, з псальмаў), і таму адначасова не Яе.

*Magnificat* не парушае маўчання Марыі, а з'яўляецца яго часткаю. Гэта маўчанне — услухоўванне ў «Мову Духа Св.». Менавіта такою была малітва Марыі.

Сын Марыі навучыўся малітве свайго Народу ад Маці. На гэтым шляху да Яго трапіла Божае Слова, у якім праявілася воля Бога ў адносінах да Яго — Месіі — і воля збаўлення чалавека. «Павінна збыцца ўсё напісанае пра Мяне ў Законе Майсея і ў прароках, і ў псальмах». Гэтае «павінна» — праява не фаталізму, а Любові. «Ці вы не ведалі, што Мне трэба быць у тым, што належыць Айцу Майму?».

Маліцца псальмамі разам з Марыяй. <…>

**17. Канф. (IX) Медыт.**

*Panem nostrum cotidianum* [«Хлеба нашага штодзённага»]. Сын беднай сям'і з Назарэта, Хрыстус ведаў вартасць штодзённага хлеба. «Хлеб» — гэта сімвал «працы Бога», а таксама — плод людской працы. Людская праца і ўся людская творчасць прасякнута Божаю справаю стварэння. Такі ж сэнс маюць хлеб і віно на эўхарыстычным алтары. Пан выбраў плады працы чалавека — самыя простыя і самыя важныя.

Словы св. Паўла падкрэсліваюць неабходнасць дзяліцца з іншымі (з галоднымі); эўхарыстычны Хлеб здзяйсняе тут асабліва суровы суд: такім чынам Эўхарыстыя становіцца знакам «выйсця» (*exodus*) для ўсялякага людскога эгаізму. У постаці хлеба (і віна) Хрыстус радыкальна «дае» сябе ўсім.

Тут крыніца кожнай малітвы Касцёла і ўсяго апасталату.

(Малітва — праз Марыю). <…>

***Exercitia Spiritualia* [Духоўныя практыкаванні], 1987 г., 8.III–14.III**

11. III

14. Канф. (XII). Медыт.

«Устань, ідзі ў Ніневу…» Місійны заклік. Ізраэль Старога Запавету жыў, хутчэй, уяўленнем, што народы прыйдуць да яго (у Ерузалем). Уваскрослы Хрыстус даў Апосталам наказ: «ісці да» народаў ажно ва ўсе канцы свету. Місійны мандат.

Такая місійная «напружанасць» адпавядае Таямніцы Добрага Пастыра, які «шукае» кожнай згубленай авечкі, каб увесці яе ў аўчарню. Адсюль маральны «прымус» евангелізацыі ва ўсім сучасным свеце. Хрысціянін не можа даць паглынуць сябе прамінальнаму «свету» і сілаю сваёй веры павінен аб'яўляць і паказваць «свет непрамінальны».

«Свет (асабліва сучасны) пазбаўляе ўпэўненасці ў сабе. Хрыстус дадае адвагі: «Я з вамі…», «дадзена Мне ўсялякая ўлада на небе і на зямлі»… «Я перамог свет». Такім чынам, пасланніцтва Касцёла не рэалізуецца ў пустэльні: гэта свет, у якім прысутнічае Бог і дзейнічае моцаю пасхальнай таямніцы Хрыста. Хоць часам гэта Бог невядомы. Хрыстус аддаў у рукі сваіх вучняў, у рукі Касцёла — Аб'яўленне гэтага невядомага Бога.

Ёна палохаецца сваёй місіі, не давярае… Бог яго навяртае… і Ёна навяртае Ніневу. Ён становіцца прыладаю збаўчай волі Бога, поўнага міласэрнасці. Таму трэба пачынаць з навяртання ўласнага сэрца…

***Exercitia Spiritualia* [Духоўныя практыкаванні], 1998 г., 1–7.III**

4.III

15. Медыт. XIII

«*Dalla preghiera alla missione*» [«Ад малітвы да місіі»]

Як жа можна ўсім служыць без малітвы? Без Хрыста?

«Без Мяне нічога не можаце зрабіць». Наша святарства ўзрастае разам з малітваю. Малітва — гэта крыніца крэатыўнасці; маліцца — гэта значыць сустракаць Бога, які прыходзіць.

Калі ў Касцёле «крызіс», то гэта заўсёды крызіс нашай малітвы. <…>

Гаварыць пра Хрыста — значыць гаварыць, сыходзячы з Яго багацця. Такі досвед Хрыстовых апосталаў усіх часоў. <…>

*Пераклад з польскай мовы*
*Крыстыны Лялько.*



Аркадзь Куляха OCD

# СВЯТАЯ ТЭРЭЗА АД ЕЗУСА – НАСТАЎНІЦА КАМУНІІ З БОГАМ

| | |
|---|---|
| Vuestra soy, para Vos nací:<br>¿Qué mandáis hacer de mí?<br>Soberana Majestad, eterna Sabiduría,<br>Bondad buena al alma mía; | Я — Твая, я для Цябе нарадзілася<br>Што пажадаеш зрабіць з мяне?<br>Найвышэйшая Веліч, Мудрасць вечная,<br>Вялікае Дабро для маёй душы. |

«*Para Vos nací*» («Я для Цябе нарадзілася») — гэтыя словы абраныя дэвізам юбілею 500-годдзя нараджэння святой Тэрэзы ад Езуса, слушна названай вялікай. У адным з вершаў святая цалкавіта аддаецца Богу, які яе стварыў, і пытаецца, чаго Ён ад яе чакае і хоча. Св. Тэрэза адкрыла ў Богу праўду пра сябе, знайшла сябе ў Ім, таму прагнула ўвайсці з Ім у адносіны, прыязнасць, дыялог і блізкасць, каб дазволіць Богу ажыццявіць свой план у ёй. У адным сваім творы яна напіша: «О мой Божа! Бясконцая Мудрасць, без меры і межаў, вышэйшы за ўсялякі розум анёлаў і людзей! О Любоў, якая любіш мяне больш, чым я сама сябе любіць умею! Няўжо я хацела б прагнуць чагосьці звыш таго, што Ты даць мне хочаш?»[1]. Менавіта згода на ўсялякае Божае дзеянне, гатоўнасць быць Яго слугою, пакора і паслухмянасць узнялі іспанскую жанчыну — манашку, якая жыла ў складаны час XVI стагоддзя, на вышыні кантэмпляцыі.

**Жыццё святой Тэрэзы**

*Дзяцінства і маладосць*

Тэрэза Санчэс-дэ-Сепеда і Аўмада (Teresa Sánchez de Cepeda y Ahumada) нарадзілася 28 сакавіка 1515 года ў Авіле шостым дзіцем у заможнай шляхецкай сям'і. Мела дзвюх сясцёр і дзевяць братоў. Сама святая так успамінае сваю сям'ю: «З Божай ласкі я мела цнатлівых і багабоязных бацькоў. Мой бацька вельмі любіў чытанне добрых кніг <…>. Гэтыя чытанні, а таксама клопат, з якім маці вучыла нас малітве і пашане да Найсвяцейшай Панны Марыі і святых, пачалі пабуджаць мяне да Божай любові»[2]. Ужо ў гэтых першых радках успамінаў святая Тэрэза звяртае ўвагу на ролю бацькоў у выхаванні і фарміраванні дзяцей як адказных і свядомых людзей.

---

Айцец **Аркадзь Куляха OCD** нарадзіўся 16 ліпеня 1966 г. у Хмельніку (Польшча). Пасля заканчэння сярэдняй школы ўступіў у Ордэн кармэлітаў босых. Семінарыю пры ордэне скончыў у Кракаве, дзе ў 1993 г. атрымаў святарскае пасвячэнне, пасля якога працаваў у Гудагаі і Нарачы. З 2001 года працуе ў Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі імя св. Тамаша Аквінскага ў Пінску. Абараніў ліцэнцыят па маральнай тэалогіі ў Люблінскім каталіцкім універсітэце.

Важны ва ўсе часы прыклад бацькоў трэба лічыць найлепшым і першым «букваром» і катэхізісам. Св. Тэрэза піша, што ў хрысціянскім узрастанні яе падтрымлівалі менавіта бацькі, якія мелі «пашану і ўпадабанне толькі да цноты»[3]. Чытаючы наступныя радкі Кнігі жыцця святой, мы даведваемся пра яе бацьку, які быў міласэрны, літасцівы, праўдамоўны і праведны. «Ніхто, — піша Тэрэза, — ніколі не чуў, каб ён прысягаў або казаў дрэнна пра іншых»[4]. Сваю маці яна запомніла як сціплую, мудрую і адкрытую на ўсіх жанчыну. Відавочна, што ў бацькоўскім доме трэба шукаць крыніцу сціпласці, пакоры, умілавання праўды, імкнення да праведнасці і святасці будучай святой.

Ужо ў дзяцінстве Тэрэза захаплялася жыццём святых. Яна сама ўзгадвае, што ва ўзросце сямі гадоў, разам са сваім братам Радрыга вырашыла пайсці ў Афрыку, каб там аддаць сваё жыццё як мучанікі. Яны патаемна ўцяклі з хаты, каб здзейсніць задуманае, аднак ім перашкодзіў дзядзька, які спыніў іх ужо за мурамі горада. Калі мучаніцтва не атрымалася, Тэрэза абрала сабе куток у садзе, каб там наследаваць пустэльнікаў і пакутнікаў. Асаблівым выпрабаваннем для 12-гадовай Тэрэзы стала смерць яе маці. Менавіта тады яна аддае сябе ў духоўную апеку Найсвяцейшай Панне Марыі, абіраючы Яе за маці. Наступныя гады — гэта складаны падлеткавы ўзрост, пра які Тэрэза піша з жалем, бо спазнала тады, што «натура чалавека больш да злога схільная, чым да добрага»[5]. Успамінаючы гэты перыяд, яна дае актуальную і сёння параду ўсім бацькам, каб асаблівую ўвагу звярталі на тое, з кім іх дзеці прабываюць у маладосці.

*Сталенне і пачатак манаскага жыцця*

Даручаная айцом апецы сясцёр аўгустынак, Тэрэза вырашае цалкам прысвяціць сябе Богу ў манаскім жыцці, аднак бацька не даваў на гэта згоды. У 1536 г. Тэрэза ўцякла з дому і патаемна ўступіла ў Авіле ў кляштар кармэлітак, прысвечаны святому Юзафу. Убачыўшы рашучасць дачкі, бацька благаславіў яе.

Першыя манаскія гады яна пражыла руплліва і ў радасці. Кляштар стаў для яе сапраўдным домам. На жаль, праз 7 гадоў раптоўная і моцная хвароба прымусіла яе пакінуць клаўзуру і прайсці курс лячэння. Будучы амаль пры смерці, яна атрымала дар аздараўлення дзякуючы заступніцтву святога Юзафа, якога раіла як настаўніка духоўнага жыцця і малітвы тым, хто такога яшчэ не мае. Час хваробы Тэрэза выкарыстала для чытання духоўнай літаратуры. Асаблівую карысць прынёс ёй «*Трэці духоўны алфавіт*» Францішка дэ Асуна з Ордэну францішканаў. З дапамогаю гэтай кнігі маладая манашка вучылася ўнутранай малітве і кантэмпляцыі — пазней іх вялікай настаўніцай стане яна!

Падчас беатыфікацыйнага працэсу сястры Тэрэзы ад Езуса сведкі пацвердзілі, што ў манаскім жыцці яна не рабіла памылак звыш тых, якія здараюцца нават у добрых асобаў; хоць хварэла, але аддавалася малітве нават больш, чым было прадпісана сёстрам у кляштары. Спаведнікі святой засведчылі, што яна ніколі не ўчыніла ніякага цяжкага граху. Аднак у «Кнізе жыцця» Тэрэза абвінавачвае сябе ў тым, што дзеля кантакту з людзьмі пакідала Бога, што ўводзіла яе душу ў стан рассеянасці і сухасці[6]. Яна была ўпэўненая, што не заслугоўвае блізкіх адносінаў з Богам, бо занядбала ўнутраную малітву. Пазней яна напіша: «…цэлы год і даўжэй я жыла без духоўных разважанняў, дзеля вялікай, як мне здавалася, пакоры, а была гэта найбольшая з усіх спакусаў»[7]. Было гэта ў 1542 годзе. Кляштар святога Юзафа ў Авіле даволі часта наведваў бацька Тэрэзы, якому Тэрэза і прызналася ў сваёй сухасці, хоць і не цалкавіта. Дон Алонза, які сам практыкаваў унутраную малітву, навучаны ёй, дарэчы, дачкою, зразумеў сапраўдную крыніцу рассеянасці Тэрэзы і перажываў па гэтай прычыне і, напэўна, маліўся за яе.

*Сустрэча з любоўю Бога*

Важным элементам духоўнага жыцця святой Тэрэзы ад Езуса была споведзь, падчас якой яна раскрывала сваю душу духоўнаму кіраўніку. Усхваляваная смерцю свайго бацькі, Тэрэза прызналася спаведніку ў сваім стане. Духоўны айцец загадаў ёй вярнуцца да ўнутранай малітвы, што стала пачаткам новага духоўнага вопыту Тэрэзы, якая на працягу дзесяці наступных гадоў будзе з дапамогаю ласкі змагацца за сваё поўнае вяртанне да Бога[8]. Кульмінацыйным момантам яе поўнай перамены стала сустрэча з бічаваным Езусам у выяве, змешчанай з нейкай нагоды ў кляштарнай капліцы. Тэрэза пазней напіша: «…такі вялікі жаль ахапіў мяне пры думцы, як дрэнна я адплочваю за гэтыя раны, што мне здавалася, нібы сэрца разрываецца; упаўшы перад Ім на калені, я са слязьмі маліла Пана ўзмацніць мяне так, каб больш Яго не абражала»[9]. Жаданне цалкавітага аддання сябе Богу дапоўніла чытанне «Споведзі» святога Аўгустына: «…мне здавалася, што я бачу свой уласны вобраз <…> О Божа, надта пакутуе душа, калі страціць дадзеную ёй свабоду»[10]. Тэрэза хутка парве рэшткі зямных прывязанасцяў, каб знайсці «большае дабро, якое дае ўнутраная малітва»[11], і, адданая без рэшты Богу, задае сабе пытанне, што яшчэ можа для Яго зрабіць.

*Рэфармацыя і рэформа св. Тэрэзы*

Бог адкрывае перад руплівою і з'яднанаю з Ім кармэліткаю новыя духоўныя далягляды. XVI стагоддзе — гэта час рэфармацыі ў Еўропе. Святая Тэрэза вельмі пакутуе па гэтай прычыне і прагне, каб сёстры больш маліліся за Касцёл і пакутавалі за грахі іншых. Апошнія дваццаць гадоў жыцця святой будуць перапоўненыя жаданнем

большага праслаўлення Бога. Калі навокал знішчаюцца касцёлы і не ўшаноўваецца Найсвяцейшы Сакрамэнт, Тэрэза атрымлівае ад Бога наказ заснаваць кляштар, у якім «будзе квітнець руплівае служэнне Богу»[12]. З гэтага моманту яе жыццё пераменіцца цалкам — у перыяд рэфармацыі яна таксама стане рэфарматаркаю, аднак у іншым вымярэнні: ёй будзе дадзена заснаваць 18 новых жаночых кляштараў, у якіх сёстры будуць адараваць Найсвяцейшы Сакрамэнт, і ў часе, калі Бог меў так шмат ворагаў і так мала сяброў, прынамсі гэтыя апошнія былі Яго праўдзівымі сябрамі[13]. Пазней былі заснаваныя яшчэ 15 мужчынскіх кляштараў, якія былі плодам яе малітвы і дзейнасці пры дапамозе святога Яна ад Крыжа.

Тэрэза, якая прагнула аддацца ціхай малітве ў клаўзуры, будзе вымушана змагацца з рознымі складанасцямі і перашкодамі, сустракацца з рознымі людзьмі, шмат падарожнічаць… У гэты ж час яна таксама напіша тысячы лістоў, паэтычных твораў і шэдэўраў духоўнай літаратуры: «*Кнігу жыцця*», «*Шлях да дасканаласці*», «*Унутраны замак*», а перад смерцю — «*Кнігу фундацый*». Як гэта магчыма і якім коштам зроблена? Не са шкодаю для духоўнага развіцця і малітвы — асноўных сфераў яе дзейнасці. Тэрэза сама адказвае на гэта пытанне, паказваючы на Бога як на крыніцу сваіх чынаў: «…чаго хоча Ягоная Веліч, тое не можа не ажыцявіцца»[14].

*Дарога да хвалы*

Кляштар у Авіле быў наймілейшым месцам для спрацаванай сястры Тэрэзы ад Езуса. У ім, магчыма, яна хацела б заставацца да моманту поўнага спаткання з Панам у вечнасці, аднак Ягоная воля была іншаю. Увосень 1582 года па загадзе правінцыяльнага вікарыя Тэрэза паехала ў Альба дэ Тормэз, каб там даглядаць хворую княгіню, — тая выздаравела да прыбыцця Тэрэзы, але сама святая моцна захварэла і 4 кастрычніка 1582 года памерла. У захапленні любові, апошнім дыханнем яна прамовіла словы: «Урэшце, Пане, я — дачка Касцёла». Усё сваё жыццё св. Тэрэза любіла Касцёл і дзеля дапамогі яму заснавала новыя кляштары. За кожнае слова, запісанае ў Святым Пісанні, за кожную праўду веры, за кожны, нават найменшы касцёльны абрад яна гатовая была памерці[15].

У 1622 годзе Тэрэза з Авілы была кананізаваная папам Грыгорыем XV, а ў 1970 годзе папа ПавелVI абвясціў яе першай жанчынай, якая стала доктарам Касцёла. Праз стагоддзі і сёння св. Тэрэза вучыць новыя пакаленні сваіх нашчадкаў у Кармэлі і вернікаў сяброўскім адносінам з Богам, які ёсць Любоў, і з усведамленнем сваёй ролі ў Касцёле кажа: «Няхай будзе благаслаўлёны і праслаўлены Пан, ад якога паходзіць усё, што толькі добрае ў думках, словах і ўчынках нашых»[16].

**Тэрэза як пісьменніца і настаўніца духоўнага жыцця**

Шчодра надзеленая натуральнымі дарамі, св. Тэрэза атрымала таксама пісьменніцкую харызму, дзякуючы якой яна перадала тэалагічную праўду, абапіраючыся на свой уласны вопыт. Трэба занзначыць, што пісаць яна пачала па загадзе сваіх духоўных кіраўнікоў, настаяцеляў або самога Хрыста. Творы Тэрэзы — гэта багатая крыніца разнастайнага духоўнага вопыту, гэта яе сведчанне, яе глыбокае духоўнае прасвятленне, гарманічная і грунтоўная духоўная дактрына[17].

1) *La Vida («Кніга жыцця»)* — міласэрнасць Пана буду ўсхваляць вечна.

У іканаграфіі святая Тэрэза прадстаўлена ў габіце; анёл працінае ёй сэрца стралою любові, бачны крыж, пяро, голуб, кніга і надпіс *Misericordias Domini in aeternum cantabo* («*Міласэрнасць Пана буду ўсхваляць вечна*»). Менавіта гэтыя словы могуць перадаць змест «*Кнігі жыцця*». Аўтарка распавядае пра ўсё, што ў ёй учыніў міласэрны Бог, тлумачыць значэнне і ўзнёсласць гісторыі збаўлення, якая рэалізуецца ў жыцці чалавечай асобы. У гэтай кнізе святая, «кажучы пра кантэмпляцыю жывога Бога і справу заснавання новых кляштараў рэфармаванага ёю Кармэля, дасканала і з вялікай мудрасцю прадстаўляе таямніцу Хрыста, прысутнага ў Касцёле сакрамэнтальна. Усклікаючы ў хвіліну смерці «*Я — дачка Касцёла*», святая Тэрэза перадае стан свайго духу, дзякуючы якому кантэмпляцыя Бога ў Хрысце становіцца ў любові кантэмпляцыяй Яго Касцёла, прагненне прысвяціць сябе Богу — прагненнем прысвячэння сябе Касцёлу»[18].

2) *Camino de Perfección («Шлях да дасканаласці»)* — быць сапраўдным сябрам Бога.

Абапіраючыся на тэкст малітвы *Ойча наш*, св. Тэрэза сцвярджае аскетычны фундамент духоўнага жыцця, неабходнасць развіцця цнотаў і вартасць спалучэння вуснай і ўнутранай малітвы. Спазнаўшы веліч і дабрыню Бога, яна заахвочвае да таго, каб малітва была «размовай сяброў, сямейнаю блізкасцю з Богам, з якім мы прабываем ва ўкрытасці, ведаючы, што Ён нас любіць»[19]. Малітва, паводле святой Тэрэзы, як вынік любові да Бога, калі стварэнне цалкам яднаецца са сваім Створцам, вядзе да апостальства, сведчання перад іншымі аб веліччы Пана і Яго любові[20].

3) *El castillo interior («Унутраны замак»)* — раскоша каралеўскіх палацаў.

Сем апартаментаў ці памяшканняў, па якіх Тэрэза вядзе чытача, — гэта этапы духоўнага жыцця, працэс развіцця Божага жыцця ў чалавеку, які можа стаць удзельнікам таямніцы Тройцы і Хрыста ажно ў найвышэйшых ступенях містычнага вопыту. Святая ведае, якія скарбы хавае чалавечая душа, і прагне дапамагчы выкарыстаць іх для асабістага шчасця іншых: «Калі Пан увядзе душу ў сваё

жытло, якім ёсць яе ўласнае нутро, душа гэтая становіцца падобнай да неба, у якім жыве Бог»[21].

4) *Libro de las fundaciones («Кніга фундацый»)* — кантэмпляцыя Бога і дзеянне ў Яго імя.

Святая Тэрэза ў гэтай кнізе хоча падзяліцца з чытачом сваім багатым вопытам фундацыі, г. зн. заснавання новых кляштараў. Яна гаворыць пра ласкі, якія атрымала разам з сёстрамі ад Бога, пра складанасці і праблемы, пра сваю радасць, а таксама пра сум і цярпенні, якія перажывала. У тэксце паказана спалучэнне глыбокай малітвы і пастаяннага прабывання ў Божай прысутнасці з вялізнай знешняй актыўнасцю як бы спалучаных евангельскіх Марыі і Марты (пар. Лк 10, 41). Святая ведае, што дзейнічае моцаю Бога, што ад Яго атрымлівае сілы: «О Божа вялікі! Як дзівосна аб'яўляеш сваю магутнасць, дадаючы смеласці маленькаму чарвячку»[22].

5) *Libro de las relaciones («Духоўныя справаздачы»)* — Божая ласка мацнейшая за чалавечую слабасць.

Простымі словамі святая Тэрэза апісвае свае духоўныя перажыванні, парады спаведнікаў і духоўных кіраўнікоў, а таксама атрыманыя ад Бога ласкі. З гэтага тэксту паўстае жывая рэальная жанчына, якая ўмілавала праўду, імкнулася цалкавіта аддацца Богу і была звязаная з Ім цесным вузлом любові. Містычны вопыт дазволіў ёй непасрэдны кантакт з Богам, які размаўляў з ёю і пабуджаў да дзеяння: «Калі я разважала, якую любоў вінная Пану Езусу <…>, Ён сказаў мне: з гэтага моманту імкніся і старайся, каб служыла Мне яшчэ больш рупліва, чым дагэтуль»[23].

6) *Conceptos del amor de Dios («Разуменне Божай любові»)* — пацалунак любові.

Св. Тэрэза адважылася ў XVI стагоддзі, у час іспанскай інквізіцыі, напісаць каментарый да кнігі



Аб'яўленне Святога Духа святой Тэрэзе Авільскай.
Пітэр Паўль Рубенс. 1612-1614. Ратэрдам. Музей Боймнаса ван Бёнінгема.

Старога Запавету — да *Песні Песняў Саламона*. Трэба зазначыць, што ў Іспаніі не было перакладу гэтай кнігі Бібліі, а каментарыі псеўдамістыкаў фальсіфікавалі сапраўдную духоўнасць. Тэрэза, абапіраючыся на айцоў Касцёла, бачыла ў гэтай кнізе алегарычны сэнс. Любоў паміж Боскім Абраннікам і душою была часткаю яе жыцця, таму біблійныя вобразы і звароты так адпавядалі візіі духоўных заручынаў. Святая паказвае тут таксама дзеянне Духа Святога: «Думаю, што Дух Святы дзейнічае як пасрэднік паміж душою і Богам, і Ён сам узбуджае ў душы такія палкія прагненні і так набліжае да яе гэты агонь з неба, каб уся разгарэлася ў ім. О Пане, якая вялікая міласэрнасць Твая, з якою абыходзішся з душамі! Будзь благаслаўлёны навекі!»[24].

7) *Exclamaciones del alma a su Dios («Воклічы душы да Бога»)* — крыніца жывой вады.

Св. Тэрэза знайшла крыніцу жывой вады, таму ў шчасці, з глыбіні сваёй душы яна ўсклікае да Бога. Гэты твор — не толькі кніга, гэта малітоўнік і ўзор малітвы, напісаны жанчынай, якая атрымала містычнае пазнанне Бога. Тэрэза скардзіцца на працягласць «зямнога выгнання», кажа пра моцнае прагненне сустрэцца з Богам, аднак гатовая на пакуты дзеля Яго: «О мая раскоша! Пане ўсяго стварэння і Божа мой! Дакуль жа яшчэ буду чакаць шчасця аглядаць Твае аблічча? <…> О доўгае жыццё! О горкае жыццё! О жыццё без жыцця! <…> Хочаш, мой Божа, каб мізэрны чарвяк перанёс і вычарпеў рэч, для сябе супярэчную? Няхай так будзе, Божа мой! Калі Ты так хочаш, я не хачу нічога, толькі Цябе!»[25].

8) *Паэтычныя творы* — solo Dios basta! Дастаткова аднаго толькі Бога!

Св. Тэрэза разумее, што яна не паэтка, аднак ёй здараецца без складанасці пісаць вершы. Яе паэзія, як вынік містычных перажыванняў, напоўненая глыбокімі думкамі, яна вылучаецца цікаваю лірычнаю формаю і паказвае найглыбейшыя перажыванні аўтаркі. Многія вершы святой Тэрэзы пакладзеныя на музыку і выкарыстоўваюцца ў малітвах. Прапаноўваю як прыклад свой улюбёны фрагмент аднаго з вершаў духоўнай маці:

*Nada te turbe,*
*Nada te espante,*
*Todo se pasa,*
*Dios no se muda,*
*La paciencia*
*Todo lo alcanza;*
*Quien a Dios tiene*
*Nada le falta:*
*Sólo Dios basta.*

*Хай нішто не трывожыць,*
*Хай нішто не пужае,*
*Ў свеце ўсё прамінае,*
*Толькі Бог ёсць нязменны.*
*Калі маеш цярплівасць,*
*Тады ўсё табе ўдасца;*
*Усяго табе хопіць,*
*Калі ты маеш Бога,*
*Бо Яго аднаго дастаткова.*

**Галоўныя элементы духоўнасці святой Тэрэзы**

Папа Бэнэдыкт XVI, кажучы пра святасць, піша, што «святы — гэта не хтосьці, хто здзяйсняе вялікія гераічныя чыны, абапіраючыся на свае чалавечыя якасці, але той, хто ў пакоры дазваляе, каб Хрыстус увайшоў у яго душу і дзейнічаў праз яго. Дазволіць весці сябе такім чынам магчыма толькі для таго, хто вядзе інтэнсіўнае жыццё малітвы».

1) Цноты як фундамент жыцця.

Сярод цнотаў, якія хрысціянін павінен развіваць, можна вылучыць некалькі асабліва актуальных сёння, хоць, магчыма, забытых. Па-першае — евангельскае ўбоства, карыснае для ўсіх, не толькі хрысціянаў. Дзякуючы гэтай цноце развіваюцца адпаведныя адносіны да свету і яго дабротаў: між іншым, стрыманасць у іх выкарыстанні, скіраванне думак у бок духоўнасці, вызваленне ад эгаізму і празмернага спажывальніцтва.

У манаскай супольнасці святая Тэрэза дбала пра любоў як да Бога, так і да бліжніх. Узаемная пашана, альтруізм, гатоўнасць дапамагчы іншаму чалавеку альбо проста любоў да бліжняга — гэта асноўны прынцып жыцця не толькі манаскай ці хрысціянскай, але наогул чалавечай супольнасці.

*Determinada determinación*, г. зн. поўная рашучасць, для Тэрэзы ёсць неабходным элементам духоўнага развіцця і ўмоваю малітвы. Як жа патрэбная гэтая цнота сучаснаму чалавеку ў сутыкненні з маральным рэлятывізмам секулярызаванага свету! У фарміраванні рашучасці і адвагі ў дзеянні веруючаму чалавеку дапамагае хрысціянская надзея, дзякуючы якой чалавек спадзяецца на Божую ласку.

Тэалогія вучыць, што ласка базуецца на натуры, выкарыстоўвае яе і ўдасканальвае. Св. Тэрэза ад Езуса звяртае ўвагу на такія чалавечыя цноты: праўдамоўнасць, сціпласць, ветлівасць, весялосць і асабістая культура.

2) Біблійны фундамент духоўнасці.

Відавочна, што святая Тэрэза слухае Божае слова і жыве ім. Яе еднасць, і нават атаясамленне з біблійнымі постацямі, а перадусім з Езусам Хрыстом, — гэта дарога для сучаснага чалавека, які прагне ўвайсці ў кантакт з Богам.

3) Малітва як прабыванне ў Божай прысутнасці.

У кармэліцкай духоўнасці вялікая ўвага ўдзеленая таямніцы Божай прысутнасці ў жыцці чалавечай асобы. Усведамленне гэтай праўды дапамагае веруючаму яднацца з Богам у розных абставінах. Упэўненая ў Божай прысутнасці ва ўсіх стварэннях, а асабліва ў душы чалавека, святая Тэрэза моліцца на працягу ўсяго дня, незалежна ад часу і месца[26]. Хрысціянская малітва не адарваная ад рэчаіснасці жыцця, але ахоплівае менавіта ўсе яго сферы і праяўленні, робячы з іх свайго роду змест малітвы. Трыванне ў Божай прысутнасці вядзе да адкрыцця прысутнасці ў сваёй душы Езуса Хрыста, у якім усе людзі — гэта сёстры і браты. Адносіны з іншымі людзьмі таксама прасякнуты Богам. Дзякуючы таямніцы Божай прысутнасці святая не прывязваецца да людзей, але ўсіх любіць са свабодай у Хрысце.

4) Роля спаведніка і духоўнага кіраўніка ў духоўным развіцці.

Веруючы чалавек, які сур'ёзна ставіцца да свайго духоўнага развіцця, не абмяжоўваецца толькі споведдзю, але шукае дапамогі ў духоўным кіраўніцтве. Хоць гэтая тэма не галоўная ў творах святой Тэрэзы, але ў яе жыцці, як яна сама напіша, мела вялікае значэнне. Святая карысталася дапамогай духоўнага кіраўніка перадусім падчас сакрамэнту споведзі. Выбіраючы спаведніка і духоўнага кіраўніка, яна звяртала ўвагу на тое, каб ён меў адпаведныя тэалагічныя веды, вопыт, быў разважлівы і вылучаўся асабістай святасцю, пакораю і любоўю.

5) Клопат пра збаўленне чалавека.

Святая Тэрэза з болем бачыла адыход людзей ад Касцёла і веры, што вядзе да вечнага асуджэння: «Сэрца разрываецца ад бачання столькіх душаў, якія ідуць на загубу. Каб ужо скончылая гэта няшчасце! Каб я ўжо не глядзела на загубу душаў, якая з кожным днём памнажаецца»[27]. Асабліва сёння важныя словы Тэрэзы аб гатоўнасці аддаць жыццё за Касцёл, у якім ёсць збаўленне...

---

1 *Воклічы душы да Бога*, 17,1.
2 *Кніга жыцця*, 1.
3 Тамсама.
4 Тамсама.
5 Тамсама, 2,3.
6 Тамсама, 7,1.
7 Тамсама, 7,11.
8 Пар. тамсама, 8,7.
9 Тамсама, 9,1.
10 Тамсама 9,8.
11 Тамсама 7,10.
12 Тамсама, 32,11.
13 Пар. *Шлях да дасканаласці*, 1,2.
14 *Кніга фундацыі*, 22,18.
15 Пар. *Кніга жыцця*, 33,5.
16 *Шлях да дасканаласці*, 42,7.
17 Пар. Павел VI, Апостальскі ліст *Multiformis Sapientia Dei.*
18 Ян Павел II, Апостальскі ліст *Virtutis exemplum et magistra*, 1.
19 *Шлях да дасканаласці*, 8,5.
20 Пар. тамсама, 32,12.
21 *Унутраны замак*, VII, 2,9.
22 *Кніга фундацыі*, 2,7.
23 *Духоўныя справаздачы*, 42.
24 *Натхненні Божай любові*, 5,5.
25 *Воклічы душы да Бога*, 6,1.
26 Пар. *Кніга жыцця*, 18, 15.
27 *Шлях да дасканаласці*, 1,4.

# Пра «Кнігу жыцця» св. Тэрэзы Авільскай




Пераклад урыўка з «*Кнігі жыцця*» св. Тэрэзы ад Езуса зроблены з іспанскага арыгінала *Libro de vida*, надрукаванага ў кананічным выданні тэрэзіянскіх твораў: *Teresa de Jesús. Obras completas*, выдадзеных кармэлітамі з кляштара *Monte Carmelo de Burgos* у 1982 годзе. Трэба памятаць, што гэта твор XVI стагоддзя, напісаны на стараіспанскай мове ў барочным стылі са шматлікімі архаізмамі і сінтаксічнымі алітэрацыямі. Усе творы святой Тэрэзы напісаны ў гаворкавай манеры, без захавання арфаграфічных, а часта і граматычных правілаў. Вядома, што пасля яе смерці творы рэдагаваліся айцамі кармэлітамі, якія часта скажалі іх першапачатковы сэнс. Выданне, з якога рабіўся гэты пераклад, крытычнае, зробленае па першакрыніцах і рэкамендуецца для перакладу на замежныя мовы.

Як вядома, святая Тэрэза не мела сістэмнай адукацыі. Яна пачала пісаць не столькі з уласнага імпэту, колькі па неабходнасці. Напрыклад, за жыццярыс яна ўзялася па парадзе свайго спаведніка, бо, як яна сама адзначае, ёй заўсёды было вельмі цяжка вызнаваць на споведзі свае ўнутраныя духоўныя і містычныя перажыванні, і таму спаведнік параіў ёй запісваць іх на паперы. Так нарадзілася «Кніга жыцця» святой Тэрэзы. Апісваючы сваё жыццё, св. Тэрэза не мела ніякай літаратурнай інтэнцыі. Яна нават ніколі не перачытвала напісанае і не папраўляла яго. Яе творы — гэта адвольная плынь думкі, якая перадае падзеі жыцця, духоўныя адчуванні і містычныя перажыванні вельмі спантанным чынам. Яе жыццярыс — гэта простая гаворкавая размова, прычым адначасова з чытачом, з самою сабою і з Панам Богам. Менавіта гэта апошняе тлумачыць рэзкія пераходы ад лагічнага пераказу падзеяў да раптоўных ускліканняў і ўласных меркаванняў аб гэтых падзеях, а пасля — да містычных перажыванняў і Божых ацэнак тых жа падзеяў, якія часам супярэчаць яе ўласным меркаванням. Таму, чытаючы творы святой Тэрэзы, трэба проста паддацца ім і пагадзіцца з тым, каб яе думка павяла нас за сабою, а, можа, узнесла да вяршыняў духоўнага перажывання вялікай містыкі.

*Святлана Грэсві*

**Святлана Грэсві** (Святлана Грачухіна) — доктар філасофіі. Нарадзілася ў Мінску. Закончыла гістарычны факультэт мінскага педінстытута, а таксама філасофскі і тэалагічны факультэты Рымскага Папскага ўніверсітэта імя св. Тамаша Аквінскага. Абараніла доктарскую дысертацыю па праблемах метафізікі ў Папскім Латэранскім універсітэце ў Рыме. Аўтар кніг «Крытычны аналіз кампетэнцыйнага падыходу ў адукацыі» (2008), «Філасофска-антрапалагічная мадэль адукацыі» (2009), «Гістарычны і эпістэмалагічны аналіз адукацыйных канструктаў "кампетэнцыя" і "адукацыйная мэта"» (2014). Працуе кансультантам Спецыяльнай камісіі па ўніверсітэцкай акадэмічнай рэформе ў горадзе Кузко (Перу).

# ЖЫЦЦЁ СВЯТОЙ ТЭРЭЗЫ АД ЕЗУСА, ЗАПІСАНАЕ ЁЮ САМОЮ

**Раздзел 8**

У якім Тэрэза ад Езуса сцвярджае, што яна не згубілася канчаткова ў перыяд свайго аддалення ад Бога толькі таму, што ніколі не спыняла маліцца і што малітва — гэта моцны сродак узняцца з грахоўнага падзення. І таму яна запрашае ўсіх працягваць маліцца, а калі нехта пакінуў малітву, ізноў вярнуцца да яе, бо малітва – гэта крыніца ўсіх ласкаў.

1. Нездарма я так доўга спынялася на гэтым перыядзе майго жыцця [у сёмым раздзеле святая Тэрэза апавядала пра сваё аддаленне ад Бога ажно на 18 гадоў[1]]. Ведаю, што не ўсім спадабаецца слухаць пра такія сумныя рэчы. І мне б не хацелася, каб нехта засумаваў, уражаны аповедам пра душу, такую ўпартую і няўдзячную ў адносінах да Таго, Хто адарыў яе столькімі ласкамі. І ўсё ж такі з дазволу чытачоў я яшчэ раз вярнуся да тых гадоў, каб паказаць, што калі я столькі разоў грашыла супраць Бога, дык толькі таму, што не абапіралася на моцную калону малітвы.

2. Я правяла амаль дваццаць гадоў у бурным моры. Я падала і ўставала. Але ўставала так няўдала, што ізноў падала. Я настолькі нізка ўпала, што не толькі не зважала на даравальныя грахі, але нават смяротных грахоў не баялася як мае быць і таму зусім не пазбягала небяспечных сітуацый. Магу сказаць, што маё жыццё было настолькі вартым жалю, наколькі можна сабе толькі ўявіць. Я не адчувала ні асалоды ад прысутнасці Бога, ні радасцяў ад знаходжання ў свеце. Калі я бавілася сярод уцехаў свету, я заўсёды памятала пра мае абавязкі перад Богам, і гэта псавала мне настрой. Калі ж я заставалася з Богам, мяне ўвесь час непакоілі радасці свету. Гэта была пастаянная барацьба. Нават не ведаю, як я змагла цярпець гэта, і не адзін месяц, але шмат гадоў.

Цяпер я разумею, што Бог у сваёй вялікай міласэрнасці быў са мною, бо, нягледзячы на маю занурранасць у свет, мне хапала смеласці працягваць маліцца. Кажу «смеласці», бо трэба мець шмат мужнасці, здрадзіўшы свайму Каралю і разумеючы, што Ён ведае пра тваю здраду, ізноў і ізноў з'яўляцца перад Ім. Усе мы знаходзімся перад вачыма Бога, але ўсё ж такі тыя, хто моляцца, знаходзяцца перад Ім асаблівым чынам: яны адчуваюць на сабе позірк Бога ў той час, калі іншыя днямі могуць не ўзгадваць пра прысутнасць Бога.

3. Трэба, аднак, заўважыць, што ў той перыяд было некалькі месяцаў, а можа і цэлы год, які я пражыла, не абразіўшы Бога, менавіта дзякуючы таму, што я стала малілася і рабіла ўсё, каб не пакрыўдзіць Яго. Пра гэта нельга не ўзгадаць дзеля паўнаты карціны. Але, шчыра кажучы, пра тыя дні я мала што памятаю, і таму трэба зрабіць выснову, што іх было вельмі нямнога, у той час як кепскіх дзён было значна больш. Вельмі рэдка здараліся дні, калі я зусім не малілася: толькі калі мне было зусім дрэнна ці я была вельмі занятая.

Калі ж я хварэла, мне лепей было з Богам. І я намагалася, каб усе, хто мяне даглядаў, таксама адчувалі гэта, і аб гэтым я маліла Пана і часта размаўляла з Ім.

Дык вось, я распачала малітоўнае жыццё дваццаць восем гадоў таму. І, калі не ўлічваць той год, пра які я толькі што ўзгадала, амаль васемнаццаць гадоў я правяла ў пастаяннай барацьбе, бо разрывался паміж Богам і светам.

Ведаю, што наперадзе мяне таксама чакае падобная барацьба, але прычына будзе ўжо іншаю і не такою балючаю, бо я ўсвядоміла, што чым больш мы прысвячаем сябе служэнню Богу, тым больш мы разумеем марнасць гэтага свету. Але пра гэта — далей.

4. Усё, пра што я распавяла дагэтуль, я зрабіла, як я ўжо казала, дзеля таго, каб усе пабачылі міласэрнасць Бога і маю няўдзячнасць да Яго. З іншага боку, я гэта зрабіла для таго, каб было зразумела, якое вялікае дабро чыніць Бог для душы, якая працягвае маліцца сілаю волі, нават калі яна не адчувае ахвоты да выкання гэтага абавязку. Але калі душа ўпарта працягвае маліцца, нягледзячы на грахі, спакусы і падзенні, якія злы дух па-рознаму ставіць перад чалавекам, у рэшце рэшт, і ў гэтым я ўпэўнена, Пан вырве душу з усяго гэтага і павядзе яе да збаўлення. Такім самым чынам — як мне падаецца цяпер — Ён зрабіў са мною, вырваўшы мяне з таго вартага жалю стану. Малюся да Усемагутнага, каб ізноў не ўпасці.

5. Многія святыя і людзі добрай волі пісалі аб тым, колькі дабра прыносіць практыкаванне малітвы. Маю на ўвазе малітву разважання. Хвала і слава Богу за гэта! Але пры ўсім маім недахопе пакорлівасці, я ўсё ж такі не настолькі пыхлівая, каб параўноваць сябе з імі. Я магу гаварыць толькі

пра тое, што я сама спазнала. І хачу параіць таму, хто пачаў малітоўнае жыццё, ніколі не спыняць яго, нягледзячы на ўсе грахі, у якія ён упадае. Малітва — гэта сродак, дзякуючы якому ён зможа ізноў выправіцца, але без яе зрабіць гэта значна цяжэй. І няхай Бог уратуе яго ад спакусы, праз якую прайшла я, калі злы дух намаўляў мяне перастаць маліцца з пакорлівасці. Верце, што словы малітвы не падвядуць, асабліва калі па-сапраўднаму пакаяцца і прыняць пастанову больш не абражаць Пана. Ён атуліць нас сваім сяброўствам, як і раней, дасць нам ласку, як і раней, а часам і значна большую, калі шчырасць пакаяння яе заслугоўвае.

Але для тых, хто яшчэ не пачаў маліцца, дзеля Божай любові, я малю не пазбаўляць сябе гэтага дабра. Не трэба баяцца малітвы, але трэба прагнуць яе. Нават калі вы не адчуваеце прагрэсу і нават калі вы не робіце высілкаў, каб удасканаліцца і быць годнымі дароў і ўцехаў, якія Бог дае іншым, вы ўсё роўна заробіце сабе ўжо тым, што зразумееце, на чым палягае шлях да неба. І калі вы вытрываеце і будзеце настойліва маліцца, я веру ў міласэрнасць Бога, Ён ніколі не занядбае сваіх сяброў, паколькі малітва разважання — гэта не што іншае як сяброўства. Ты застаешся сам-насам на размове з Тым, Хто цябе любіць. Можа, пакуль вы Яго яшчэ не любіце, бо, каб быць сапраўднай, любоў і таксама сяброўства павінны мець працягласць у часе і быць узаемнымі. Бо любоў Божая — дасканалая, нашая ж любоў — заганная, пачуццёвая і няўдзячная. І таму вы ніколі не здолееце любіць Яго так, як Ён гэтага заслугоўвае: гэта не ў нашых сілах. І ўсё ж такі, дзеля Ягонай любові і Ягонага сяброўства, варта прайсці праз боль сваёй неадпаведнасці Таму, Хто настолькі адрозніваецца ад нас.

6. О бясконцая дабрыня Бога! Бачу, хто ёсць Ты і хто я! О дар анёлаў! Калі бачу гэта, як бы мне хацелася спаліць саму сябе ў любові да




Цябе! Сапраўды, Ты церпіш таго, хто пакутуе ад Тваёй прысутнасці перад ім! О мой Пане, якім добрым сябрам Ты паўстаеш! Ты адорваеш і церпіш, і спадзяешся, што той, хто перад Табою, палюбіць Цябе гэтак жа, як і Ты яго. І пакуль гэта станецца, Табе баліць. Для Цябе, мой Пане, важны кожны момант праяўлення любові да Цябе і нават секунда пакаяння вартая таго, каб Ты дараваў усё, чым Цябе абразілі!

Я бачыла гэта вельмі ясна ў дачыненні да мяне самой, і таму не разумею, о мой Стварыцель, чаму свет нічога не робіць, каб заваяваць Тваё адметнае сяброўства. Усе благія людзі, якія не адпавядаюць Тваёй любові, сталіся б добрымі, бо Ты дазволіў бы ім знаходзіцца ў Тваёй прысутнасці, хаця б дзве гадзіны штодзённа, нягледзечы на тое, што думкамі сваімі яны далёка ад Цябе, занураныя ў справы свету, як некалі гэта было і са мною. Дзеля таго, каб застацца сам-насам з Богам, неабходна часам зрабіць вялікія высілкі. Напачатку, дый потым, гэта вельмі цяжка. Таму я малю, Божа, каб Ты аддаліў злых духаў, каб яны не спакушалі і не паслаблялі сілаў тых, хто моляцца. Я малю, каб Ты, Божа, даў ім моцы, каб яны перамаглі сваю слабасць. Не! Жыццё ўсялякага жыцця, Ты нікога не знішчаеш! У ва ўсіх, хто давярае Табе і хто хоча стацца Тваім сябрам, Ты падрымліваеш жыццё і моц цела і душы.

7. Не разумею тых, хто баіцца распачаць малітву разважання, і не разумею, чаго яны баяцца. Хіба што злы дух спараджае гэтую боязь. Бо боязь не дазваляе задумацца над тым, што ёю я абражаю Бога, бо не думаю ні пра мае абавязкі перад Ім, ні пра пекла, ні пра хвалу, ні пра вялікія Яго справы і пакуты, праз якія Ён прайшоў дзеля майго збаўлення.

Менавіта на гэтым палягала ўся мая малітва, калі я знаходзілася ў небяспецы, пра якую я апавядала раней. І пра гэта я заўсёды разважала, калі магла. У тыя гады, калі я малілася, я часта не магла дачакацца, калі скончыцца гадзіна, прысвечаная малітве. Больш прыслухоўвалася да бою гадзінніка, чым да святых рэчаў. А часам я з большым задавальненнем аддавала перавагу розным пакаянным практыкам, толькі б не засяроджвацца на малітве.

Вось дзе дакладна злы дух сваёю моцаю рабіў усё, каб я згубіла звычку маліцца, бо мяне ахопліваў страшэнны смутак, калі я ўваходзіла ў капліцу. І я павінна была браць сябе ў рукі ўсімі сіламі душы і рабіць высілкі над сабою, пакуль сам Бог не прыходзіў мне на дапамогу. (Хаця многія кажуць, што я моцная, дык гэта таму, што Бог як для жанчыны даў мне шмат моцы, але не заўсёды я яе выкарыстоўвала добра).

І пасля таго як рабіла гэтыя высілкі, на мяне сыходзіў спакой, а

часам і дар малітоўнага прагнення.

8. Цяпер я бачу, што Бог праяўляў цярплівасць да такога ўбогага стварэння, якою я была. І ясна відаць, што малітва для мяне сталася лекам, каб вызваліцца ад зла. Дык хто, нягледзячы на ўсё сваё зло, можа баяцца Бога? Хто б ні быў благім у душы, праз гады малітвы станецца добрым дзякуючы ласцы Пана, вылітай на яго. Ніхто не можа сумнявацца ў гэтым. Пан цярпеў мяне шмат гадоў, і толькі таму, што я прагнула і шукала час і месца, каб застацца сам-насам з Ім, вельмі часта не добраахвотна, але гвалтуючы сябе. Ці лепей, дзякуючы гвалтоўнай моцы, якая сыходзіла ад самога Бога.

Дык вось, калі малітва з'яўляецца дабром і неабходнасцю для таго, хто не служыць Пану, і больш за тое, абражае Яго, дык тым больш і з найвялікшаю сілаю павінен маліцца той, хто хоча служыць Пану, быць Яму верным, бо малітва ніколі не пашкодзіць яму, а пашкодзіць толькі яе занядбанне.

Не разумею, калі нехта хоча пакінуць малітву, хіба толькі для таго, каб адчуць сябе самадастатковым і абцяжарыць сваё існаванне. Ён зачыняе дзверы перад Богам, каб нічога не атрымліваць ад Яго, ніякага суцяшэння. І сапраўды такія людзі вартыя жалю, бо служаць Богу ўласным коштам. Бо за тых, хто моліцца, Бог бярэ на сябе ўсе выдаткі. За зусім малыя малітоўныя высілкі чалавека Бог бярэ на сябе ўвесь цяжар яго існавання.

9. Пра тое, што Бог дае чалавеку, трываючаму ў малітве, многа радасцяў, я буду гаварыць далей. Таму тут я казаць нічога не буду. Толькі скажу, што, каб атрымаць шмат Божай ласкі, якую я сама атрымала, існуюць адзіныя дзверы — малітва. Калі нехта іх зачыніць, не ведаю, што можа з ім стацца. Бо калі Бог хоча адарыць чыюсьці душу сваімі дарамі, няма іншага ўваходу, як толькі малітва: Бог хоча, каб яна, душа, сама ў чысціні і з прагнасцю прыняла Яго. І калі мы пабудуем шмат перашкодаў і нічога не зробім, каб разбурыць іх, як Ён можа прыйсці да нас? І як мы можам прэтэндаваць, каб ён адарыў нас сваёю ласкаю?

10. І каб паказаць вам, наколькі Бог у сваёй міласэрнасці быў добрым да мяне за тое, што я не спыняла маліцца, я скажу адну рэч, бо вельмі карысна, каб вы пра яе ведалі. Справа ў тым, што злы дух пастаянна змагаецца за душу супраць Бога, які міласэрнасцю сваёю робіць усё, каб душа засталася з Ім. Вы павінны сцерагчыся тых небяспекаў, якіх я сама не сцераглася. Перш за ўсё, дзеля Імя Божага і дзеля Ягонай вялікай любові, з якою Ён робіць усё, каб мы навярнуліся да Яго, я прашу вас, каб вы асцерагаліся небяспечых сітуацый. Бо калі вы трапляеце ў іх, ніколі нельга быць пэўнымі, што вы адолееце іх, бо вельмі шмат ворагаў змагаецца з намі і надта слабыя нашыя сілы, каб абараніцца.

11. Як бы мне хацелася апісаць тут палон, у якім знаходзілася мая душа ў тыя часы. Я адчувала гэты палон, маё сумленне ўвесь час мяне непакоіла, але я не магла растлумачыць сабе, у чым справа, і не магла паверыць у тое, што ўсё, што я рабіла ў тыя часы, было дабром, тым больш што мае спаведнікі не ўшчувалі мяне за гэта. Быў нават адзін з іх, якому я на споведзі выказала гэты непакой сумлення, але ён сказаў мне, што нават калі б я ўзнялася да ўзроўню кантэмпляцыйнай малітвы, мой лад жыцця і мае сяброўствы не могуць быць небяспекаю для мяне.

І толькі пазней, з Божаю дапамогаю, я пачала ўсё больш аддаляцца ад небяспечных сітуацый, хаця і не заўсёды ў мяне гэта атрымлівалася. Мяне бачылі поўнай добрых інтэнцый, адданай малітве, але мая душа адчувала, што яна не выконвае ўсяго дзеля Таго, Каму яна была гэтак абавязаная. Дагэтуль шкадую аб тым, што адбывалася ў тыя часы, і аб тым, што вельмі мала дапамогі я атрымала ад іншых, апрача самога Бога. І больш за тое, усе свецкія задавальненні і забавы падаваліся мне цалкам дазволенымі.

12. Другім пакараннем для маёй душы былі казанні.

Мне вельмі падабалася слухаць іх, асабліва калі нехта прапаведаваў добра і натхнёна, у мяне ўнутры зараджалася асаблівае пачуццё, хаця я сама не ведала, адкуль гэтае пачуццё бярэцца. Ніводнае казанне не падавалася мне такім ужо кепскім, каб не слухаць яго з задавальненнем, нават калі прапаведнік не лічыўся вельмі добрым. Але калі трапляўся добры прапаведнік, ягонае казанне станавілася для мяне асаблівым суцяшэннем. Я ніколі не стамлялася слухаць пра Бога і размаўляць пра Яго. І гэта адбывалася пасля таго, як я пачала пастаянна маліцца.

З аднаго боку, я адчувала вялікае суцяшэнне, слухаючы казанні, з другога боку, яны для мяне станавіліся пакараннем і мучэннем, бо ў той момант я разумела, кім я павінна быць і кім я не была. Я маліла Бога, каб Ён мне дапамог. Але, як я цяпер разумею, мая памылка была ў тым, што я не цалкам пакладалася на Ягоную ўсемагутнасць, а вельмі давярала сваім уласным сілам. Я спрабавала выправіцца: рабіла вельмі шмат высілкаў. І ніяк не магла зразумець, што ўсе гэтыя высілкі нічога не вартыя, калі мы не даверымся цалкам і ва ўсім Богу.

*Пераклад з іспанскай мовы Святланы Грэсві.*

[1] Паводле ўзгадак святой Тэрэзы, яна пачала малітоўнае жыццё ў 1534 годзе, калі ёй было 19 гадоў. Але дваццаць гадоў — з 1534 да 1554 года — доўжылася яе змаганне паміж свецкай марнасцю і манаскім абавязкам малітвы. І толькі з 1554 г. распачалося яе інтэнсіўнае містычнае сумоўе з Панам. Калі Тэрэзе ад Езуса споўнілася 38 гадоў, яна канчаткова навярнулася да Бога, а ў няпоўныя 50 гадоў распачала галоўную справу свайго прызначэння — рэформу кармэліцкага Ордэну.

# Горад святой Тэрэзы



Кляштар св. Тэрэзы ў Авіле.



У Іспаніі шмат гарадоў, славутых прыгажосцю сваіх архітэктурных і мастацкіх помнікаў, гармоніяй прыроды і чалавечай творчасці. Але менавіта Авіла (разам з Сант'яга дэ Кампастэла) выдзяляецца з гэтага шэрагу дзякуючы свайму выключнаму месцу ў гісторыі і развіцці хрысціянства. У свеце, перш за ўсё ў каталіцкім свеце, Авіла вядомая як горад святой Тэрэзы ад Езуса, або Тэрэзы Авільскай (*Santa Teresa de Avila*), святой патронкі іспанамоўных пісьменнікаў.

Хаця на працягу стагоддзяў сваёй гісторыі Авіла набыла іншыя тытулы — сярод іх афіцыйныя, паводле каралеўскіх прывілеяў: «*Avila del Rey*» («Каралеўская»), «*Avila de los Caballeros*» («Шляхецкая»), але яна мае таксама народны тытул: «*ciudad de cantos y de santos*» («горад спеваў і святых»). Размешчаны ў гістарычным рэгіёне Кастылія і Леон, горад мае надзвычай багатую гісторыю, у якой адлюстраваліся драма і веліч жыцця Іспаніі, паўднёва-заходняга ўскрайку Еўропы. На тэму этымалогіі назвы горада існуе шэраг тэорый і дагэтуль вядуцца навуковыя спрэчкі. Спектр зыходных пазіцый для вызначэння паходжання назвы надта шырокі: ад фінікійскай мовы да гоцкай. Нягледзячы на грунтоўныя аргументацыі, нікому з тэарэтыкаў не ўдалося пераканаць людзей і навуку ў канчатковай ісціне сваёй гіпотэзы.

Некаторыя даследчыкі адлічваюць гісторыю паселішча ад рымскага горада, які знаходзіўся ў цяперашнім гістарычным цэнтры Авілы. З гэтай старонкі пачынаецца ўжо не гіпатэтычная, а навукова абгрунтаваная кніга гісторыі горада. Захаваліся магутны мост рымскай эпохі праз раку Адаха (перабудаваны ў Сярэднявеччы), антычныя мазаікі і багаты на археалагічныя знаходкі некропаль. Антычны горад перажыў перыяд росквіту ў I і II стст., але з III ст. пачаўся яго заняпад у сувязі з агульным крызісам Рымскай імперыі, а пазней з нашэсцямі франкаў і алеманаў часоў Вялікага перасялення народаў. З VI ст. і да самага арабскага нашэсця на Пірэнеі Авіла ўваходзіла ў Таледскае каралеўства вестготаў, якія гаспадарылі ў Іспаніі. Ужо ў гэты ранні перыяд Авіла набывае важнае значэнне як асяродак рэлігійнага жыцця, а з 610 г. паводле загаду караля Гундэмара горад становіцца галоўным рэлігійным цэнтрам каралеўства. Тут існавала біскупства, і авільскія іерархі мелі свой важкі голас у каралеўскай радзе ў Таледзе. У сярэдзіне VI ст. вакол Марыйнага Старажытнага касцёла (*Santa Maria Antigua*) паўстаў адзін з першых кляштараў у Іспаніі.

«Цунамі» мусульманскага нашэсця, якое пачалося ў 711 г., дакацілася да Авілы ўжо ў 714 годзе. Горад быў цалкам разбураны. Распачаўся надзвычай драматычны перыяд у яго гісторыі. І арабы, і хрысціяне разглядалі Авілу як апорны пункт у змаганні, якое доўжылася на працягу стагоддзяў і атрымала назву Рэканкісты — адваявання захопленых чужынцамі тэрыторый. Ужо ў 742 г. войскі Альфонса I выбілі акупантаў з горада, але ім не ставала моцы ўтрымаць яго. Кароль загадаў вывесці хрысціянскае насельніцтва на поўнач



Сярэднявечныя гарадскія муры ў Авіле.



Брама Алькасар у Авіле.

і засяліць людзьмі вольныя, але пустыя землі. У 785 г. горад зноў трапіў у валадаранне арабаў. Авіла некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі. У 1007 г. арабы дашчэнту разбурылі муры горада. Іспанска-мусульманскі географ Аль-Ідрысі (XII ст.) апісваў Авілу як «скопішча вёсак». Але ў іспанскіх хроніках за 1092 г. ужо паведамляецца пра канчатковае адваяванне хрысціянамі Таледа (цэнтра ўсяго рэгіёна) і пачатак працаў па аднаўленні муроў і сабора Збаўцы ў Авіле. Горад стаў апорным пунктам пераможнай Рэканкісты, і атрады авільцаў здзяйснялі свае выправы на акупаваныя мусульманамі тэрыторыі. Аднак з цягам часу, калі межы арабскіх валадаранняў былі адсунуты далей на поўдзень, Авіла страціла стратэгічнае значэнне.

Новы перыяд росквіту настаў для горада ў другой палове XV ст., у эпоху каталіцкіх манархаў Фернанда Арагонскага і Ізабэлы Кастыльскай. Горад багацеў і развіваўся на працягу ўсяго XVI ст., адыгрываючы прыкметную ролю ў палітычным, рэлігійным і культурным жыцці Іспаніі. У Авіле жылі і дзейнічалі многія выдатныя людзі. Безумоўна, сярод іх найбольш славутая ў стагоддзях святая Тэрэза. Але трэба згадаць таксама яе паплечніка і аднадумцу святога Яна ад Крыжа (*San Juan de la Cruz* – Сан Хуана дэ ла Крус; 1542–1591), паэта-містыка, манаха, які дапамагаў св. Тэрэзе рэфармаваць кармэліцкі Ордэн. Кананізаваны ў 1726 г., ён быў абвешчаны святым патронам іспанамоўных паэтаў у 1952 годзе. Гэты чалавек распачаў справу, якую некаторыя гісторыкі называюць першай буржуазнай рэвалюцыяй у еўрапейскай гісторыі. Менавіта святы Ян ад Крыжа арганізаваў першы звяз камунэраў (*la junta de los comuneros*) у Авіле, з якога пачаўся шырокі нацыянальны рух гарадоў Кастыліі, а потым і магутнае паўстанне супраць абсалютызму імператара Карла I (1520–1522).

З канца XVI і на працягу XVII–XVIII стст. горад перажывае перыяд заняпаду, звязанага з агульным крызісам Іспанскай імперыі. Так, у 1608 г. у Авіле пражывалі ўсяго 1500 чалавек. Французскае нашэсце часоў Напалеона нанесла цяжкі ўдар па горадзе. У студзені 1809 г. французкія войскі на працягу трох дзён палілі і разбуралі Авілу. Захопнікі разрабавалі і зганьбавалі касцёлы і кляштары. У адказ на гэта авільцы вялі жорсткую народную партызанскую вайну.



Катэдра Хрыста Збаўцы ў Авіле.

На працягу большай часткі XIX ст. сучаснікі пісалі пра Авілу як пра горад «зруйнаваны і поўны цемры», «маўклівы і знясілены». Напрыканцы стагоддзя пачынаецца паступовае адраджэнне Авілы ў сувязі з індустрыялізацыяй Іспаніі. Апошняй вялікай драмай горада была грамадзянская вайна 1936–1939 гадоў. Авіла ад самага пачатку канфлікту апынулася ў зоне пад кантролем франкістаў — тут знаходзіўся вялікі кан-

цэнтрацыйны лагер.

Сучасная Авіла — адзін з самых невялікіх, слаба населеных цэнтраў правінцый Іспаніі. Але горад жыве вельмі напружаным культурным і палітычным жыццём. Менавіта адсюль пачыналі сваю палітычную кар'еру многія дзяржаўныя дзеячы краіны. У 1996 г. у Авіле быў заснаваны Каталіцкі ўніверсітэт. Штогод мільёны людзей прыязджаюць сюды па слядах святой Тэрэзы. У горадзе праводзяцца рэлігійныя святкаванні ў гонар св. Тэрэзы (15 кастрычніка).

Авіла — цудоўны, дбайна адрэстаўраваны архітэктурна-пластычны ансамбль, сапраўдная энцыклапедыя гісторыі і культуры Іспаніі. Ужо здалёк адкрываецца захапляючая панарама старажытнага горада. Гістарычныя муры захаваліся ў першасным выглядзе з часоў Сярэднявечча. Гэта самы вялікі пас гарадскіх муроў, што засталіся ў Іспаніі. Гараджане разбудоўвалі муры з канца XI да XIV ст. Маштабы абарончага комплексу ўражваюць: перыметр муроў — больш за 2,5 кіламетры, 88 паўцыркульных вежаў стаяць на ўсім працягу ўмацавання. Яны — як рыцары хрысціянства, што самкнуліся вялізным шыхтом у абароне Еўропы. Гэта адзін з велічных помнікаў гераічнай Рэканкісты. Пры разбудове ўмацаванняў авільцы ўключылі некаторыя дамы і палацы ў лінію муроў (гэта бачна з боку гарадской забудовы). З 9-ці брамаў муроў самае арыгінальнае вырашэнне мае брама Алькасар. Браму фланкуюць дзве магутныя вежы, злучаныя паўкруглаю аркаю-мастком. Насупраць гэтай брамы адкрываецца вялікая плошча св. Тэрэзы, патронкі горада. Усё тут захоўвае жывы подых гісторыі. Вядома, што сямігадовая Тэрэза разам з малым стрыечным братам вырашыла накіравацца ў Афрыку, каб несці хрысціянскую ідэю маўрам і загінуць пакутніцкаю смерцю. Дзеці ўжо выйшлі за муры, але іх заўважыў і вярнуў дахаты іх дзядзька...



Кляштар Уцелаўлення Пана.

Касцёл кляштара св. Тэрэзы быў пабудаваны на пачатку XVII ст. на месцы, дзе стаяў дом сям'і святой. У крыпце касцёла знаходзіцца Музей св. Тэрэзы, у экспазіцыі якога паказаны ўсе перыяды яе жыцця і дзейнасці. Геаметрычныя, строгія формы фасада касцёла дэманструюць самы пачатак барочнага стылю ў іспанскай архітэктуры, яшчэ далёкага ад пышнасці і дынамізму.

Сціплы па архітэктурных формах, з контрфорсамі і адзінаю дамінантаю — убудаванай у асноўную масу забудовы званіцаю — кляштар Уцелаўлення Пана таксама мае экспазіцыю твораў сакральнага мастацтва і артэфактаў, звязаных з жыццём св. Тэрэзы. Менавіта ў гэтым кляштары кармэлітак у 1535 г. Тэрэза распачала свой шлях служэння.

Галоўная святыня Авілы — катэдра Хрыста Збаўцы (XII–XV стст.). Архітэктар Альвар Гарсія пачаў будаваць яе ў раманскім стылі, але эпоха прадыктавала вырашэнне пабудовы як храма-крэпасці — тоўстыя муры, магутныя контрфорсы, вузкія праёмы вокан. Апсіда катэдры ўключана ў абарончыя муры горада і мае завяршэнне ў выглядзе такіх жа зубцоў, якія вянчаюць усю лінію ўмацаванняў. Але з перамогаю Рэканкісты і стратаю ваеннага значэння Авілы мяняюцца эстэтычныя прыярытэты творцаў. Авільская катэдра Збаўцы становіцца сапраўдным маніфестам готыкі для ўсяе іспанскай архітэктуры. Майстар Фрушэл быў натхнёны парыжскім касцёлам Сэн-Дэні і імкнуўся да ўвасаблення новага стылю ў пабудове святыні. На пачатку XIII ст. у архітэктуры катэдры з'яўляюцца стрэльчатыя аркі і скляпенні, ажурная каменная разьба. Святыня пабудавана ў форме лацінскага крыжа, мае тры навы. Адзіная вежа (другая не была дабудаваная) завяршае агульнае спірытуальнае памкненне архітэктурна-пластычных формаў у нябёсы, што ўласціва готыцы. Але раманская суровасць і стабільнасць усё ж выразна прачытваюцца ў вобразе храма.

У горадзе ёсць яшчэ шмат касцёлаў, палацаў і гістарычных мясцінаў. Авіла — бясцэнная каштоўнасць усяго хрысціянства.

*Валеры Буйвал*

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбургу (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі,К. Чапэка і інш.

Стэфан Свяжаўскі

# СВЯТЫ ТАМАШ, ПРАЧЫТАНЫ НАНАВА

### XIV. ЭСХАТАЛАГІЧНЫЯ ПЕРСПЕКТЫВЫ, ЯКІЯ АДКРЫВАЕ НАМ ТАМАШАВА КАНЦЭПЦЫЯ ЧАЛАВЕКА

1. Для многіх філосафаў, якія філасафуюць у духу Платона, філасофія — гэта разважанне аб смерці. *Meditatio mortis* — адно з шматлікіх найменняў, якімі называлі філасофію. Смерць, безумоўна, настолькі істотная для чалавека, што яе асэнсаванне, наколькі гэта магчыма, заўсёды лічылася і лічыцца надзвычай важным. У матэрыялізме смерць — гэта канец усёй свядомасці і існавання. У спірытуалізме — гэта вызваленне душы з вязніцы, пакіданне цялеснай шкарлупіны, разрыў сувязі з целам.

З прыроднага гледзішча смерць — гэта катаклізм, разрыў адзінства, якім ёсць чалавек. Вера падказвае нам, што гэты род смерці ўвёў у наш свет першародны грэх. Матэрыялізм мае рацыю толькі ў тым, што чалавек як цэласць, гэтак жа, як іншыя цялесныя субстанцыі, знішчальны. І гэтая маналітная сувязь матэрыі і формы распадаецца.

Аднак філасофскае разважанне кажа нам, што ў нас ёсць нейкі дзівосны, боскі і незнішчальны пачатак. У еўрапейскай філасофіі ўжо Платон і Арыстоцель, за некалькі сот гадоў да Хрыста, сцвярджалі, што ў чалавеку ўсё ж ёсць штосьці боскае — *theios*, пазацялеснае. Дзякуючы гэтаму чынніку душа, г.зн. форма, якая канстытуюе чалавека, можа трываць пасля знішчэння чалавечага псіхафізічнага адзінства, хаця пасля гэтага разрыву, пасля аддзялення ад цела, яна можа рэалізаваць толькі частку сваіх функцый. Яна здольная толькі да здзяйснення разумовага пазнання і жадання, але затое не можа здзяйсняць сваіх пачуццёвых і біялагічных функцый, бо яны могуць быць здзейсненыя толькі тады, калі ёсць поўнае *compositum* — злучэнне душы і цела, існуючае як субстанцыя.

Калі душа трывае пасля смерці, то, паводле св. Тамаша, яна не з'яўляецца цэлым чалавекам. Не з'яўляецца яна і поўнаю асобаю, і таму яна нібы тужыць па целе, па злучэнні з целам і паўнаце чалавечасці. У яе ёсць пазнанне і жыццё, але нібы ў анёла найніжэйшага рангу, бо калі душа пасля смерці не з'яўляецца поўным чалавекам і поўнаю чалавечаю асобаю, то і парэшткі не з'яўляюцца целам. Парэшткі — гэта толькі рэліквія, агрэгат клетак, якія былі субстанцыйным адзінствам, калі іх ажыўляла душа. Св. Тамаш гаворыць аб парэштках, што мы называем іх целам неадпаведна, бо звонку яны падобныя да цела, але гэта ўжо не цела чалавека. Калі пра Пана Езуса мы кажам, што сапраўды Яго цела было ў магіле, то гэта таму, што Хрыстус і пасля смерці захаваў паўнату асобы, бо ў Ім заўсёды ёсць адна і тая ж самая Асоба — Божае слова. Калі б Ён быў толькі чалавекам, то нельга было б казаць, што гэта цела Хрыста. Быццё разумнай душы пасля смерці ёсць у чыста прыродным парадку ўласна чаканнем паўнаты, чаканнем рэалізацыі наноў цэлага чалавека. Гэтае натуральнае чаканне новай рэалізацыі поўнай чалавечай асобы мы можам назваць тугою па ўваскрашэнні, па паўнаце існавання, якая зводзіцца ўрэшце да глыбіннай тугі па Богу, яшчэ мацнейшай у гэтым прыродным парадку рэчаў пасля смерці, чым пры жыцці. Але не затрымліваймася на гэтай натуральнай перспектыве, бо яе бясконца перасягае звышнатуральнае пакліканне чалавека.

2. Чалавечая душа існуе пасля смерці. Для св. Тамаша гэта нават — як яшчэ потым пабачым — філасофская аксіёма. Аднак разрыў з целам, выкліканы смерцю, ёсць нечым вельмі істотным, бо праз гэта чалавек перастае быць поўным чалавекам. Аснова асобы захоўваецца, але поўнай асобы ўжо няма. Душа, аднак, чакае і з неабходнасці дамагаецца паўнаты асобы, г.зн. —уваскрашэння. На гэтую праблему можна таксама паглядзець з іншага боку, з боку пытання пра трыванне, вечнасць усёй рэчаіснасці. Толькі Бог абсалютна вечны і незнішчальны, а ўсе стварэнні адносна знішчальныя, г.зн. не маюць той абсалютнай незнішчальнасці, якую мае толькі Бог. Аднак з увагі на тое, што яны пачалі існаваць, што яны ўкаранёныя ва ўсеагульнай прычыне існавання, у самім самаісным існаванні, якім ёсць Бог, яны трываюць у Богу як у сваёй прычыне. Усё, што ёсць бытам, трывае ў Богу як у крыніцы свайго існавання. Інакш трываюць у Богу свядомыя быты: анёл, чалавек, а іначай — быты, пазбаўленыя свядомасці, але так ці інакш усё, што пачало існаваць, трывае. Для чалавека, які мае ў сабе духовы элемент, смерць — гэта выйсце з часава-прасторавага парадку, гэта пераход у іншы час і ў іншую прастору. Гэта надзвычай цяжка альбо нават немагчыма ўявіць, але разам з тым гэта нібы відавочна ў тым сэнсе, што, выходзячы з часапрасторы, у якой мы бытуем у гэтым жыцці, мы пераходзім у нейкі іншы парадак. Іншы сэнс набываюць гэтыя справы ў святле Аб'яўлення.

Стан чалавечай душы, якая бытуе пасля смерці без цела, у прыродным парадку рэчаў можна разглядаць як у пэўным сэнсе скалечаны, няпоўны, трываючы ў ча-

---

*Працяг. Пачатак у № 3 за 2011 г.*

канні, хоць адначасна нібы ачышчаны ў сваёй духовасці. Чалавек збаўлены ў хвіліну смерці робіцца рэальным удзельнікам Божага жыцця. Ён пачынае ўдзельнічаць у Божым жыцці; не ўваходзіць у якісьці іншы, пераходны часавы парадак, у іншую прастору, але ў вечнасць, у надчасавасць, ва ўдзел у жыцці Бога — Тройцы. Лагічнаю высноваю таго, чаму вучыў св. Тамаш (хоць сам пра гэта непасрэдна не казаў), здаецца тэза пра тое, што ў выпадку збаўленага чалавека чакання няма, бо няма чакання ўваскрашэння, бо ў Богу ёсць вечнае «цяпер». Чаканне Апошняга Суду, уваскрашэння ёсць удзелам і нават неабходнасцю для істотаў, бытуючых у часе і прасторы. Калі ж мы ўжо ў парадку Божым, то ў гэтым выпадку ўсё ўжо ёсць. І таму чалавек, які ўваходзіць у сапраўдны ўдзел у Богу, можа сказаць пра сябе, як св. Павел: «Спазна́ю так, як і я спазнаны...» (1 Кар 13, 12). Душа збаўленага чалавека ўдзельнічае ўжо ва ўсім тым, што для нас, улучаных у наш зямны астранамічны парадак часу, можа стацца праз дзясяткі тысячаў ці праз мільёны гадоў. Гэта тая перспектыва, якая змяняе для нас, выраўнівае ўсю недасканаласць бытавання адарванай ад цела душы, бо паказвае, што яна адносіцца толькі да яшчэ не збаўленых людзей.

Мы не ўваходзім у тэалагічнае пытанне чыстца. Але ў святле Аб'яўлення ясна, што чалавек, які не ў чыстцы, але ўжо збаўлены, выходзіць са стану непрыемнага чакання і непаўнаты асобы. Чалавечая душа тады ўжо не па-за целам, але ў стане ўваскрашэння, а гэтае «ўжо» азначае, што яна прабывае па-за часам. Збаўленыя, якія ўдзельнічаюць у Божым жыцці, таксама атрымаюць зноў усё, што ім належыць, бо ўсё, што ёсць бытам, усё што ёсць, што існуе, што добрае, сапраўднае і прыгожае, трывае. І тут яшчэ раз могуць быць ужытыя словы, вядомыя з Апакаліпсіса: «...не будзе ні смерці, ні смутку, ні плачу, ні болю...» (Ап 21, 4), бо ўсё гэта праява стану недасканаласці. Усё будзе новым, а ранейшае праміне. Пан Езус падчас Апошняй Вячэры кажа пра віно: «Не буду піць ад вінаграднага плоду, пакуль не прыйдзе Божае Валадарства» (Лк 22, 18). Мы разумеем, што ў гэтым выказванні гаворка ідзе пра стан атрымання зноў абсалютна ўсяго і нашага бытавання ў поўным уваскрашэнні і ў поўнай асобе.

Нам падаецца важнаю гэтая папраўка да пашыранага меркавання, бо падчас чытання разважанняў св. Тамаша на тэму бытавання душы пасля смерці стварaецца ўражанне нейкага недахопу. Бо выглядае гэта даволі незразумела: бедная душа, без цела, блукае, жыве жыццём, горшым за нашае, а мы маем поўнае жыццё! З аднаго боку, сапраўды яна мае больш чыстыя пазнаўчыя і жадальныя функцыі, але, з другога боку, яна не ёсць поўнаю асобаю. Для чалавека яшчэ не збаўленага — для ягонай душы — гэты стан рэчаў, які апісвае св. Тамаш, падаецца цалкам абгрунтаваным. Але чалавек збаўлены, які ўдзельнічае ў Божым жыцці, не чакае (як мы на гэтым свеце) Апошняга Суду, але ўжо мае ўдзел ва ўваскрасенні. З усяго ж Аб'яўлення вынікае, што гэты ўдзел у Божым жыцці рэальны. Калі хтосьці збаўлены, то ён ужо разам з намі і з усімі тымі, хто да канца свету будзе збаўлены, бо для Бога ўсё ёсць цяперашняю хвілінаю; няма аніякага «раней» і «потым». *Aeternitas* — вечнасць, гэта не час, які трывае бясконца, а пазачасавасць. Гэтая пазачасавасць належыць ні нам, ні чыстым духам, а толькі Богу. Аднак, калі св. Павел кажа, што не бачыла вока і не чула вуха, што Бог прыгатаваў любячым Яго (пар. 1 Кар 2, 9), то ён таксама ясна кажа: «Спазна́ю так, як і я спазнаны...» (1 Кар 13, 12). Гэта значыць, што пазна́ю так, як я пазнаны Богам, буду ўдзельнічаць у Божым пазнанні, буду ўдзельнічаць у Божым жыцці.

Аб'яўленне адкрывае перад намі ашаламляльныя перспектывы. Няма чаго турбавацца пра тое, што мінаюць нейкія важныя ці прыгожыя перажыванні, бо ўсё ёсць, усё трывае. Знікае толькі ўсё тое — тут мы вяртаемся да філасофіі, якая адкрывае нам гэта, — што ёсць нябытам. Зло, брыдота — гэта нябыт. Таму надзвычай глыбокія гэтыя словы Апакаліпсіса: «... не будзе ні плачу, ні смутку...» (Ап 21, 4), бо гэта нябыт, тое, што не мае трываласці. Але ўсё стварэнне (прыгадайма, як пра гэта кажа IV эўхарыстычная малітва) будзе нейкім чынам удзельнічаць у гэтым новым жыцці: «з усім стварэннем, вызваленым ад тлену граху і смерці, мы будзем славіць Цябе...» (Рымскі Імшал). Усё, што не злое, сапсутае ці пашкоджанае, будзе разам з намі, бо яно ёсць у Богу як быт.

Гэта рэчы цяжкія для разумення. Мы не знойдзем у св. Тамаша непасрэднага абмеркавання гэтай праблематыкі, але такія высновы з'яўляюцца вынікам усёй яго філасофіі. Ёсць яшчэ адна важная рэч: Тамаш стаіць на пазіцыі, супрацьлеглай неаплатанізму і скрайне спірытуалістычным канцэпцыям таксама і з іншай прычыны. Нават нехрысціянскія неаплатонікі займаліся містыкаю пэўнага кшталту і духовым жыццём. Але тут ідзе гаворка пра натуральную містыку, прадпісанні якой абвяшчаюць, што чалавек можа, пры вялікай унутранай працы і аскезе, прыйсці да такога духовага жыцця, што яно будзе нібы пераходам да таго свету. Сустрэнем гэта таксама і ў вялікай індыйскай містыцы.

Св. Тамаш рашуча супраць такіх канцэпцыяў. Ён сцвярджае, што паміж тым, да чаго мы здольныя ў дачасных умовах, — нават у нашых найвялікшых духовых асягненнях і містычных перажываннях найвышэйшага парадку — і тым, што нас чакае ў будучым жыцці, — ляжыць непераадольная бездань. Таму для сузірання Бога і ўдзелу ў Яго *aeternitas* чалавеку неабходная таксама асаблівая духовая здольнасць. Св. Тамаш называе яе *lumen gloriae* — святло славы, без якога чалавек не мог бы перажыць таго, што абяцана яму, як запэўнівае св. Павел. Паміж нашай рэчаіснасцю, нашымі дачаснымі магчымасцямі і тым, што будзе ў нас у стане вечнага шчасця, няма розніцы ўзроўню, але ёсць розніца якасці, сутнасці. Нас чакае там цалкам новы парадак, які бясконца перасягае тое, да чаго мы былі б здольныя тут, нават пры наймацнейшых высілках з нашага боку. Нам будзе патрэбны гэты *lumen gloriae* — святло славы, каб мы маглі рэальна і свядома ўдзельнічаць у Божым жыцці. Вучэнне пра *lumen gloriae* характэрнае менавіта для св. Тамаша.

*Пераклад з польскай мовы Алеся Жлуткі.*

Паводле: *Świeżawski Stefan. Święty Tomasz na nowo odczytany. — Poznań, 1995.*

*Працяг будзе.*

Ірына Багдановіч

# «Быць ксяндзом, афярнікам «Бога Жывога»...

## Да 125-годдзя з дня нараджэння святара і паэта Казіміра Сваяка (Кастуся Стэповіча)



У няпростых рэлігійных і сацыяльна-палітычных абставінах, праз якія церабіўся гістарычны шлях нашай Бацькаўшчыны, Бог заўсёды пасылаў ёй самаахвярных святароў-падзвіжнікаў, што, пачуўшы голас Хрыста: «Ідзі за Мной!», працавалі дзеля духоўнага ўзрастання народа і яго нацыянальнага адраджэння. Пераадольваючы немалыя цяжкасці і перашкоды, а нават і супраціў розных грамадскіх і клерыкальных сфераў, яны фарміравалі свядомасць і ідэнтычнасць народа, дасканалілі грунт яго веры і выхоўвалі ў ім нацыянальную годнасць. Між такіх чынных беларускіх святароў-адраджэнцаў першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя зорна-нябёсным святлом зззяе імя святара і паэта Канстанціна Стэповіча (1890–1926), больш вядомага пад літаратурным псеўданімам Казімір Сваяк. 19 лютага 2015 года споўнілася 125 гадоў з дня яго нараджэння; падзея была ўшанавана грамадскасцю ўрачыстай вечарынай-імпрэзай у Таварыстве беларускай мовы ў Мінску, а ў касцёлах Беларусі (Чырвоным касцёле імя святых Сымона і Алены ў Мінску, парафіяльных касцёлах у Камаях і Клюшчанах, дзе працаваў К. Сваяк) адбыліся Імшы ў памяць аб гэтым легендарным беларускім святары, жыццё якога было аддадзена, паводле паклікання, служэнню «з народам для Бога».

Пра Казіміра Сваяка ўжо нямала пісалася, асабліва як пра пісьменніка – выдатнага творцу, аўтара прыжыццёвага паэтычнага зборніка «Мая ліра» (Вільня, 1924), твораў прозы, драматургіі і публіцыстыкі, што сталіся годнымі ўзорамі нацыянальнай літаратуры, у якіх перапляліся ў адно мастацкае цэлае рэлігійнасць і патрыятызм, веданне парафіяльнага народнага жыцця і асабістыя перажыванні, узнёслы адраджэнскі рамантызм і дасціпнае, невычарпальнае пачуццё гумару.

У гэтым артыкуле хочацца звярнуць асаблівую ўвагу на Казіміра Сваяка найперш у рэчышчы святарскага шляху паэта, а не паэтычнага шляху святара, хоць абодва гэтыя шляхі складаюць адзіны і непарыўны ягоны лёс. А крыніцаю для нас паслужыць ягоны дзённік «Дзея маей мысьлі, сэрца і волі» (Вільня, 1932), апублікаваны ў свой час з рукапісаў паэта ягоным сябрам і паплечнікам ксяндзом Адамам Станкевічам.

### «Зара буду ксяндзом...»

Дзённік К. Сваяка – жывое сведчанне таго, як нараджаецца пакліканне да святарства, як яно ўмацоўваецца, развіваецца, паглыбляецца, праз якія душэўныя змаганні і выпрабаванні праходзіць, каб крынічыць чыстым і ясным святлом духу і весці за сабою ў высокі шлях да Валадарства Нябеснага.

---

**Ірына БАГДАНОВІЧ** — паэт і літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў г. Ліда на Гродзеншчыне. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі (1983). Аўтар кніг вершаў «Чаравікі маленства» (1985), «Фрэскі» (1989), «Вялікдзень» (1993), «Сармацкі альбом» (2004), «Прыватныя рымляне» (2006), «Душа лістападу» (2012), манаграфіі «Янка Купала і рамантызм» (1989), «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001), укладальнік зборнікаў «Казімір Сваяк. Выбраныя творы»(2010), «Вінцук Адважны. Выбраныя творы» (2011) і «Аляксандр Надсан. Выбраныя творы» (2014). Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Мінску.


114
Paradak dnia. Z Boham ustaju, z imieniam Božym idu ŭ pasciel. Pracuju ščyra, bo praca maja u ciesnym zwiazku z madlitwaj. Heta dźwie siastry, roŭna Bohu milyja. A paŭdni zadaju sabie try pytańnia 1° ci ja nia hultuju 2° ci papraŭlaju swoj charakter 3° ci pomniu ab wiečnym bytawańni dušy ludzkej? Boža ŭspamažy siły ducha majho! Daj siłu, kab padniaŭ siabie na wyšyniu swajho abawiazku!
Wiečaram čytaju u dušy majoj: „Staŭ prad Obladam božym. Pakorna dziakuj za ŭsio. Afiaruj usie swaje sprawy. Paznaj samoha siabie. — Mała pomniŭ ab Bohu. Niadobra maliŭsia. Piddawaŭsia sumnaście i horyčy ŭ ciarpieńni i trudoch. Byŭ łohkamysnym i pustym. Wieru swaju mała ŭzcawaŭ. Biez pašany hawaryŭ ab rečach światych.
— Z bliźnimi błaha žyŭ. Byŭ złosny i narukliwy. Amowiŭ niadnako, a mo nawiet u čym ważkim.

Будучы святар і паэт нарадзіўся і гадаваўся ў рэлігійнай працавітай беларускай сям'і ў вёсцы Барані Свянцянскага павета (сённяшняя Астравеччына). Цяпер у роднай хаце К. Сваяка, як вядома, знаходзіцца Дом-музей, адкрыты пяць гадоў назад. Як вынікае з асобна напісанай у 1925 годзе аўтабіяграфіі паэта, яго святарскі шлях быў жаданай марай усёй сям'і: «Ідэалам маіх добрых родзічаў было відзець мяне ў духоўным стане. Я пайшоў па лініі жыцця, якая мне здавалася найпрасцейшай і якая была здаўна ў матчыных снах» (Цыт. паводле: *«Сваяк К. Дзея маей мысьлі, сэрца і волі. Выданьне другое. – Лёндан: Выд-ва «Божым шляхам», 1991.* – С.44. Далей спасылкі на гэта выданне даюцца ў тэксце з пазначэннем старонкі ў дужках).

У сям'і Стэповічаў было яшчэ некалькі сыноў, але менавіта ў Кастусю сэрца маці прадчувала будучага святара.

Аднак наўрад ці жаданне бацькоў магло быць рэалізаваным без унутранага адчування паклікання да святарства самім юнаком. А яно нараджалася паступова. У свянцянскай павятовай школе, куды ён прывёз «душу чыстую, чуткую, узгадаваную на раллі людовай фантазіі і спеўную, пакорную для Таго, каго ўважала за Найвышшага Пана ўсяго свету» (7), ён сустрэўся з моладдзю, якая поўнілася іншымі інтарэсамі і, як ён пісаў, «патрапіла вырваць з душы маёй добрыя зароды веры ў жыццё загробнае» (7). Хаця, як прызнаваўся Казімір Сваяк, «комплетным бязверцам» ён не быў ніколі, усё ж на нейкі час мястэчковае жыццё аддаліла яго ад рэлігіі, якую ён «пачаў уважаць ... за нешта фальшывае ў жыцці людзкім» (7). Гэта вельмі важнае і шчырае сведчанне будучага святара, якое пацвярджае на канкрэтным прыкладзе вядомую думку пра тое, што святымі не нараджаюцца, а шлях да святасці церніцца выпрабаваннямі, барацьбою са спакусамі свету, якія шчодра рассыпаныя на зямным шляху кожнага чалавека. Унутраны голас клікаў яго да навяртання: «З восені 1906 году я інтэрэсуюся рэлігіяй і варочаюся павольна да пакінутай малітвы» (7).

Гэты пералом у душы шаснаццацігадовага юнака настаў тады, калі ён прыехаў з бацькам у Вільню і яны зайшлі ў катэдру – «бацька дзеля Бога, а я сам не ведаю дзеля чаго: маліцца я не мог». Аднак, знаходзячыся ў святыні, пранікаючыся яе малітоўным духам, ён адчувае незвычайнае хваляванне і трывогу сэрца: «Здалося мне, што лёс мой не толькі ад мяне залежны. Агляд Прадвечнага Бога мусіць быць над кожным. Чаго Ён ад мяне жадае?.. Ці Ягоная помач мне не патрэбна?.. <...> Я хацеў высокага зразумення і вялікіх учынкаў. Мысль мая аднак спакарнела, відзячы сваю слабасць і зменнасць... Я маліўся» (7-8).

Далейшы шлях быў вызначаны — паступленне ў Духоўную семінарыю. 21 верасня 1907 года ён запісвае ў дзённіку: «Выбраў сабе небяспечную дарогу: уступіць у сэмінарыю. Баюся, хоць чую руку Божую, што не дарма вырвала мяне з таго балота гнойнага, у каторае пачаў лезці, забіўшы Бога ў сваім сэрцы» (9). З 26 верасня па 15 кастрычніка К. Сваяк знаходзіцца ў Пецярбургу, здае экзамены для паступлення ў семінарыю, а ў канцы кастрычніка ён ужо ў Вільні. Але ізноў яго чакаюць выпрабаванні духу і веры, перакананасці ў правільнасці абранага шляху, наплываюць сумненні: «7 лістапад. Споведзь сяння. Холад і голад духовы. Не адчуваю патрэбы блізьняга. Самалюб я! ...Што будзе з мяне?...» (10).

Гранічная шчырасць дзённікавых прызнанняў гаворыць пра сапраўдную чыстасць душы, адказнае стаўленне маладога клерыка да свайго будучага святарства. У ліпені 1908 г. ён прыязджае з Вільні дамоў «кандыдатам да сэмінарыі духоўнай» і думае «заняцца вясковымі дзяцьмі, каб адчыніць ім вочы на святло Божае» (10). Каляды праводзіць дома, адчуваючы, як пралягае нябачная, але рэальная мяжа паміж ягоным шляхам і свецкай мітуснёй, забавамі, якія напаўняюць жыццё тутэйшай вясковай моладзі. Запіс ад 27 снежня 1908 г. сведчыць, што Казімір Сваяк зусім не быў праціўнікам вясковых народных забаваў і гульняў, але ж...: «Я не

маю чаго йсці на вечарніцы да маіх вясковых сяброў. Грашаць там [супраць] Бога і горшаць людзей. Не ўся моладзь без стыду. Найчасцей двух-трох найдзецца шалуцькаў і яны перашкаджаюць забаўляцца ўсім. Знойдзецца водка, а як яна ёсць, пачынаецца стыдная забава. Не хачу быць сведкам чужых грахоў і блуду. Я хацеў бы быць на вечарынцы маладосьці жывой, вясёлай, але чыстай. Што ж тут адзін зробіш!.. Я размінаюся ўжо з імі» (10).

Забягаючы наперад, трэба сказаць, што на пачатку свайго святарства, у Клюшчанах у 1916 г., К. Сваяк згуртуе вакол касцёла мясцовую моладзь у «Хаўрус сваякоў», дзейнасць якога разгорнецца менавіта ў тым рэчышчы, пра якое ён і марыў – дзеля культурна-асветніцкага руху («забаў») «маладосьці жывой, вясёлай, але чыстай». Хор, дэкламацыі, пастаноўка спектакляў, бібліятэка, іншыя формы працы – гэтая з энтузіязмам распачатая дзейнасць ахапіла шырокае кола мясцовай парафіяльнай моладзі і дагэтуль засталася як светлая легенда ў свядомасці сучасных жыхароў Астравеччыны, нашчадкаў былых «хаўруснікаў».

Пачатак навучання ў семінарыі прыносіў новыя плады ўзрастання ў веры, працы над сваім характарам. «Вільня, 23.XI.1909. Час, каторы я цяперака перажываю – вельмі для мяне важкі. Мае ён прынесці мне крыху дасканаласці хрысціяніна, каторая аднак змяніла б мяне ў іншага чалавека. Бог толькі ведае, як пойдзе мне гэта праца-труд: адно толькі ведаю, што без Яго помачы – нічога не будзе. Адразу хапіўся я паправіць свой стасунак з бліжнімі і даведаўся, што рахунак сумленя штодзенны дужа да гэтага памагае. Зрабіў тое, што прымусіў сябе да большай увагі.




Для карысці майго характару перастаў чытаць кніжкі лёгкага зместу» (11-12). Шмат разважае ў сваім дзённіку малады клерык пра тое, як разумець пакору (пазней ён напіша пра гэта спецыяльны нарыс для друку), у чым праяўляецца пыха, ганарлівасць людская, як уздзейнічае на чалавека споведзь: «5.XII. Дзякую Богу за сягоняшнюю споведзь. Няхай мяне сцеражэ Бог: ад самалюбства, ад нячыстоты сэрца і мыслі, ад застою на дарозе да самапаправы...» (12). Праз тыдзень ён ізноў едзе дадому на Каляды, разумеючы, што «Каляды кінуць новае святло» на яго характар і памогуць пазнаць самога сябе. «Буду мець розныя пакусы, аказыі. Ці знайдзецца сіла датрываць у сваіх добрых пастановах? Божа, будзь Ты маёй сілай у Комуніі Святой!..» (12).

Ужо ў новым 1910 годзе, крыху больш чым праз месяц, 23 студзеня, зроблены запіс, які ўжо тады выдаваў у Сваяку будучага не толькі святара і пісьменніка, але і глыбокага хрысціянскага філосафа: «Істота дасканаласці Езуса ў тым, што ўсе Яго сілы духовыя і цялесныя ў найлепшай з сабой гармоніі, згоднасці. Хрыстус жыў людска: бываў на пачастунках, плакаў, гневаўся, а ніхто не можаць сказаць, што Бог-Чалавек у чым-колечы быў замала цнатлівы, меней дасканальны, як хоць бы найбольшы святы. Святыя людзі былі дасканальнымі найчасцей толькі ў вадным якім-кольвек кірунку. Хрыстус усім, заўсягды, усюды множыў хвалу Божую: кожнай сваёй мысляй, кожным словам, кожным рухам». А далей – пра сябе, пра разуменне свайго шляху да хрысціянскай дасканаласці: «Мне не дайсці пэўна да дасканаласці святых, а тым больш Хрыстусавай... Але буду прасіць Пана майго, хай навучыць, чаго мне перш-наперш трэба. Тым часам працую з Яго помачай, каб падбіць пад панаванне волі свае выбражэнні, што мяняюцца, як тыя повіды на хмарным небе. Цяпер час дайсці да гэнай гармонійнай стройнасці характэру, да роўнаважнасці сілаў душы маёй...» (12-13). Так бачыў свой шлях у святле наследавання Хрыста малады дваццацігадовы клерык Кастусь Стэповіч, рыхтуючы сябе да святарства.

Але ён прадчуваў, што гэта будзе шлях пастаяннай барацьбы, дзе будуць свае перамогі, свае паўзы... 16 сакавіка 1911 г. ён пісаў: «Сяння рэкалекцыі. У горле суха, у душы зімна. Хто дасць мне вырвацца з гэтага стану лянівае мыслі, халоднага пачуцця? Хто вывядзе мяне з лябірынту трывожных думкаў, неразумных жаданняў, нясмелых пастановаў?» (15). Запіс наступнага дня: «Бяруся ізноў за рэформу свайго характару... Сцеражыся абмовы, антыпатыі. Смешнае адкрыцце. Я не цярплю тых, у кім віджу свае ўласныя не-

дахваты. Трэба маліцца за тых, каго чым-кольвечы абразіў, або каго не люблю...» (13).

Новы вітoк узрастання ў веры прынесла наведванне Яснай Гары ў Чэнстахове ў красавіку 1911 г.: «У ціхасці, пакоры кленчыў я на цвёрдай пасадзцэ каплічнай. Што мысліў, не ведаю, чаго хацеў, не помню. У немай малітве прабыў я цэлую Імшу... Я пайшоў ізноў у капліцу. Прачытаў аддзел св. Паўлы. Словы: «Мяне ўжо афяраваць маюць, і час развязкі маёй надходзіць» – занялі мае думкі. Я мысліў аб афяры, якую магу Богу афяраваць. Кожны духоўны каталіцкі мусіць быць афярай, бо з волі Хрыстуса складае на аўтары афяру чыстую, святую. Назаўтра былі ў споведзі і зблізіліся да Эўхарыстыі. Ехалі дамоў мацнейшыя духам, з ахвотай да жыцця і працы» (16).

Неўзабаве, у канцы красавіка 1911 г., К. Сваяк прымаў першыя святарскія пасвячэнні. Запіс ад 27 красавіка: «Рэкалекцыіі прад вышэйшымі свячэннямі... Быць ксяндзом, афярнікам «Бога Жывога» – страшная рэч, але і вялікая. Страшная, бо трэба нагнуць сябе моцна да афяры і самаадрачэння. Вялікая, бо ў парадку рэлігійным няма на свеце чалавека большае годнасці за вернага свайму прызову ксяндза. Баюся прыняць свячэння» (16–17).

Можна адчуць з гэтага прызнання, наколькі адказна ставіўся К. Сваяк да свайго святарскага паклікання — яго боязь, вядома ж, была выклікана не сумненнямі ці ваганнямі ў правільнасці абранага шляху, а той бязмежнай самапатрабавальнасцю, якая ўласцівая была яго характару, разуменнем слабасці сваёй чалавечай прыроды і адсутнасцю пыхі. Запіс ад 30 красавіка ўжо поўны спакою і раўнавагі: «Вечар. Быў у споведзі. Заўтра спакойна




прымаю субдыяканат. Пашто хіляцца і храмаць?... Ад заўтра буду між духоўных...» (17).

Семінарская навука доўжылася для К. Сваяка на два гады больш, чым для яго сяброў-клерыкаў, бо ў 1912 г. у яго выявіліся сухоты, і ён мусіў даволі працяглы час правесці на лячэнні на вядомым курорце ў Закапанэ. Хвароба сталася для яго цяжкім выпрабаваннем, прынесла шмат смутку і горкіх развагаў, аднак ён мужна перамагаў не толькі фізічныя цярпенні, але і той змрочны настрой, які часам адольваў яго, спакушаючы роспаччу і безнадзейнасцю. Бог быў ягоным заўсёдным ратункам. Толькі з Ім і ў Ім ён бачыў свой шлях, пазбягаючы нараканняў і молячыся.

Аб мужнасці і трываласці яго духу, вернасці свайму пакліканню сведчаць малітоўныя радкі, запісаныя ў жніўні 1912 г. у роднай хаце: «Сяджу ў хаце не сумны, але й не радасны. Я хворы. Навукі перарваліся. Быць можа трэба іх зусім пакінуць. Чую ў сабе рабака ў грудзёх, што хоча згрызці здаровы дагэтуль мой арганізм. Тады трэба будзе развітацца з усім – і з думкамі аб будучай працы з народам для Бога. З гэтай думкай найцяжэйшая разлука... Божа! Дай мне зразуменне, па якой маю ісці дарозе да валадарства Твайго! Не дапусці, каб калі збіўся на отступ! Я прымаю ўсё ахвотна з рукі Тваёй – цярпення і смерць нават: абы толькі ісці следам Хрыстусовым, абы збавіць сябе і тых, каго мне паручыш. «Бог мой – усё маё!» (17).

Вера К. Сваяка была ўжо тады настолькі моцная, што, выбіраючыся на лячэнне, ён мог сам сабе шчыра, без хітрыкаў, сказаць: «18.X. Ах, пара мне ехаць, шукаючы здароўя!.. Адна Комунія з верай прынятая магла б мяне здаровым зрабіць. Але я цуду не жадаю, не хачу. Пашто мне адклон ад агульнага права ў прыродзе. Калі навука людская вылечыць – добра» (18–19).

Асабістыя выпрабаванні для К. Сваяка былі яшчэ больш памножаныя выпрабаваннямі грамадскімі, гістарычнымі: пачалася Першая сусветная вайна. У жніўні 1914 г. К. Сваяк запісаў у сваім дзённіку: «Разгарэлася вайна велізарная... Мой Божа! Гэта рэч так сумная і так праціўная маёй натуры, што лепей аб ёй зусім не пісаць. Мусіць адбыцца якісь пераварот у свеце. А кожны святовы пераварот каштуе мільёны людзей... Жыццё людское ёсць найцаннейшым дарам Божым.... Вайна ёсць згуртаваннем усіх праступкаў. Яна ёсць ганьбай чалавечнасці. Яна матка ўсялякай нядолі. Няма нічога на свеце так паніжаючага чалавека, як вайна. Роўнай пагібелі, што нясе яна людскасці, не знаходзім у звяроў. Бог дапушчае такое зло на свет, каб зніжыць пыху людскую. Не Бог прычына вайны — злосць людская, завісць і пыха» (22–23).

У такіх варунках, асабістых і

грамадскіх, заканчваў К.Сваяк час свайго трохгадовага дыяканату і рыхтаваўся прыняць святарскае пасвячэнне. Ён ізноў перажывае пакутлівыя выпрабаванні духу, бачачы веліч шляху, на які ўступае, і баючыся сваёй чалавечай кволасці — ці яна не акажацца перашкодаю на гэтым шляху, ці ён вытрывае ў цярпеннях? Але ўсе сумненні адольваюцца вераю, малітоўным зваротам да Бога. «5.V.1915. Гнаны зманнасцяй свету і людской спадзеі, я думаў найсці пацеху і шчасце ў рэлігіі і аддаўся Богу без раздзелу. Я чуў іскру Божую ў сабе да засеву на ніве людзкой — праўды Божай. Але баяўся чапіць гэты скарб свой, ведаючы, што калі аддацца ксяндзоўству, то трэба гэта зрабіць усёй істотай сваей: з крывавай афярай самога сябе. Верыў я, што гэта мог бы зрабіць, бо ласка Божая для мяне была падана, гатова. І быў момэнт, калі я гэта зрабіў, залажыўшы сабе вечны ідэал — праз цярпенне. Мой Божа, ці я ўстаю цвёрдай ступнёй на выбранай дарозе? Ах, ніколі не адбяры ад мяне гэтай надзеі, бо згіну! Дай мне цярпенне, хоць бы, як мора, глыбокае, але і сілу дай знясці і вытрываць» (23). Можна бачыць з гэтых развагаў, як крышталізуецца святарскае пакліканне ў асобе чалавека, праходзячы розныя ступені свайго гартавання. Гэта нялёгкі шлях, які напоўніцу ўсведамляе носьбіт пaклікання, адгукаючыся на покліч Бога. Запіс наступнага дня сведчыць ужо аб спакойным прыняцці пасвячэння і натуральным самапачуванні на гэтым шляху: «6. V. Няма большага суму, як абмануцца ў сіле сваёй. Смутак такі, калі яго не ўмяркуе моц вышэйшая, даходзіць да роспачы... Прызнаюся – чуццё, перажытае ў мінуты, калі даведаўся я, што зара буду ксяндзом, было так спакойнае і патольнае, што сапраўды болей яго цаню, чым усё дазнанае ў часах апошніх. Аджыла ў мяне вера ў жывучасць таго голасу, каторы звінеў калісьці ў вушах маіх: «Ідзі за Мной!» І болей яшчэ: не чуў я голасу адпору натуральнага, што мяне хватаў і адцягваў ад ідэі Хрыстовага свяшчэнства, манячы да свету, каторы прымаў мяне і прымае дагэтуль з шырокім усьціскам. Але дарэмна! – Яму не даўся і не дамся!» (23).

Так, у поўным перакананні і згодзе са сваім пакліканнем, пачаўся святарскі шлях Кастуся Стэповіча, які, як сведчыць дзённік, з 31 мая 1915 г. пачаў адпраўляць святую Імшу, спавядаць і выступаць на амбоне ў імя Божае. Такім чынам, у гэтым годзе яшчэ адна памятная дата — 100-годдзе святарства Казіміра Сваяка! Першыя гады яго святарскай службы праходзілі ў парафіяльных касцёлах у Камаях і Клюшчанах і былі звязаныя з шырокай асветніцкай і адраджэнскай дзейнасцю, што шчыльна лучылася з беларускай свядомасцю К. Сваяка і яго жаданнем зрабіць Касцёл у Беларусі беларускім. «Я сын таго народу, што найбольш цярпеў, цярпіць і цярпець будзе», – пісаў пра сябе святар-паэт (23).

Асабліва востра разумеў малады святар неабходнасць мець беларускія кніжкі для набажэнства, песні і малітвы па-беларуску. Магчыма, ён не ведаў пра выдадзены ў 1915 г. друкарняй «Зніч» у Вільні першы ў XX стагоддзі беларускі малітоўнік «Бог з намі» ў апрацоўцы Б. Пачопкі, але, хутчэй за ўсё, ён яго не задавальняў як практыкуючага ксяндза. Ужо ў 1916 г. падчас працы ў клюшчанскай парафіі і бурнай дзейнасці «Хаўрусу сваякоў» прыйшла да яго задума стварыць кніжку для практычнага набажэнства беларусаў католікаў. Ён пачаў працу над рэалізацыяй гэтай ідэі — захаваліся чарнавыя запісы К. Сваяка ад 12 мая 1916 г.: «Маю намер пачаць свайго ўкладу кніжыцу да набажэнства. Мо лезу не ў сваё. Зраблю прынамся планік.

Год Каталіцкі:

І. Тыдзень. 1.Пацеры. 2. Малітвы на кожны дзень тыдня. 3. Малітвы Імшальныя.

II. Месяц. 1. Размыслянне на першы дзень месяца з рахункам сумлення. 2. Споведзь. 3. Комунія.

III. Год. 1. Размыслянне на кожную пару года. 2. Размыслянне на важнейшыя святы. 3. Аб 4-х апошніх праўдах веры».

Гэта быў план і пачатак той працы, вынікам якой стане вядомая кніжка для набажэнства «Голас душы», што выйдзе некалькімі выданнямі ў Вільні (1926, 1934) і стане надзвычай папулярнай і прыдатнай для набажэнства і святарам, і вернікам. Многія католікі беларусы карыстаюцца ёю і сёння, а тэксты выкарыстоўваюцца ў сучасных выданнях падобнага зместу. Сярод рукапісаў К. Сваяка захаваліся некалькі тэкстаў, што рыхтаваліся ў межах гэтага малітоўніка, але не ўвайшлі туды ў канчатковай рэдакцыі. Яны могуць быць цікавыя ў сённяшняй практыцы веры. Напрыклад, тэкст, прысвечаны малітве, напісаны як матэрыял на «Тыдзень рэлігійнай мыслі». Такі «Тыдзень...» быў змешчаны ў «Голасе душы» і меў духоўныя разважанні на кожны дзень тыдня. Цікавы і другі тэкст — «Парадак дня», які дапамагае верніку ў практыцы падрыхтоўкі рахунку сумлення. Падаючы гэтыя тэксты ў друку, спадзяемся, што яны будуць не толькі цікавымі, але і карыснымі, а таксама будуць знакам ушанавання святарскай працы К. Сваяка, які рупіўся аб духоўным здароўі народа, даючы яму навуку Хрыстовай веры на роднай беларускай мове.

Казімір Сваяк

# Аб малітве

«Маліся, мой браце, часта і шчыра. Малітва – ачысціць душу тваю, ставячы на памяць Бога – Створцу. Маліся ў долі і нядолі, у пацехах і горычы жыцця будняга. Маліся цэлай істотай сваей: мысль твая хай спазнае Бога, воля хай лучыцца з воляй Найвышшага, сэрца хай гарыць агнём міласці для Усёмоцнага і Міласэрнага. Маліся не толькі з кніжыцы: свая малітва мілейшая Богу, бо плывець яна проста з сэрца. Малітва адмяняе чалавека. Звольна (паводле слоў А.Фабера) набірае ён перакону, што яна жыццём душы яго: моліцца тады ўсцяж. Жыццё ягонае стаецца неразрыўнай малітвай. Неразрыўнай, бо кожная мысль, кожнае слова, кожны ўчын яго ажыўляе Дух Божы, з каторага душа людзкая чэрпае як з крыніцы моц і натхненне. «Запраўды моўлю вам, калі б вы мелі веру без сумлівасці, а сказалі гэнай гарэ: Падыміся і кінься ў мора – станецца так. Усё, чаго толькі прасіць будзеце ў малітве, веручы, возьмеце» (Хрыстус)».

# Парадак дня

«Парадак дня. З Богам устаю, з іменем Божым іду ў пасцель. Працую шчыра, бо праца мая ў цесным звязку з малітвай. Гэта дзве сястры, роўна Богу мілыя. А палудні задаю сабе тры пытання. 1. Ці я не гультаю? 2. Ці папраўляю свой характар? 3. Ці помню аб вечным бытаванні душы людзкой? Божа, успамажы сілы духа майго! Дай сілу, каб падняў сябе на вышыню свайго абавязку!

Вечарам чытаю ў душы маей: «Стань прад Оглядам Божым. Пакорна дзякуй за ўсё. Афяруй усе свае справы. Пазнай самога сябе. – Мала помніў аб Богу. Нядобра маліўся. Паддаваўся сумнаце і горычы ў цярпенні і трудох. Быў лёгкамысным і пустым. Веру сваю мала шанаваў. Без пашаны гаварыў аб рэчах святых. – З бліжнімі блага жыў. Быў злосны і наругліві. Амовіў няднаго, а мо нават у чым важкім. Слухаў плёткаў і кепства людзкога. Быў гардым для ніжшых, неулёслівым для роўных, неспагадлівым для ўсіх. Ня слухаў, як трэба, сваіх старшых. Скрыўдзіў. Зманіў. – Грэшны я прад самым сабой. Марнаваў час дарагі. Аддаваўся пустым марам. Ленаваўся. Хваліўся, а мо нават з таго, што ня годна пахвалы. Гаварыў замнога, безнадна. Ніякага ўчынку афярнага на карысць бліжняга не ўчыніў... Мой Божа! Каюся. Абяцаю, што буду сільней працаваць над сваім характарам. Дараваць прашу ўсё. А што добрага ўдалося мне зрабіць, з ласкі Тваей, прыняць прашу. Пакорна прызываю помач Тваю. Хачу быць у лучнасці з усімі духамі чыстымі засьвету. Дай Божа спачынак душам, што праходзяць агонь Чышчэння. А духу майму сон чысты».



Сяргей Шэмет. «Пяць хлябоў і дзве рыбы».

Клайв Стэйплз Льюіс

# Чатыры віды любові

## Раздзел IV
## Сяброўства

Я падкрэсліў «неабавязковасць» сяброўства, і гэта патрабуе ад мяне больш дакладнага тлумачэння.

Можна аспрэчыць маю пазіцыю, сказаўшы, што сяброўства прыносіць вялікую карысць грамадству. Усе вялікія грамадскія ініцыятывы і цячэнні, можна сказаць «рэлігіі», развіліся ў малой групе сяброў. Матэматыка як навука пачала складацца тады, калі некалькі сяброў у Грэцыі пачалі размаўляць пра лічбы, лініі і вуглы. Тое, што называецца цяпер Каралеўскім навуковым таварыствам, спачатку было сустрэчамі некалькіх джэнтльменаў, якія ў свой вольны час абмяркоўвалі пытанні, што былі цікавыя ім (і некаторым іншым таксама). Рамантызм распачаўся з бясконцых размоваў спадароў Уордсварта і Колрыджа (у першую чаргу гэтага апошняга) пра іх асабісты погляд на рэчы. Можна без перабольшванняў сказаць, што камунізм, трактарыянізм[30], метадызм, рух за скасаванне нявольніцтва, Рэфармацыя, Рэнесанс узніклі такім жа чынам.

У гэтым нешта ёсць. Але, напэўна, амаль кожны чытач палічыць адны з гэтых рухаў добрымі для грамадства, а іншыя — дрэннымі. Але ў цэлым прыведзены спіс як найлепш дэманструе, што сяброўства можа стаць для грамадства і добрай дапамогаю, і небяспекаю. Але нават у якасці добрай дапамогі сяброўства вартаснае не столькі для выжывання, колькі «для цывілізацыі». Як сказаў Арыстоцель, яно дапамагае грамадству не выжываць, а жыць лепш. Часам у некаторыя эпохі і ў пэўных абставінах вартасць для выжывання і вартасць для развіцця цывілізацыі супадаюць, але не заўжды. Аднак у любым выпадку можна ўпэўнена сказаць, што калі сяброўства прыносіць грамадству нейкую карысць, гэта адбываецца выпадкова і з'яўляецца пабочным прадуктам. «Рэлігіі», распрацаваныя для грамадскай карысці, як праслаўленне боскай годнасці імператара ў Старажытным Рыме або сучасныя спробы «прадаць» хрысціянства як сродак «уратавання свету», ні да чаго не прыводзяць. Малыя групкі сяброў, якія адварочваюцца ад «свету», вось яны сапраўды змяняюць яго. Матэматыка Егіпта і Бабілёна мела вялікае практычнае і грамадскае значэнне, служыла сельскай гаспадарцы і магічным рытуалам. Але незалежная матэматыка Грэцыі, якою некалькі сяброў займалі свой вольны час, прынесла нам больш карысці.

Некаторыя ізноў жа могуць сцвярджаць, што сяброўства мае неацэнную карысць, а магчыма, і неабходнасць для выжывання індывіду. У якасці доказу можна прывесці мноства аўтарытэтных выказванняў: «безабаронная тая спіна, за якою не стаіць брат», і «ёсць сябры, бліжэйшыя за братоў». Але, гаворачы так, мы ўжываем слова «сябар» замест «хаўруснік», «прыхільнік». Звычайна ж слова «сябар» значыць, або прынамсі павінна значыць, нешта большае. Сябар, зразумела, павінен праявіць сябе як хаўруснік, калі гэта неабходна: пазычыць грошай або дапамагчы ў патрэбе, апекавацца ў хваробе, заступіцца перад ворагамі, зрабіць усё магчымае для ўдавы і сіротаў сябра. Але ўся гэтая дабрачыннасць не мае дачынення да сяброўства. Акалічнасці, якія вымушаюць аказваць паслугу, — гэта хутчэй перашкода для сяброўства. Яны пэўным чынам істотныя ў ім, а пэўным чынам — не. Істотныя, бо, не аказаўшы дапамогі ў патрэбе, вы акажацеся несапраўдным сябрам, а неістотныя — бо роля дабрачынцы заўжды выпадковая, нават крыху чужая ролі сябра. Яна ставіць сябра ў няёмкае становішча, бо сяброўства абсалютна вольнае ад патрэбы быць патрэбным, уласцівай прыязнасці. Нас засмучае, што ўзнікла патрэба дапамагаць, пазычаць або дзяжурыць уначы пры ложку хворага. Давайце ж дзеля Бога хутчэй забудзем пра гэта і вернемся да сапраўды прыемных размоваў і заняткаў. Гэтаму віду любові нават удзячнасць перашкаджае. Стэрэатыпная фраза «Забудзься» перадае пачуцці, якія мы перажываем. Адзнака сапраўднага сяброўства не ў тым, каб дапамагчы, калі сябра прыцісне (гэта і так зразумела), а ў тым, што аказаная дапамога нічога не змяняе. Гэта адцягвае ўвагу, адводзіць ад галоўнага. Гэта толькі жахліва забірае час, які можна правесці разам, а яго і так заўжды мала. Можа, у нас толькі пара гадзінаў, каб паразмаўляць, а Божа ратуй, цэлых дваццаць хвілін давялося аддаць *справам*.

Бо справы сяброў нас зусім не цікавяць. Ся-

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2013 г.*

броўства, у адрозненне ад кахання, не дапытлівае. Вы становіцеся некаму сябрам, не ведаючы і не цікавячыся тым, ці ён жанаты, ці не, і як ён зарабляе на жыццё. Якія адносіны маюць усе гэтыя «неістотныя рэчы і фактычныя абставіны» да сапраўды важнага пытання: «*Ты бачыш тую ж праўду?*». У коле сапраўдных сяброў кожны чалавек проста з'яўляецца самім сабою, выяўляе сябе толькі як асобу. Нікога не цікавіць яго сям'я, прафесія, становішча ў грамадстве, даход, нацыянальнасць або мінулае. Зразумела, што вы так ці інакш пра ўсё гэта даведаецеся. Але выпадкова. Гэтыя акалічнасці будуць патроху выяўляцца дзеля нейкага прыкладу або правядзення аналогіі, паслужаць прэамбулай для анекдота, але самі па сабе яны не маюць значэння. У гэтым каралеўская годнасць сяброўства. Мы сустракаемся як валадары незалежных дзяржаваў, за іх межамі, на нейтральнай тэрыторыі, вольныя ад кантэксту ўласнага жыцця. Гэты від любові па сутнасці не звяртае ніякай увагі не толькі на нашую цялеснасць, але і на тое, у што яна загорнутая: сям'ю, працу, мінулае і сувязі. Дома, будучы проста Пітэрам і Джэйн, мы маем яшчэ і сацыяльную ролю: мужа або жонкі, брата або сястры, кіраўніка, калегі, падначаленага. Але з сябрамі ўсё інакш. Сяброўства вызваляе і агаляе розум. У каханні агаляюцца целы, у сяброўстве — асобы.

У гэтым (зразумейце мяне правільна) заключаецца тонкая адвольнасць і безадказнасць гэтага віду любові. Я не абавязаны быць нічыім сябрам, і няма ў свеце чалавека, абавязанага быць маім. Ніякіх прэтэнзій, ні ценю неабходнасці. Сяброўства не з'яўляецца неабходным, таксама як філасофія, мастацтва і сам сусвет (у Бога не было неабходнасці ствараць яго). Яно не патрэбнае для жыцця, але гэта адна з тых рэчаў, без якіх не патрэбнае жыццё.

Кажучы пра сяброў, якія стаяць побач, плячо да пляча, я падкрэсліў абавязковае адрозненне гэтай паставы ад паставы закаханых, якія ўяўляюцца нам тварам да твару. Я ўжыў гэтае параўнанне толькі каб паказаць адрозненне паміж імі. Агульныя зацікаўленасці або светапогляд, якія яднаюць сяброў, зусім не прымушаюць іх заставацца абыякавымі і безуважнымі адзін да аднаго. Наадварот, менавіта ў сяброўскім асяродку ўзнікае ўзаемная любоў і ўзаемнае веданне. Нікога мы не ведаем так добра, як «старога сябра». Кожны крок у супольным падарожжы выпрабоўвае, з чаго ён зроблены, і гэтыя выпрабаванні нам цалкам зразумелыя, бо мы самі праз іх праходзім. І калі раз за разам мы бачым трываласць металу, з якога выкаваны сябра, наш давер, павага і прызнанне расцвітаюць у вельмі моцную і ўпэўненую любоў ацэнкі. Калі б мы з самага пачатку больш цікавіліся самім сябрам, а не тым, «пра што» мы сябруем, мы б ніколі не даведаліся пра яго так шмат і не палюбілі б яго так моцна. Вы не адкрыеце ў чалавеку ваяра, паэта, філосафа або хрысціяніна, проста гледзячы яму ў вочы, як каханай, лепш змагайцеся побач з ім, чытайце разам з ім, спрачайцеся і маліцеся.

Мне здаецца, у дасканалым сяброўстве гэтая любоў ацэнкі часта бывае такой вялікай і трывалай, што кожны з сяброў у глыбіні сэрца адчувае сваю мізэрнасць перад іншымі. Часам ён дзівіцца, што робіць сярод гэтых людзей, настолькі лепшых за яго, і неймаверна шчаслівы знаходзіцца ў такой кампаніі. Асабліва калі ўся кампанія збіраецца разам, кожны сябар выяўляе ў іншых самае лепшае, мудрэйшае, забаўнейшае. Гэта залатыя часы, калі чацвёрка або пяцёрка сяброў вяртаецца дамоў пасля цяжкага дня падарожжа, абувае пантофлі, выцягвае ногі да зыркага агню. Напоі пад рукой і ўвесь свет, і нават нешта па-за ім адкрываецца ў цягу размовы нашым розумам. Ніводзін з нас не мае прэтэнзій да іншых або абавязкаў перад імі. Усе свабодныя і роўныя адзін перад адным, так, нібы ўпершыню сустрэліся ўсяго гадзіну таму, і ў той жа час нас лучыць прыязнасць, правераная гадамі. У жыцці — у зямным жыцці — няма большага дару за гэты. Хто яго заслужыў?

З таго, што было сказана, становіцца зразумела, што амаль заўжды ў грамадстве і амаль ва ўсе эпохі мужчыны сябравалі з мужчынамі, а жанчыны — з жанчынамі. Мужчыну і жанчыну могуць звязваць прыязнасць і каханне, але гэты від любові — не. Вельмі рэдка яны бывалі кампаньёнамі ў адной справе, а гэта — аснова сяброўства. Там, дзе мужчыны адукаваныя, а жанчыны — не, дзе мужчыны працуюць, а жанчыны — не, або іх праца зусім іншага роду, ім звычайна няма «пра што» сябраваць. Але відавочна таксама, што хутчэй менавіта гэтая нестыкоўка перашкаджае сяброўству, а не асаблівасці мужчынскай і жаночай натуры. Там, дзе мужчына і жанчына могуць быць кампаньёнамі, яны могуць стаць і сябрамі. Ва ўніверсітэцкім асяродку, як мой, дзе мужчыны і жанчыны працуюць побач, а таксама ў місіянерскай працы або сярод пісьменнікаў і мастакоў падобнае сяброўства — звычайная рэч. Здараецца, што сяброўства, прапанаванае адным бокам, іншы бок прымае за каханне, і гэта выклікае боль і няёмкасць. Або адносіны, што пачаліся як сяброўства, могуць перарасці ў каханне. Аднак казаць, што адно прымаюць за другое або адно ператвараецца ў другое — не значыць адмаўляць іх адрозненні. Гэта само сабою зразумела, інакш нельга сказаць, што адно «пераблыталі» з другім, або адно «ператварылася» ў другое.

Пераклад з англійскай мовы Юліі Шэдзько.
Паводле: «*The Four Loves*», *C. S. Lewis,* 1958.
*Працяг будзе.*

[30] Трактарыянізм — рэлігійны рух у оксфардскім асяроддзі XIX ст., распачаты Джонам Ньюмэнам.



# Ян Чыквін

**Ян Чыквін** — паэт, перакладчык, гісторык літаратуры, доктар гуманітарных навук, прафесар, старшыня літаб’яднання «Белавежа». Нарадзіўся 18 мая 1940 г. у в. Дубічы Царкоўныя на Беласточчыне.
Аўтар зборнікаў паэзіі «Іду» (1969), «Святая студня» (1970), «Неспакой» (1977), «Светлы міг» (1989), «Кругавая гара» (1992), «Свет першы і апошні» (1997), «Крэйдавае кола» (2002), «Жменя пяску» (2008), «Адно жыццё» (2009), «На беразе Дубіч Царкоўных» (2010), а таксама літаратуразнаўчых кніг «Далёкія і блізкія: Беларускія пісьменнікі замежжа» (1997), «Ідэя. Вобраз. Інтэрпрэтацыя» (2014).
Жыве ў Бельску Падляскім у Польшчы.

* * *

Прыехалі госці. Ля дома
Стаяць механічныя коні,
Ідзе валтузня і разборка:
Дзе хто што паклаў — ці помніць...

Дарункі нясуць. Вандроўка,
Вандроўка, вандроўка
Гісторыяй будзе падворка,
Калі хто яе ўспомніць.

Ніхто не ўспомніць нічога!
Не тыя прыехалі мосці,
Не тая вяла іх дарога!

Чужыя заходзяць чагосьці —
Не, не запросяць у госці...
І пачалі дарункі выносіць.

* * *

Радасць прыйшла нечакана,
Калі я сядзеў з адзінотай,
Здаўна ў мяне закаханай
Адкрытым сэрцам і ротам.

Радасць была нізкага росту,
Ды ўсюды — усмешка-трымценне
Прыгожыла твар яе просты,
Ніводзін праменьчык не гінуў.

Каб мець яе назаўсёды,
Адчайна схапіў яе ў жменю
І кінуў у доўгую скрыню,
Дзе гадаваў я каменне.

Сяджу — і днюю так, і начую,
Шапку на лоб насунуў.
— Ці чуеш, — ад радасці чую, —
Я сталася жалем тваім і сумам.

## Свята

Людзі ходзяць без шапкі,
Шапка вісіць у хаце.
Пад шапкай родзіцца тата,
З-пад шапкі выходзіць маці.

Дзеці сядзяць вяночкам
Наўкола роднага sprата.
Па хаце дух крылаты
Носіць з крыкам паночка.

Сцелецца ціхасцю радасць,
Моліцца дзень на ікону.
Ўверх паляцела шапка,
Вышэй царкоўнага звону.

Цячэ-расцякаецца свята,
Парог абмінуўшы, у поле
Ідзе за рукамі таты,
Палоніць усё наваколле.

Спявае жывое каменне,
Вербы, таполі і грэчка.
Каб паглядзець з захаплення
На спеўнасць іхняе спеўні,
На бераг выплыла рэчка
І слухае плёскату долі.

Лугоўе стала абрусам,
Якім накрыліся далі.
Над ім вышываны бусел
З буслíхай з гнязда выляталі.

* * *

У Дрэздэн паедзем, Галя!
Сам горад нас запрашае.
Фраў кірхэн стаіць на вакзале,
А побач Бернд і Дана.

На ўсё жыццё маладыя,
Прыгожыя дзеці ад Бога,
Бы вербы над ціхай вадою,
Што хочуць плыць на аблоках.

Яны раздаюць знаёмым
Доўгую радасць спамінаў —
Каму ў падарунак Цвінгер,
Каму толькі позірк Мадонны.

А нам — заставацца сам-насам
З красою тутэйшага духу,
Глядзець і бачыць, і слухаць
Ценяў вялікай Тэрасы.

* * *

Яблыкі, грушы і слівы
Ляжаць на стале ў карыце,
Такія сонна-шчаслівыя,
Што хоць іх у рот бярыце.

Стол з эпохі барока
Не такія бачыў фрукты.
Хто ўмее, той цешыць вока,
А іншыя — цягнуць рукі.

Сядзяць пры стале дзяўчаты,
Ядзяць залатыя грушы...
А мастак глядзіць вінавата,
Што намаляваў іх бяздушнасць.

* * *

Не ведаем — стаецца што без нашага ўдзелу,
Без волі нашай. Часта так сабе сказаўшы слоўка,
Здаецца, мімаходзь, у лёгкую часіну,
Здзіўляемся, калі і след даўно той думкі згінуў,
Як слова наша раптам стала целам —
І нібыта з вады Гаргона з'явіцца якая ці Афіна.

Хто ж так няўзнак гартае нашага жыцця старонкі?
Няўжо і там, за межамі ўсіх чалавечых лёсаў,
Сядзіць няведамы сусветны гакер,
Зусім празрысты, цалкам невідочны звонку,
І ўсё майструе у праграмах боскіх правакатар,
Змушае летуценіць, жыць без толку
Ды слоў баяцца — тых, пасланых наўздагон нябёсам.

## Варшава

Ёкнула ў сэрцы на Замкавым пляцу. Варшава
Юначых гадоў маіх наймілейшых
Любіла заходнюю моду, шык і забавы,
І як бы сама пісала ім патрыятычныя вершы.

Яна раздавала усім свае краявіды
І сцэны плачаў даўніх — яркіх і гнеўных,
Пейзажы трыумфу ні то Галіяфа, ні то Давіда,
Ахутаных ціс-мажорнай музыкай Шапэна.

Яна любіла пад навесам цішыні касцельнай,
Схіліўшы галаву ў медытацыях, маліцца
Перад чорнаю мадоннаю віленскай —
Вады каб скіфы не змуцілі ў Вісле.

Варшава любіла ад першай сустрэчы.
І я быў па вушы ў яе закаханы...
Бывай, дарагая! І ёкнула ў сэрцы.
Анёлы мелі для нас розныя планы.



# Аксана Данільчык

Аксана Данільчык — паэтка, перакладчыца, кандыдат філалагічных навук. Закончыла філфак БДУ і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Аўтар зборнікаў вершаў «Абрыс Скарпіёна» (1996), «Il Mezzogiorno. Поўдзень» (2006), «Сон, які немагчыма забыць» (2011) і кніжкі вершаў для дзяцей «Павуцінка на агрэсце» (2005). Перакладае з італьянскай мовы, займаецца даследаваннем беларускай і італьянскай літаратуры. Жыве ў Мінску.

* * *

Хвалі — ружовыя і залатыя,
адна за адной, нітка за ніткай,
адно сонца выткана на небе,
другое на вадзе,
трэцяе — на мокрым пяску.
Палатно быццам расцелена на ўвесь далягляд.

Вось яна, суворая прыгажосць поўначы,
няўстойлівая пад уздзеяннем ветру і мора.
Могілкі мёртвых дрэваў,
іх хрыбеціны напаўзанесеныя пяском,
асуджанасць кожнай травінкі.

Бераг асыпецца ад уласнага цяжару,
аголенае карэнне высушыцца сонцам,
сасна вось-вось скоціцца на пляж,
а потым мора пагайдае яе і выкіне,
як непатрэбны ўспамін.

Што прычына, а што наступства
ў гэтым наступе выдмаў,
бязлітасным і непазбежным,
непапраўным у сваёй абыякавасці,
велічным, як рэквіем,
што гучыць свістам пяску
пад нашымі нагамі?

Сонца адпаўзае за мора,
вызваляючы прастору прыцемкам.

**Пачатак**

Калыхаюцца дрэвы ў густую трывожную ноч,
выгінаюцца, быццам, гімнасты
пад посвіст дзікі.
Можа быць, яны скруцяць сальта
ці проста палягуць наўзбоч,
можа, страціць трываласць свет
пад нячутныя крыкі,
можа скончыцца тут і цяпер,
і тады
давядзецца нанова
вынайсці пункт адліку.

І дрэвы адарваліся-такі ад зямлі,
і захацелі ўзняцца ў неба,
але, прывязаныя за карэнне,

павіслі, як балонікі на нітках,
так і гайдаліся, пакуль не скончылася бура,
пакуль не скончыўся вецер,
што трымаў іх сваімі плынямі,
тады яны знясілена пападалі на зямлю,
і здавалася, што век іх скончаны,
а я глядзела на іх і думала,
што і мой век скончаны.

І дрэвы быццам страцілі гучанне,
і словы быццам страцілі гучанне,
і непазбежнае расчараванне
прабегла па нервовым твары бэзу,
нягнуткія галіны, як пратэзы,
ў імкненні распачаць сваю гамонку
нязграбна ўзмахвалі зялёнымі сцягамі,
віселі хмары па-над мокрымі дамамі,
а я схілілася пад абразамі
і напісала першую старонку.

* * *

дождж раскрываецца паступова
як кветка выпроствае пялёсткі
воблака за воблакам
светлае цёмнае
светлае цёмнае
цёмнае
цёмнае

нарэшце

**крыху філасофіі перад тым
як заплюшчыць вочы**

цёплае цёплае паветра наэлектрызаванае
перадналвальнічымі токамі —
праваднік маіх думак у навакольнае асяроддзе

пра экзістэнцыйныя несупадзенні
і маленькія нязначныя супадзенні
якія ніяк ні на што не ўплываюць

пра самае адчувальнае —
тое што адным мы даруем недаравальнае
а другім не даруем дробязяў
гэта і ёсць тэорыя адноснасці ў дзеянні

і будуць ляцець самалёты
ухіляючыся ад маланак і абмінаючы хмары
і падстаўляць твары дажджу
кармазынавыя вішні
а я прымружу паўсонныя вочы
і прападаючы ў паветраных ямах
адчую як скаланаюцца рэкі
прымаючы водаў нябесных падзенне

* * *

Тут ізноў усё жоўтае і зялёнае.
Толькі неба светла-шэрага колеру,
толькі вільгаць зацягвае вокны,
а лісце паступова ператвараецца ў гербарый.

Што гэта значыць?

Гэта значыць, што ўсе жывыя пачуцці
ператворацца ў словы,
што галасы, уражанні, пахі
ператворацца ў словы.
І доўгімі восеньскімі вечарамі
думкі будуць нанізвацца адна на адну,
закрэслівацца і выпраўляцца,
усплываць і падаць на дно.

Што гэта значыць?

Гэта значыць, што скончылася жыццё.
І пачалася літаратура.

І ўсё, што было відно,
зробіцца невідавочным.
І здасца неабавязковым,
але насамрэч неабходным,
як няспыннае сэрца біццё,
як нармальны ціск
або тэмпература.

* * *

Ёсць час сядзець на камянях
некалі раскіданых
і некалі сабраных
дзеля таго, каб было сваё месца
углядацца ў светабудову.

Ёсць час сядзець на камянях,
захінуўшыся парасонам,
і разглядаць апакаліптычны дождж,
што працуе з зямлёй,
як ганчар працуе з глінай.

Ёсць час сядзець на камянях
між гародзейскім
і стаўпецкім гасцінцамі,
якія з аднаго і з другога боку
вядуць у Мір.

Ёсць час сядзець на камянях
і слухаць, як прарастаюць
з лета ў восень грыбы,
як іх накрывае лісце
з восені ў зіму.

Ёсць час сядзець на камянях,
перамаўляючыся з іншасветам,
гладзіць стогадовы мох
і ўрэшце заўважыць, як паступова
камяні апускаюцца ў зямлю.



# ХРАМ ЯГО ПАЭЗІІ

У кнізе Рыгора Барадуліна «У неба пехатою», што рыхтавалася да друку пры жыцці паэта, а сталася першай пасмяротнай, маю ўвагу надоўга запыніў верш, які пачынаецца афарыстычным чатырохрадкоўем:

*Паэт будуе сам сябе, як храм*
*Ці як пахіленую халабуду.*
*У храме весялей адбыцца цуду,*
*У халабудзе вылежыцца хлам.*

І далей — тройчы, як малітоўны рэфрэн, паўтараецца радок: *«Паэт будуе сам сябе, як храм».* Не ведаю, што будзе напісана на надмагільным помніку Р. Барадуліна, які мяркуецца ўсталяваць сёлета ва Ушачах, дзе пачаўся і закончыўся яго зямны шлях. Калі б гэта залежала ад мяне, на помніку з'явіліся б менавіта гэтыя словы: «Паэт будуе сам сябе, як храм», бо ўся паэзія Р. Барадуліна — як выбудаваны ў неба вечнасці Беларускі Храм. З усімі неабходнымі для святыні атрыбутамі. Храм — як антытэза грахоўнай халабудзе, дзе збіраецца смецце нашага мітуслівага побыту.

*«У храме весялей адбыцца цуду»*... Цуды здараюцца не толькі ў храме, а паўсюль, дзе трэба ўратаваць чалавецтва ад поўнай зняверы. Вось і з'яўленне ў 1991 г. на мапе свету Рэспублікі Беларусь я разглядаю як адзін з цудаў. Упершыню ў беларускай гісторыі была прынятая Канстытуцыя, якая насамрэч адпавядала нацыянальным інтарэсам, урэшце сама ўлада загаварыла па-беларуску. І як адна з праяваў таго цуду — наданне звання народнага паэта Рыгору Барадуліну. Неяк я загаварыў пра гэта з тагачасным кіраўніком Беларусі Станіславам Шушкевічам, і ён сказаў, што Барадулін для яго вялікі паэт і святы чалавек, і што тою пастановай Вярхоўны Савет проста замацаваў відавочнае — Рыгор Барадулін і без усялякіх званняў народны.

Доўгі час у нашым літаратуразнаўстве ствараўся стэрэатып, як ні дзіўна, жывы і па сёння, паводле якога беларуская літаратура — пераважна патрыярхальна-вясковая, а яе героі ледзь не ўсё XX ст. абораю хлеб кроілі. Гэта, вядома ж, не так. У процівагу я мог бы прывесці дзясяткі імёнаў і сотні твораў. Але дастаткова назваць імя аднаго Барадуліна, у чыёй творчасці адлюстравалася ўсё наша шматпраяўнае беларускае быццё. І глядзім мы з радасным здзіўленнем на тое адлюстраванне, бо мы, аказваецца, і цікавыя, і самадастатковыя, і нябедныя, і хадзіць нам у пазыкі да чужога дзядзькі неабавязкова. Паводле сваёй метафорыкі, вобразатворчасці Рыгор Барадулін як паэт, на маю думку, не мае сабе роўных, хоць раўнялі неаднойчы і яго. Як усіх.

Доўгі час Рыгора Барадуліна адносілі да гэтак званага філалагічнага пакалення, пазней вобразна названага пакаленнем, абпаленым вайной. Але Барадулін не становіцца ні ў якія шэрагі. Можна, вядома, уявіць яго ў пачэсным арэапагу разам з творцамі-равеснікамі, з якімі ён сябраваў. З заглыбленым у гісторыю жыццялюбам Уладзімірам

Караткевічам, які сваімі творамі намагаўся прышчапіць жыццялюбства ўсяму народу. З далікатным і тонкім знаўцам душы чалавечай Міхасём Стральцовым. З пажыццёва задзірыстым (нават на чыноўніцкіх пасадах) Генадзем Бураўкіным.

І ўсё ж Барадулін — не ў шэрагу, ён сам па сабе, як той зубр-адзінец. Дарэчы, бескампрамісная Ларыса Геніюш яго так і называла: «Барадулька мая харошая, шляхотны пабраціме зубра барадатага».

Выйшла больш за сотню кніг паэта. Цяпер разбіраецца і апрацоўваецца яго архіў — ужо выйшаў у свет першы том дзённікаў і запісаў. І міжволі прыходзіш да думкі, што, каб ацаніць усё ім створанае і пакінутае нам як дар, не шкодзіла б заснаваць Інстытут барадуліназнаўства.

Так, Рыгор Барадулін сам па сабе, але — з народам. Калі ў свой час выйшаў знакаміты зборнік «Здубавеццяя», я наўпрост спытаўся ў паэта, ці ўсё там народнае, ці вы трошкі і свайго дадалі? Адказ быў даволі ўхілісты, і я зразумеў, што нават не трошкі. Тое самае, думаю, адбылося і з кнігай «Вушацкі словазбор». Дадумваць за народ — Барадулін меў такое права.

Гэта немагчыма высветліць і ўдакладніць, але ў кожнай народнай прыказкі ёсць канкрэтны аўтар. Часта яна — мастацкі мінітвор, бывае нават рыфмаваны: «Памёр багатыр — за ім ідзе ўвесь мір, а памёр худачок — ідуць святар ды дзячок»; «хваліўся старац, што пeражыў марац, ажно ў маю — нясуць яго да гаю». Хто аўтар гэтых і сотняў іншых такіх жа запамінальных выслоўяў? Нехта ж пусціў іх у свет, а народ узяў, як кажуць, на ўзбраенне, штосьці дадаўшы. Так і Барадулін часам пісаў у суаўтарстве з народам. І гэта ёсць найвышэйшы пілатаж для паэта. Перачытайце, скажам, барадулінскі паэтычны цыкл «Бяроза з лістам гаварыла», прысвечаны памяці маці — Куліны Андрэеўны. «*Грабовыя дошкі сціснулі ножкі, сырая зямля на сэрца лягла*» — гэта фальклор ці гэта Барадулін? Пытанне для будучага Інстытута барадуліназнаўства.

Кажуць, што сапраўдным паэтам радкі Бог дыктуе. Аднаму, каб пачуць іх, патрэбна засяродзіцца і настроіцца. А другі чуе іх увесьчасна, дзе б ні быў — «ці на піры, ці ў бары». Як чуў Божую дыктоўку, прыкладам, Адам Міцкевіч, і сучаснікі дзівіліся з яго імправізатарскага таленту. Гэткім жа рэдкім талентам валодаў і Рыгор Барадулін.

Прыгадваецца далёкі ўжо 1996 год. У Доме літаратара праходзіць паэтычная вечарына, прысвечаная Дню волі. Сярод шаноўных выступоўцаў і Рыгор Барадулін. Пасля вечарыны — чарга па аўтографы. Спецыяльна прыстройваюся пасля ўсіх, каб мець магчымасць перакінуцца словам з паэтам. Барадулін бярэ кнігу і нешта падазрона доўга піша. Я нецярпліва выцягваю шыю і пачынаю разумець, што на маіх вачах нараджаецца верш. Для мяне тады гэта было нечуваным дзівам. Пазней ужо я даведаўся, што Барадулін шмат каму падпісваў кнігі вершамі. Вось ён, самы дарагі для мяне барадулінскі аўтограф-імправізацыя:



Рыгор Барадулін з айцом Аляксандрам Шаўцовым — настаяцелем грэка-каталіцкай парафіі святога пакутніка Язафата. Полацк, 2008 г.

*Маладым ад былых маладых*
*Пераходзіць законнае права*
*І на пышкі, й на шышкі, й на ўздых,*
*Што не ўсё ў гэтым свеце цікава.*
*Ад былых маладых маладым*
*Нельга адгарадзіцца лясамі.*
*Дроў наломяць на полымя й дым,*
*Смалякі на распал знойдуць самі.*
*Маладых, будучых ды былых,*
*Сталакуе клопат дакосін.*
*І пачуе самоту слых,*
*І вясною прыкінецца восень.*

Памятаю, як выйшла ў свет унікальная ў кантэксце ўсёй сусветнай літаратуры кніга «Паслаў бы Табе душу...» — перапіска Барадуліна з маці. Я параіў бы прачытаць яе ўсім сынам і дочкам, бо яна літаральна сатканая з любові і пяшчоты. Матчынай і сыноўскай. Маці ўведзеная Рыгорам Барадуліным у почат святых — згадайма яго кнігу «Евангелле ад Мамы». Ён штодня маліўся да мамы, нават напісаў адмысловую малітву. У мяне ёсць яе дыктафонны запіс, і, калі слухаю, перахоплівае дыханне...

Аднойчы па дарозе ў бакаўскія Бычкі мы заехалі ў Вушачы, на Бутаўскія могілкі. Барадулін падышоў да помніка з барэльефам Куліны Андрэеўны, абняў яго і пацалаваў. І стаў гаварыць з маці — як з жывою. Мы з Сяргеем Шапранам ажно разгубіліся. Слухаў я і песні ў выкананні Куліны Андрэеўны. Што ні песня — то сюжэт. Думаю, што яна шмат дала сыну як паэту. Ён проста кшталтаваў тыя сюжэты, аздабляў літаратурна.

Год таму на апошнім развітанні з паэтам я чуў: Барадулін — вялікі паэт, гонар нацыі, чаму вырашана пахаваць яго ў Вушачах? Менавіта ў Вушачах. Па-першае, каля мамы, як ён сам наказваў. Па-другое, выпраўляючыся ў паломніцтва да святыні, чалавек мусіць пераадолець пэўны шлях. Як пераадольваюць яго людзі, кіруючыся ў Святыя горы да Пушкіна ці ў Зэльву да Ларысы Геніюш. Так будуць ісці і ехаць у Вушачы — да Барадуліна.

Гэта неабходна нарэшце зразумець і мясцоваму начальству. Прыкра ўспамінаць той факт, што ў вушацкай раённай кнізе «Памяць» біяграфія Рыгора Барадуліна даецца толькі да 1986 года, хоць «Памяць» тая выйшла ў 2003-м! Ажно 17 гадоў актыўнага — творчага і грамадскага — жыцця паэта падаліся камусьці непатрэбнымі. Начальнікі, відаць, пакуль не зразумелі: Вушачы — гэта не яны, дачаснікі, і не абкарнаная «Памяць». Вушачы — гэта Рыгор Барадулін. І ўжо навечна.

Раней я лічыў, што геній — вызначэнне пасмяротнае. Геніі так рэдка сустракаюцца на зямлі, што ў іх прысутнасць боязна паверыць. Тым болей боязна паверыць у гэта нашаму наскрозь скептычнаму грамадству. І ўсё ж шмат для каго даўно было ясна як божы дзень: Рыгор Барадулін — геній, які жыве побач з намі. Але — і гэта вельмі істотна — яго геніяльнасць нікому не перашкаджала.

Дваццаць гадоў ён быў для мяне дзядзькам Рыгорам (ягоная просьба — называць менавіта так), ад яго ў любую хвіліну можна было пачуць чарговы досціп, вершаваны экспромт, літаратурную показку, што сыпаліся як з чарадзейнага рога ці бяздоннага меха. Нездарма Сяргей Шапран кнігу сваіх гутарак з паэтам так і назваў — «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным». І гэткі «сам-насамны» Рыгор Барадулін ёсць у кожнага з нас.



Падчас сустрэчы з Рыгорам Барадуліным у полацкім Цэнтры народнага мастацтва. 2008 г.



З Алесем Камоцкім і самым юным аматарам паэзіі Вячкам у Музеі гісторыі беларускай літаратуры. 2009 г.

Аднойчы дзядзька Рыгор па тэлефоне папрасіў пашукаць для яго лекі (у аптэцы паблізу ягонага дома такіх не было). Я зрыхтаваўся запісаць мудрагелістую лацінскую назву, але пачуў у слухаўцы — лірыка. Падумаў, што паэт жартуе. Аказалася, пілюлі пад назвай *Liryka* сапраўды існуюць, і ветлівая аптэкарка неўзабаве расказала мне пра іх эфектыўнасць.

Эфектыўныя лекі — і барадулінская лірыка. Неабходна прымаць іх як мага часцей. Гэтыя лекі не для схварэлага цела — лекі гэтыя ўмацоўваюць зняверaную душу. Нездарма сваю выніковую кнігу Рыгор Барадулін назваў знакавым словам «Ксты». Менавіта духоўныя вершы з «Кстоў», выдадзеных і некалькі разоў перавыдадзеных мінскім касцёлам святых Сымона і Алены, дзе настаяцелем служыць дзейсны і адданы Богу і беларушчыне ксёндз Уладзіслаў Завальнюк, сталіся малітоўнай канвой Крыжовага шляху, які сёлета праходзяць вернікі ў парафіі святога Андрэя ў Нарачы.

*«Паэт будуе сам сябе, як храм...»*. І ўсе мы ўслед за паэтам мусім будаваць сябе, як храмы, а не як халабуды. Бо кім ні ёсць чалавек на зямлі, на якіх шыкоўных аўто ні ездзіць, у неба ў свой час ён адыходзіць пехатою. І ў гэтым мне бачыцца галоўны запавет Паэта з Божай ласкі Рыгора Барадуліна.

*Міхась Скобла.*
*Фотаздымкі аўтара*
*і Валерыя Дубоўскага.*

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі XX ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008) і інш.

Язэп Янушкевіч

# Адвакат Віленскай кансісторыі, *або* аўтографы Багушэвіча... ў Мінску



Гэтай сенсацыі болей за 20 гадоў. Калі больш сціпла й дакладна — архіўная знаходка, звязаная з Францішкам Багушэвічам, адшукалася мною 22 гады таму, аднак дасюль не публікавалася (толькі кароткай згадкай-штрыхом прайшла ў эсэ «*Луцкевічы*» пра братоў Яна-Германа і Антося Луцкевічаў).

«... Тым самым днём, 16 мая 1896 года, калі ўдава Луцкевіча прасіла Мінскую шляхецкую апеку «*распространить опеку над малолетними детьми моими*», больш дарослыя падчаркі таксама падалі прашэнне з мэтаю «*вступить лично в управление наследственным имуществом, оставшимся после смерти отца нашего*». Апекуном сваім Марыля і Станіслава прасілі прызначыць правізара Сцяпана Васільевіча Гансеўскага.

Дзіўнае супадзенне! Праз некалькі гадоў у тым самым архіве мне пашанцуе адшукаць судовую справу, заведзеную на Сцяпана Гансеўскага Мінскім акруговым судом «па позве» Віленскай рыма-каталіцкай духоўнай кансісторыі. Дык вось, кансісторыя даручыць весці справу з Гансеўскім нанятаму адвакату... Францу Казіміравічу Багушэвічу. Узімку 1888 года прысяжны павераны Багушэвіч неаднаразова наведаецца з Вільні ў нашу сталіцу, нават пэўны час будзе жыць «па Юраўскай вуліцы ў доме Гурвіча» ў кватэры свайго калегі, прысяжнага павераннага Вяржбіцкага. Але гэта ўжо тэма для асобнай займальнай публікацыі «Аўтографы Багушэвіча ў Мінску».

175-гадовы юбілей з дня нараджэння класіка нашай літаратуры — выдатная нагода расказаць падрабязней пра даўнюю, але дасюль не вядомую шырокаму чытачу знаходку — істотны прыбытак у нябеднай на факталогію Багушэвічыяне.

У адрозненне ад большыні не толькі маіх спантанных архіўных знаходак, адкрыццё аўтографаў Ф. Багушэвіча ў Мінску было запраграмаваным. Патлумачу. Працуючы напрыканцы 1980-х гадоў над складаннем аднатомніка твораў Ф. Багушэвіча для выдавецтва «Мастацкая літаратура» і зборнікам дакументаў пра Ф. Багушэвіча, я разумеў вострую неабходнасць кампетэнтнага каментавання творчай спадчыны пісьменніка. Найбольш «пралётнымі» былі лісты пісьменніка (на той час амаль 90!), што ўпершыню публікаваліся цалкам, без купюраў.

Сярод соткі лістоў выяўна паўтаралася тэматыка «*Багушэвіч і Віленская кансісторыя*». Вось некаторыя ўрыўкі: «*Перамовы мае з кансісторыяй ідуць вельмі марудна. Сп[адары] кс[яндзы] не хочуць даваць на*

---

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ** — літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзіўся ў мястэчку Ракаў у 1959 годзе. У 1981 г. скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. У 1984 г. — аспірантуру ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі.

Аўтар звыш 400 публікацый, у тым ліку кніг «Беларускі Дудар: Праблема славянскіх традыцый і ўплываў у творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча» (1991); «У прадчуванні знаходак: З адной вандроўкі ў архівы Варшавы, Вроцлава, Кракава» (1994); «Неадменны сакратар Адраджэння: Вацлаў Ластоўскі» (1995); «За архіўным парогам» (2002). На высокім тэксталагічным узроўні падрыхтаваў і выдаў творчую спадчыну шматлікіх дзеячаў беларускай культуры і літаратуры: аднатомнікі твораў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча (1984, 2001), Францішка Багушэвіча (1991, 1998, 2001), Вацлава Ластоўскага (1997, 2001).

*гэта сталай платы, але неяк, з уступкамі, дамовімся»* (ліст ад 16/28 студзеня [1889 г.]); «У Кансісторыі вырашылі ўжо запрасіць мяне на пасаду юрыста, але мы яшчэ не дамовіліся пра аплату. Неяк яно будзе!» (5/17 лютага [1889 г.]); «З прыняццем абавязку ў Кансісторыі, вымушаны буду прасіць в[яльможную] спадарыню пра адстаўку» (13/25 сакавіка [18]89 [г.]).

Усё гэта прымусіла мяне звярнуцца да архіўных справаў Віленскай рыма-каталіцкай кансісторыі ў Дзяржаўным архіве Летувы, што нязменна месціцца на вуліцы Добрай Рады — Геросіс Вілціс. Там, у фондзе № 604, знайшлося нямала слядоў супрацоўніцтва Францішка Багушэвіча з Віленскай кансісторыяй. Сярод іх ёсць згадка па справе памерлага ксяндза Віталіса Гансеўскага і ягонага брата — мінчука Сцяпана, што рэальна сведчыла: у дакументах Менскага Акруговага суда павінна быць справа пра ксяндза Гансеўскага і гарадзенскі касцёл брыгітак, якую Віленская кансісторыя даручыла весці юрысту Ф. Багушэвічу.


Въ Минскій Окружный Судъ

Повѣреннаго Виленской Римско-Католической Духовной Консисторіи, Присяжнаго Повѣреннаго Франца Казиміровича Богушевича, жительствующаго временно въ г. Минскѣ въ квартирѣ Присяжнаго Повѣреннаго Вержбицкаго на углу Юрьевской улицы въ домѣ Гурвича

по дѣлу

съ отвѣтчикомъ дворяниномъ Степаномъ Гонсевскимъ, жительствующимъ въ г. Минскѣ на углу Петропавловской и Юрьевской улицъ въ домѣ Гольдберга

Прошеніе.

На основаніи 320 ст. Уст. Гр. Суд., имѣю честь покорнѣйше просить Минскій Окружный Судъ, назначить день засѣданія для слушанія дѣла по иску Консисторіи къ Гонсевскому въ возможно непродолжительномъ времени.

Па вяртанні з віленскіх архіваў я завітаў улетку 1992-га ў наш гістарычны архіў. Паказальнік імёнаў, складзены да фонду № 183 (дзякуй архівістам!) дазволіў з камп'ютарнай хуткасцю (а тады яшчэ персанальных камп'ютараў у архівах не было!) адшукаць мне патрэбнае «*Дело Минскаго Окружного Суда по гражданскому отделению — По иску Виленскай Римско-Католической Духовной Консистории к Степану Васильеву Гонсевскому в сумме 1455 руб. 61 к. в пользу костела „Бригидок". Пачалося 27.02.1888. Вырашана 11 траўня 1888 г. На 64 аркушах*». (Фонд 183. Вопіс 3. Сігнатура 1086).

Але пры чым тут Францішак Багушэвіч — запытаецца ўважлівы чытач? Пры тым, што з першага архіўнага аркуша ўсе мае згадкі пацвердзіліся! Цытую дакумент.

«У Менскі Акруговы Суд

Просіць паверыны пазоўніка

Віленскай Рымска-Каталіцкай Духоўнай Кансісторыі

Прысяжны Паверыны Франц Казіміравіч Багушэвіч,

які жыве ў *Вільні*, па Коннай вуліцы, у *д*(оме) *Казлоўскага*

(месцажыхарства ў м[есце] Менску для атрымання

дакументаў, па *Юраўскай* вул(іцы) *д[ом] Гурвіча*,

у кватэры *Прысяж(нага)* Павер(анага) *Вярбіцкага*,

па Справе,

з адказнікам, дваранінам Сцяпанам Васільевічам *Гансеўскім*, які жыве ў м(есце) Менску, на куце Петрапаўлаўскай і *Юраўскай* вуліц у хаце *Гольдберга*.

Пасля смерці капелана *Гродзенскага* касцёла пры *кляштары Брыгідак* ксяндза *Віталіса* Васільевіча *Гансеўскага* адказнік зацверджаны ў праве спадчыны 27 сакавіка 1884 года і 30 красавіка 1884 года атрымаў такое. З ахоўнага вопісу рухомай маёмасці *нябожчыка Гансеўскага* відаць, што такое складалася: 1) з закладных лістоў *Віленскага Зямельнага* Банка на суму 3700 *руб[лёў]*, 2) Наяўнымі грашыма 831 *руб[лёў]* 26 кап[еек] 3) Банкавым срэбрам 9 *руб[лёў]* 50 кап[еек] 4) нерухомасці на 264 *руб[лёў]* 95 кап[еек], усяго на суму 4805 *руб[лёў]* 71 кап[еек]

Паводле 116 артыкула XI тома... чацвярціна прыватнай маёмасці, а менавіта 1201 *руб[лёў]* 24 кап[еек] і па шэсць адсоткаў у год з чацвёртай часткі закладных лістоў... ад сумы 925 *руб[лёў]* з дня смерці *Гансеўскага* — 25 жніўня 1883 года, якая склала ўсяго за 4 гады і 7 месяцаў 254 *руб[лёў]* 37 кап[еек] разам 1455 *руб[лёў]* 61 кап[еек] належаць на карысць касцёла *Брыгідак*. Паколькі Сцяпан Васільевіч *Гансеўскі* гэтых грошай па цяперашні час не выплаціў, таму, прад'яўляючы ад імя Кансісторыі сп(адару) *Гансеўскаму* пазоў у суме 1455 *руб[лёў]* 61 кап(*еек*), маю гонар пакорна прасіць суд спагнаць такія з *Гансеўскага* з

адсоткамі па дзень выплаты разам з судовымі выдаткамі і за вядзенне справы 97 *руб[лёў]* 40 кап[еек], рашэнне ж падвергнуць папярэдняму выкананню.

Пры гэтым прыкладаюцца: 1) Пасведчанне пра смерць ксяндза *Гансеўскага* за № 7899; 2) Адносіна міравога суддзі 2 *уч(астка) Гарадзенскай* акругі за № 2736; 3) таксама за № 4021; 4) Служачая мне даверанасць і 5) на дастаўленне мне позваў 50 кап[еек] Гербавая і судовая мыты на падставе 879 артыкула) Статута Цывільнага Суд[а] не падаюцца. 1888 года лютага 27 дня.

***Паверәны Віленскай рымска-каталіцкай Кансісторыі прысяжны паверәны Франц Казіміравіч Багушэвіч***».

Ёсць у архіўнай справе (арк. 6) і адпаведная «Даверанасць», выдадзеная Францу Багушэвічу, якая сведчыць, што адвакат Ф. Багушэвіч быў прыняты Кансісторыяй хадайнікам па судовых справах яшчэ ўвосень 1887 года.

«*Ваша Міласць, Франц Казіміравіч!*

*Віленская Рымска-Каталіцкая Духоўная Кансісторыя просіць Вас прыняць на сябе працу вядзення справы пра спагнанне з двараніна Сцяпана Васільева Гансеўскага 1201 руб[лёў] 43 кап[еек], належных у карысць Гродзенскага касцёла пры кляштары манахінь Брыгідак з маёмасці, пакінутай пасля смерці капелана таго касцёла ксяндза Віталіса Гансеўскага, і таму ўпаўнаважвае Вас прад'яўляць ад імя Кансісторыі пазовы і адказваць па сустрэчных пазовах, падаваць куды належыць усялякага віду прашэнні, водгукі, пярэчанні і скаргі, падаваць у Суд вусныя тлумачэнні, заяўляць спрэчкі пра падробкі ў актах і дакументах і, у выпадку заявы такіх спрэчак іншымі — адказваць за Кансісторыю, выслухваць рашэнні і на такія выяўляць згоду ці незадавальненне; прыносіць ва ўсталяваным законам парадку ва ўсе інстанцыі скаргі прыватныя і апеляцыйныя, а таксама просьбы пра адмену ў выпадку неплацяжу ці абавязкаў, заяўляць пра спагнанне з адказнікаў выдаткаў судовых і за вядзенне справы, атрымліваць па справах копіі, дакументы, выканаўчыя лісты і іншыя паперы, паказваць спосабы выканання рашэнняў, прысутнічаць пры выканаўчых дзеяннях; атрымліваць грошы з адказнікаў для падачы такіх у Кансісторыю; скончваць справы мірна, перадаручаць гэта ўпаўнаважанне цалкам ці часткай іншым асобам, а ўсяму, што Вы, ці ўпаўнаважаны Вамі па гэтай даверанасці законна ўчыніце, Кансісторыя верыць і спрачацца не будзе.*

*1887 года лістапада 11-га дня.*

*Даверанасць гэта прыналежыць Прысяжнаму Паверанаму Акругі Віленскай Судовай Палаты Надворнаму Дарадцу Францу Казіміравічу Багушэвічу.*

*Упаўнаважаны Віленскай Рымска-Каталіцкай Духоўнай Кансісторыі канцылярскі службовец Мечыслаў Аляксандравіч Медынскі.*

*Тысяча восемсот восемдзесят сёмага года, Лістапада адзінаццатага дня, сапраўдная даверанасць паказаная ў мяне, Карла Атонавіча Смольяна, Віленскага Натарыуса, у Канторы маёй, размешчанай на куце Троцкай і Вілейскай вуліц, у хаце д*Аммана*».

Чым жа скончылася справа «Кансісторыя *contra* Сцяпан Гансеўскі»?

Хоць на вокладцы архіўнай справы красуецца адзнака «*Вырашана 11 траўня 1888 г.*», насамрэч яшчэ ў лютым 1890 г. Віленская Судовая Палата па Цывільным Дэпартаменце ў публічным пасяджэнні слухала справу па скарзе паверанага Віленскай Рымска-Каталіцкай Духоўнай Кансісторыі, Прысяжнага Паверанага Багушэвіча на рашэнне Менскага Акруговага Суда ад 11 траўня 1888 года па пазове Кансісторыі да Сцяпана Гансеўскага і таксама адмовіла. На якой падставе?

«*Прызнаючы... што цэрквам манастырскім ці цэрквам духоўных устаноў каталіцкага вераспавядання не можа быць, па законе прадстаўлена права спадчыны маёмасці духоўных асобаў, якія пры іх знаходзіліся*».

Уважліва чытаючы карэспандэнцыю паэта (памятайма бальзакаўскае «Лісты — гэта люстэрка душы»), таксама можна канстатаваць: выяўныя сляды аналагічных справаў адваката Францішка Багушэвіча вядуць і ў Пецярбург. Вось ліст паэта да Ірэны Карловіч (жонкі Яна Карловіча, слыннага славіста; без даты, але зместам каля 1893 года): «*Шаноўная спадарыня і дабрадзейка! Мы пісалі просьбу ў каталіцкі калегіюм у Пецярбург пра вяртанне капіталаў, ахвяраваных у Вішнеўскі касцёл на набажэнствы за розных нябожчыкаў і не ведаю, ці атрымала в[яльможная] спадарыня адказ і менавіта які*».

Можа, хто б з тамтэйшых беларусаў парупіўся зазірнуць у адпаведныя архіўныя сховішчы, толькі «сенсацыя» будзе ўжо не такая важкая, бо ў колішняй сталіцы колішняй Расейскай імперыі вядомыя аўтографы Францішка Багушэвіча, прычым яшчэ з ягоных студэнцкіх часоў.

*Францішак Багушэвіч*

## Афяра

Маліся ж, бабулька, да Бога,
Каб я панам ніколі не быў:
Не жадаў бы ніколі чужога,
Сваё дзела як трэба рабіў.
Каб прад меншым я носу не драў,
А прад большым не корчыў спіны,
Каб грэх свой прад сабой я пазнаў,
У другіх каб не відзеў віны;
Чужых жон каб не вёў да граху,
А сваю каб як трэба любіў,
Каб мне дзеці былі у слуху,
Каб я бацькам для іх век дажыў.
Каб людзей прызнаваў за братоў,
А багацтва сваё меў за іх,
Каб за край быў умёрці гатоў,
Каб не прагнуў айчызны чужых.
Каб я Бога свайго не акпіў,
Каб не здрадзіў за грошы свой люд,
Каб свайго я дабра не прапіў
І нізашто не меў чужы труд.
Каб па двойчы мне грошы не браць
За праданы кусочак раллі,
Каб сваю мне зямельку араць
І умёрці на ёй хоць калі.
Дык прасі ж ты у Бога, малі,
Каб я панам ніколі не быў!

*Данута Бічэль*

## Мацей Бурачок

У Жупранах звоняць званы,
Ашмянка пахаладзела.
На чатырох варанах
вязуць Бурачка Мацея.

Якая высокая сіла
асвечвае сумны абрад —
сармацкі звычай ці сімвал?
Мужыцкі быў адвакат!

Ад Кушлян да Гальшан
ціхія гоні ў скрусе.
З адкрытых сялянскіх ран
сцякае боль Беларусі.

На чатырох варанах
з чорнага шляху не збочыць.
А паабапал труны
гора аж слепіць вочы.



Колькі рабіў ён спробы
гора скінуць у лёх.
Чорнай хусцінкай жалобы
цень на пагоркі лёг.

Слёзы пад вейкамі шорсткімі
ў сталых людзей, бы ў дзяцей.
Стаў перад суддзямі жорсткімі
паверaным люду Мацей.

Скруціў ён сумную дудку,
балесна зайграў дудар
новаму веку пабудку
ад скляпенняў да хмар.

Сумленнем не пакрывіў.
У клетцы грудзей зацеснай
сэрцу мала белай крыві,
барвовай сплывае песняй.

Рвецца яно на прастор
да новай праўды-спакусы.
Мацей Бурачок не памёр,
пакуль жывуць беларусы.

У душах сыноў, дачок,
ад веку памаладзелы,
ляціць Мацей Бурачок
на конях любові белых.

## Жупраны

Жупраны.
Крывавяць даўнія раны...
Раптоўна гояцца раны.

Жупраны —
са шпілем завоблачным побач
палац пад зямлёй шасцігранны.

Жупраны —
грудочак спакою спрадвечнага,
цемрай прыбраны.

Жупраны.
Тут бацька і брат.
У магіле тваёй твой сын Тамаш пахаваны.

Жупраны...
За праўду стаяў Бурачок.
І суд не прайграны.

Жупраны.
Цябе зразумеў гэты люд,
як даследчык старанны.

Жупраны.
Узняты аратым руплiва
дзірван занядбаны.



Сяргей Шэмет. «Жупраны. Красавік».



**Ірына ЖАРНАСЕК** —
пісьменніца, рэдактар
часопіса «Маленькі рыцар
Беззаганнай».
Нарадзілася ў вёсцы
Чаранкі на Глыбоччыне.
Піша прозу, публіцыстыку,
перакладае з польскай мовы.
Аўтар кніг прозы
«Ліст да сына»,
«Гульні над студняй»,
«Гадара»,
аповесці-казкі
«Спрэчка анёлаў»,
рамана «Будзь воля Твая»,
кнігі вершаў «Шукаю Цябе».
Жыве ў Наваполацку.

**Мае Чаранкі**

Цяжкавата мне казаць пра іх «мае», хоць і нарадзілася я тут, у Чаранках. Але зусім слаба памятаю іх: так, асобныя нават не карцінкі, а накіды — нібы дзіцячыя няўмелыя акварэлі на мокрай паперы.

Вось, бадай, найбольш выразная карцінка. Таго дня, калі мы выносілі з хаты мэблю, хатулі, розныя рэчы ў пуню, у якой збіраліся цэлае лета жыць, пакуль не разбяруць спачатку нашу хату, а потым перавязуць яе ў пасёлак ды зноў там паставяць. Не самі мы ў той пасёлак ехалі. Нас папрасілі, прычым не надта ветліва. Словам, запрасілі-прыгразілі. Памятаю, як несла я з хаты ў пуню этажэрку для кветак і намагалася выціснуць з сябе слёзы. Бо плакалі мама і ўсе тры сястры — Аля, Герця і Ягуся-Марыя. Тата і брат Альдак, што праўда, маўчалі, але ж яны мужчыны. Мне ж было чатыры гады — удаваць ці то слёзы, ці то весялосць я яшчэ зусім не ўмела. Ды і як тут плакаць, калі ад гэтага дня будзеш жыць не ў хаце, а ў пуні, амаль што на дварэ! Каб хацеў што лепшае прыдумаць, не дадумаўся б!

Мама плача па сваёй хаце. Гэта хата ейных дзядулі з бабуляй, потым — бацькоў, потым маміна, а да яе ў прымы прыйшоў тата. Любіў ён па жыцці жарта-

Ірына Жарнасек

# Нашых дзён крыгаход

ваць, узяўшы чарку: «Прымацкі — хлеб сабацкі». І вось гэтую хату некуды збіраліся перавозіць. І па ёй, па вялізным цяністым садзе, па звонкім, нястомным ручаі, па велічэзным кусце шыпшыны, па зарасніку садовых вялізных малінаў, па імшарыне збоч хаты — па ўсім гэтым выпадала б цяпер горка заплакаць, а не плачацца нізавошта — такія неперапіўкі...

Я заплачу па Чаранках недзе праз год, калі мы прыйдзем сюды з Ягусяй-Марыяй ужо з Гойдышава па яблыкі.

У Чаранках мы пакінулі вялізны сад, а ў Гойдышаве на нашым новым гародзе сіратліва калыхалася некалькі яблыневых дубчыкаў і ніводнай дарослай яблыні, ніводнай вішні, слівы, ніводнага кусточка агрэсту альбо парэчак. Усё гэта з'явіцца потым, бо наш тата вельмі любіў сад і пчолаў. Усё гэта будзе, а пакуль не было, то мама й выправіла нас з кошыкамі ў Чаранкі — назбіраць яблыкаў, бо імі там недзе ўся зямля засланая...

Але нас сустрэў у Чаранках аднаногі калгасны вартаўнік са стрэльбай і сказаў, што сад гэты ўжо калгасны і мы не маем права есці тых яблыкаў. Казаў ён гэта з яўным задавальненнем, і мы развярнуліся на месцы, бо не пойдзеш жа пад ягоным колкім позіркам па нашым двары, не пабяжыш да ручая, нікуды не пабяжыш, бо тут цяпер гаспадаром быў і цешыўся гэты чалавек. Я памятаю ягонае прозвішча. Не хачу называць. Потым ён раптам захацеў быць добрым — падабраў пад канвілём ажно тры яблыкі і даў нам. Не памятаю, ці данеслі мы іх да хаты, з'елі, мабыць, па дарозе. Але памятаю, як плакала мама, калі мы вярнуліся з пустымі кошыкамі. Тады нарэшце заплакала і я, бо вельмі захацелася назад, у нашы зялёныя Чаранкі. Захацелася ў той незваротны час, калі нам ніхто не ўказваў, што нам там можна, а чаго — не.

Калі я цяпер думаю пра Чаранкі, не магу ўявіць чамусьці іх зімою — увесь час бачацца яны мне зялёнымі, з мноствам розных адценняў. А яшчэ ў Чаранках пастаянна гучала музыка нашага ручая. Там, праз ручай, на горцы стаяла хата мамінай сястры, цёткі Вінцэнты... Ён увесь час журчэў, наш добры сябра — ручай.

...Неверагодна, але ён журчыць і цяпер. Колькі гадоў таму мы са старэйшым сынам Аляксандрам і з Марыяй, якая за гэтыя гады згубіла сваё другое імя — Ядвіга, прыехалі ў Чаранкі. Да іх ад калгаснай дарогі, выезджанай трактарамі, не так і далёка. Прайшлі праз поле кукурузы, якую нядаўна скасілі, і так да самага котлішча дабраліся.

Груда камення з чаранкоўскага дому. Не звезлі. Не прыдаліся нікому. А як ты іх здужаеш, такія валуны?! Удзірванелі, ураслі ў зямлю, а не здаліся. І памятаюць, мабыць жа, мяне, пятую ў сям'і, што закрычэла-заплакала і з'явілася ў свой час тут на гэты свет ў сцюдзёным студзені. Тут, на печы гэта было...

І калі сядзеш на валун пры цудам ацалелай шыпшыне (неверагодна, але яна, наша шыпшына, расце тут, квітнее і пладаносіць буйнымі яркімі ягадамі да гэтага часу!), калі сядзеш пры ёй, то адплыве раптам некуды ўбок кукурузнае поле, а ты ўбачыш... двор нашай хаты... Вось адчыніліся дзверы, і з хаты выйшаў гаспадар — мой тата... І ніколі ён у сапраўднасці не быў прымакам, заўсёды — гаспадаром.

Ніколі тата не тлумачыў нам свайго аднаго дзіўнаватага ўчынку. Да таго як ажаніцца з мамай, ён быў заручаны з адной дзяўчынай, абодва бакі ўжо рыхтаваліся да вяселля, у касцёле ксёндз ужо абвясціў запаведзь іхняга шлюбу: такі і такая збіраюцца ўзяць шлюб, калі хто мае якія ўвагі супраць, прашу паведаміць... Ніхто нічога супраць не меў, апроч... самога жаніха. А жаніх раптам адмовіўся ад заручынаў. Не часта такое здараецца. Тую запаведзь калі і чыта-



Мама Александрына.



Тата Францішак.

юць у касцёлах, то больш дзеля формы. А тут выйшла насамрэч. Тата перадумаў жаніцца з той дзяўчынай, але затое паслаў сватоў у Чаранкі, да Александрыны з Барткевічаў, маёй мамы. Не пабаяўся яе сіроцтва, не пабаяўся прымацкага хлеба. І выйшла на добрае. Прынамсі, я так лічу, зрываючы буйныя, памерам з дзічкі, ягады шыпшыны. Якія ж яны салодкія! Не баюся плагіяту, хіба што маю права сказаць сёння словамі пісьменніка: «Добры дзень, мая шыпшына[1]. Які ж тут плагіят, калі гэта сапраўды мая, чаранкоўская шыпшына!

**Мама Александрына**

Мая мама разам з сястрой Вінцэнтай вельмі рана засталася без бацькі. Дзед Вінцэнты памёр маладым ад невядомай хваробы — нават неяк нязручна яго і дзедам называць. Бабулю Стэфку неўзабаве пажадаў узяць замуж другі мужчына, але з адной умовай — без дзяцей. Так дзве дзяўчынкі засталіся з бабуляй і дзядулем. Мама з нейкай асаблівай цеплынёй называла бабулю Тэклю не інакш як бабунькай. Ужо калі нават мама мела сваіх унукаў, а пра яе гэтаксама — бабунька.

Таму і я цяпер, калі падыходжу да магілы сваёй прабабулі, часам ціха кажу: «Ну, як тут наша бабунька? Зарасла шніткай?». А шнітка, дарэчы, ніякае не пустазелле — гэта смаката. У чарназёмных Чаранках яе было паўнютка. Увесну — першы наедак, свежы, зялёны, смачны. Многія гэтага не ведаюць, а мы заўсёды вельмі любілі вараную ўвесну шнітку.

Дзяўчаткі Александрына з Вінцэнтай хадзілі са сваіх Чаранкоў у задарожскі касцёл на катэхізацыю. І рыхтаваў іх да Першай споведзі ксёндз Францішак Рамэйка. Той самы, які любіў беларускую мову і якога за гэта не надта шанавалі ягоныя канфратры[2], начальства ды і некаторыя парафіяне. Яны ж, гэтыя некаторыя, і напісалі біскупу Ялбжыкоўскаму ў Вільню скаргу на ксяндза, што, маўляў, рэжа ім вушы ягоная мужыцкая мова (хацелася напісаць — мужыцкая праўда, па Каліноўскаму). Мама з татам распавядалі, як ён потым з амбоны сказаў пра гэта.

А парафіянка Александрына яго любіла. Столькі цеплыні было ў ейным голасе, калі ўзгадвала, як спяваў ён дзецям пасля заняткаў па рэлігіі:

*Бульбу смажаць,*
*бульбу параць,*
*бульбу варанай ядуць!*

Спяваў ды граў на мандаліне. А потым як гром з яснага неба — ён быў вымушаны з'ехаць у Вільню, дзе, казалі, загінуў... Апошняе мама вымаўляла неяк невыразна, сцішаным голасам, і дадавала: «А хто там ведае, як там што было? Хто там быў?..» Нашмат пазней я прачытала ў старой віленскай газеце ды і ў лонданскім «Божым шляхам» пра смерць ксяндза Рамэйкі. Але як мама не жадала казаць пра яе ўголас, то й мне не выпадае...

Мая мама так шмат чаго баялася: яна баялася заўтрашняга дня, усялякіх пераездаў, усяго невядомага, нязнанага. Яна часта ўздрыгвала ад гучнага стуку альбо крыку ці проста моцнага голасу. Напэўна, гэты страх — адтуль, з яе сірочага маленства, з тае безабароннасці, што абрынулася на ейныя кволыя плечы даўным-даўно ў Чаранках.

Чамусьці цяпер падумалася, што і мастак Язэп Драздовіч, наш нястомны вандроўнік, таксама, мабыць, адчуў гэты страх у маёй маме. Бо чаму ж бы ён маляваў для яе на дыванку зайца? Вялізнага такога — на ўвесь дыванок! Нясецца ва ўвесь дых з крутой гары, а па рагах упрыгожваюць



Мама (злева), невядомая жанчына
і маміна сястра Вінцэнта.

той бег... кветкі. Дзядзька Язэп заходзіў некалькі разоў у нашы Чаранкі. І пасля аднаго таго наведвання ў нашай хаце застаўся дыванок на зрэбнай, чорнага колеру посцілцы. Як жа шкада, што ён не збярогся! Гэтаксама, як шкада і іншага, на якім мама вышыла суконнымі фарбаванымі ніткамі такую ідылію: на коніку едзе нейкі кавалер да сваёй каханай, якая надчэквае яго на беразе азярка. Я, малая, думала, што гэта мой тата да мамы едзе...

**У кашульцы нарадзілася**

Гэта магла б пацвердзіць толькі бабуля Францішка — у кашульцы я нарадзілася, ці не. Бо яна прымала мяне на свет на чаранкоўскай печы. Сёстры ж, вядома, гэтага працэсу не бачылі, іх выгналі з хаты на мароз — гуляйце, колькі хочаце і ў што хочаце! Не вельмі й хацелася ім гуляць — сцюдзёна, завейна: студзень — не ліпень вам. Ды бабуля Францішка загадала ісці гуляць, і яны не асмеліліся не паслухацца. А потым бабуля адчыніла дзверы ды гукнула: «Ну хадзіце ўжо, стракозы, хадзіце — сястру яшчэ адну маеце!». Не думаю, што гэтую навіну з радасцю пачуў тата — яшчэ адна дзяўчына ў хату! У нас казалі: «Прыбірай яе потым, як калядную ёлку». Але не думаю таксама, што ён мог і надта бедаваць: там, дзе тры, хай сабе й чацвёртая каля рук будзе. Тата меў такі характар, што распачаць ды бедаваць — гэта не па ім. Сабе не дазваляў і не любіў, калі хто з нас пачынаў разводзіць макрэчу.

І ўсё ж я думаю, што нарадзілася я ў кашульцы, бо некалькі разоў над маёй галавой вісела рэальная небяспека дачасна пайсці на той свет, не паспеўшы на гэтым як след разгледзецца.

А ўсё пачалося ў нашых мілых, зялёных, прывольных Чаранках. Пачалося з таго, што мы з Ягусяй гулялі «ў пастушку і кароўку». Яна як старэйшая была «пастушкай», ну а мне, я так разумею, выбіраць не давялося — дык была «кароўкай». Вось і надумалася «пастушка» закінуць «кароўцы» на шыю вяроўку, каб зручней было пасвіць сваволеную «жывёлку». Закінула, зашмаргнула і павяла вадзіць па двары... На шчасце, мама ўбачыла нашыя гульні. «Пастушцы — лупцоўка, а мне, здаецца, нічога... Малая была...

А потым былі мае гульні над студняй. Не аповесць, якую я напісала праз шма-а-ат гадоў з такой назвай — «Гульні над студняй», але самыя што ні ёсць сапраўдныя. Прыдумалі тыя гульні мой брат Альдак і дзядзька Адам, татаў малодшы брат. Альдак за мяне на сямнадцаць гадкоў быў старэйшы, дзядзька Адам яшчэ на



Я ў пяцігадовым узросце.

пару гадкоў больш, а гуляцьжартаваць любілі. Ім, бачыце, кавалерам, так прыдумалася — пагушкаць малую на асверы пры студні! Дык і пасадзілі мяне на калоду, якая сваім цяжарам трымала асвер-журавель у ягонай загадкавай паставе вартаўніка нашага хутара. Пасадзілі і... узнялі высока-высока: галава — уніз, ногі ўраскідку — уверх. Ашчаперыла драўляную бэльку — і зусім не да смеху зрабілася. Шчасце — мама прыбегла, і нашы гульні над чаранкоўскай студняй скончыліся гучнай ейнай ушчуванкай брату з дзядзькам. Словам, мне пашчасціла. Не тое што герою аповесці «Гульні над студняй» Богусю... Мне пашчасціла, іншых удзельнікаў тых гульняў бяда дагнала хоць і пазней, але ўсё ж і ранавата: Альдака — праз пяць гадоў у калгаснай кузні, калі з ім здарылася трагедыя, што скаланула сваім дзікунствам усю ваколіцу, дзядзьку Адама — у Латвіі, дзе



Стрыечная сястра Рэня
ў чатырохгадовым узросце.

ён загінуў на сваім К-750. На ім ён прыязджаў з Латвіі, куды ўцёк свойчас ад хрушчоўскай кукурузы, ажно ў Гойдышава, а потым блізу свайго латвійскага хутара аднойчы не справіўся з рулём...

Ну што, ужо калі здаваць, дык здаваць... Быў у мяне і яшчэ адзін рэальны шанец пакінуць дачасна гэты свет — утапіцца ў сажалцы, але ўжо не ў Чаранках, а ў Гойдышаве, куды пераехала наша сям'я. І зноў гэтая Ягуся... Было тое на Вялікдзень. Пасля Рэзурэкцыі наша сям'я разгавелася пры святочным стале. Ох, лепш не згадваць гойдышаўскую вяндліну, якая на Вялікдзень яшчэ пахла ядлоўцам, лепш не згадваць маміны велікодныя булкі на абрусе, пахкі квас у вялізным жбане... А нават і яйкі з яркімі жаўткамі, якія на Вялікдзень, вядома ж, найсмачнейшыя — гарадскія да іх не прыраўняеш, куры тут не тыя! Дык наспяваліся, наеліся, яек накачаліся з жолаба — чым было больш заняцца, калі мама з татам ляглі адпачываць? Дык і пайшлі на двор. А там — вясна! Ранняя. Снег яшчэ не ўвесь растаяў, праталіны адно чарнеюць, лядок трохі хрумстае пад нагамі, але ж ручайкі бягуць. Ну то й вырашылі мы паплаваць у чаўне. А пакольκі чаўна не мелі, давялося прывалачы з варыўні ночвы. І не драўляныя, а бляшаныя. Села я ў ночвы, а сястра іх з берага ў суседскую сажалку штосілачкі штурхае. Чарговым маім шчасцем на гэты раз стаў наш сусед Мячкоўскі, які выйшаў за свой хлеў па справе, убачыў малых на ягонай сажалцы і закрычаў штомоцы. Але да нас не дабег — мы паспелі даць дзеркача.

Словам, зноў — шчасце... Хто пасля гэтага запярэчыць мне, што я нарадзілася не ў кашульцы?

**Ровар**

Мой улюбёны від транспарту — ровар. Так ёсць цяпер, так было і тады, калі мы прыехалі жыць з Чаранкоў у Гойдышава. Не памятаю, колькі мне было гадоў, калі я ўпершыню без староннняй помачы паехала на ровары. Мне здаецца, што, навучыўшыся хадзіць, я неўзабаве і паехала. Вядома ж, гэта перабольшанне, але хто мяне пераканае цяпер, што не так было? Дык ровар... На ім з вясны, як толькі гразь збольшага падсохне, — і да белых мух увосень: лётаць — не пералётаць... Свайго ўласнага ровара я ў маленстве ніколі не мела. Дык прыпрэш вялікі татаў да плоту, узграбешся на яго, пад раму, вядома, бо дзе ж ты будзеш чакаць, пакуль вырасцеш настолькі, каб магчы цераз раму нагу перакідваць ды яшчэ й на сядле сядзець. Гэта цяпер гады лятуць, нібы шалёныя, а тады ж яны ледзьве-ледзьве паўзлі. Вось і даводзілася прыстасоўвацца. Дык скасабочышся во так пад рамай, учэпішся штосілачкі за руль і... адно вецер увушшу!

А ў майго сябра Толіка быў дзіцячы ровар — «Арлёнак», хіба што. І мы з Рэняй, маёй стрыечнай сястрой, яму зайздросцілі. Зразумела, што прасілі праехаць. Часам даваў, і нашаму шчасцю тады не было межаў! Але і мама, і цётка Анця сварыліся, каб мы не чапалі чужога ровара, бо ці мала што здарыцца — потым не разлічышся з гэтым начальствам. Толікаў бацька быў вялікі начальнік — партыйны сакратар і адначасна, як заўсёды тады было, намеснік старшыні нашага калгаса «Рассвет».

Адкуль яны да нас прыехалі — мы не ведалі. Казалі, што аднекуль з Расеі. Уся сям'я гаварыла па-расейску: і парторг, і ягоная жонка — прыгожая хатняя гаспадыня Каця, у чыіх вачах нібы прытаіўся невядома калі і з якой прычыны нейкі стоены сум, што і застаўся назаўсёды. Па-расейску гаварылі і Галя з Толікам, іхнія дзеці. Толік быў малодшы за Галю. Малодшы ён быў і за нас з Рэняй. Але задавалісты — жах! Ну і было чаго, вядома, маючы такі ровар!

Але затое ён не ўмеў катацца на нашым, вялікім! Не, залезці на яго, прыпертага да плоту, ды і мы яшчэ з Рэняй трымалі колы ў дадатак, ён яшчэ так-сяк мог. Ну а паехаць то ўжо нізавошта не адважыцца, бо гэта ж не на ягоным дзіцячым, а тут спрыт трэба не абы-які мець. А спрыту гэтага ў нашага Толіка і не было! А калі ягоная мама Каця ўбачыла, як ейны сынок вісіць распасцерты на нашым ровары, а мы з Рэняй адцягваем іх абодвух ад плоту, дык заўсёдны ейны сум з вачэй некуды вобмігам падзеўся — за-

крычэла, за сэрца схапілася. А нам што: Толік з ровара — ровару лягчэй!

І хоць ён, выпрастаны, сядзеў на сваім малым, а я скрыўлена вісела на нашым вялікім, але дагнаць то ён мяне нізавоштачкі не мог! Куды там — як цісканеш на педаль (мы казалі — «на педаліну») ды наляжаш на руль!..

Вяртаешся праз нейкі час, а Толік на паўдарозе сядзіць у канаве ды румзае.

«Чаго ты?» — «А вот не буду дружить с вами-и-и!.. Вы меня бросаете-е-е...» — «Што ты, мячык, каб мы цябе брасалі?» — выразна так, націскаючы на «брасалі», кажа Рэня. — «А вот и бросаете-е-е...»

Сядзім потым колькі часу ўтраіх у канаве, жуем шчаўе, замазваем расцертым у пальцах крываўнікам драпіны на нагах, і пакрысе «дружба народаў» узнаўляецца. Дахаты вяртаемся паволі: Толік на сваім малым курдупелі спераду круціць педалі, мы з Рэняй на нашым вялікім чорным ровары — ззаду. Прычым, мала таго, што я сама, скрыўленая, ледзьве вытыркаюся над рамай, дык яшчэ ззаду на багажніку, шырока расставіўшы ногі і ўхапіўшыся за сядло, сядзіць Рэня. Вось не памятаю, ці вазіла я калі гэтак і Толіка? Хутчэй за ўсё, не: цётку Кацю тады б не адкачалі.

**Норбэрт**

Ён з'явіўся ў маім жыцці вельмі рана, гэты Норбэрт. Прыехаў з Польшчы ў наша Гойдышава, да свайго «дзядэка» і бабці — да Мячкоўскіх. А паколькі мы былі суседзямі з імі, то і выпадала, каб мы з Норбэртам пазнаёміліся. Гэтая «гістарычная падзея» адбылася ў іхняй хаце, куды мама прывяла мяне. Нам сказалі пацiснуць адно аднаму рукі. Паціснулі. І я засталася стаяць пры печы, а Норбэрт пайшоў сабе гуляць з нейкімі цацкамі. Мама пайшла дахаты, ягоная бабця таксама некуды ныркнула, ягоная ж маці чамусьці ляжала ўдзень, памятаю, на ложку за посцілкай, што мяне дзівіла, бо мая мама ўдзень магла ляжаць на ложку толькі ў свята якое альбо калі хварэла. Мабыць у іхняй Польшчы такія парадкі — вылежвацца ўдзень ні з таго, ні з сяго. Дык яна ляжала сабе, ну а мы з Норбэртам, лічылася, гулялі.

Я потым расказвала маме, як мы дружненька гулялі — можа нават, гэта былі мае першыя спробы фантазіраваць, так бы мовіць, пачаткі маёй вуснай творчасці. Ды, як і належыць, першы блін комам! Бо Норбэртава бабця здала мяне назаўтра не за панюх табакі.

— А каб з месца ваша паненка скранулася! — казала яна маме. — Ні на крок ад печы не адышлася! Наш то гатовы быў гуляць, а ваша нібы прыліпла да печы — адстояла ўвесь час і пайшла з тым самым!

Ну што ж... Я, вядома, ужо больш нікому не распавядала пра нашы з Норбэртам «удалыя гулі».

Другое спатканне з ім было спачатку таксама мала памыснае, але на выручку прыйшло маё глыбокае веданне польскіх, як я думала, вершаў. Тады мы стаялі з ім каля электрычнага слупа. Доўга стаялі і доўга маўчалі. Ён, што праўда, трохі вурчэў, цягаючы туды-сюды палку з двума колцамі, якую яму змайстраваў ягоны «дзядэк». А паколькі ў мяне ні гэткага рукастага дзядэка, ні адпаведна гэткай палкі з колцамі не было, то я й не вурчэла. Стаяла сабе, склаўшы рукі, ды маўчала. І Норбэрт нарэшце не вытрываў.



Я з пляменнікам Лёнем, малодшым за мяне на сем гадоў.

— Чэго завшэ мільчыш? — запытаў ён. — Чэму ніц не мувіш?

Я яшчэ трохі памаўчала, а потым загаварыла, як мне думалася, польскімі вершамі:

— Пес шчэка на чловека, а чловек шчэка на пса! — пераможна выпаліла я пачутае мной невядома калі і невядома ад каго. Выпаліла і зноў змоўкла. Ды маўчанне ўжо скончылася, бо Норбэрт імгненна забыўся на сваю цацку і ажно прысеў ад рогату.

Так мы пасябравалі.

**Ровар і Норбэрт**

Зразумела, што калі я пасябравала з Норбэртам, то вельмі хутка з ім пазнаёміліся і Рэня з Толікам. І нас ужо было чацвёра!

Праўда, Толіку нізавошта не ўдавалася правільна вымавіць Норбэртава імя, а паколькі ад нас з Рэняй ён ужо навучыўся называць ровар — роварам, а не веласіпедам, то гэтае ўменне дапамагло яму і ў стасунках з Нор-

бэртам. Толік называў яго для зручнасці Роварам. І мы ўсе, у тым ліку і Норбэрт, згадзіліся, бо што ты з гэтага няўмекі Толіка возьмеш?

Не прыпомню, чаго нашу чацвёрку панесла аднойчы да сажалкі Мячкоўскіх. Чаго мы туды павалакліся з Толікавым роварам? Хутчэй за ўсё, Толік проста паленаваўся адагнаць яго дахаты, ну а кінуць пры дарозе таксама ж страшна было — «Арлёнкі» абы-дзе не валяюцца! Дык прывалакліся ўсе ўчатырох, пасядзелі трохі на беразе, боўтаючы нагамі ў вадзе, а потым Толіку ўздумалася, што ровар трэба памыць — гаспадарлівы такі сынок быў у нашага парторга. Пацягнулі мы ровар, спусцілі з берага ў ваду, а ён — боўць! — і ў вадзе ўвесь апынуўся, толькі трохі задняга кола над вадою засталося.



Наша сям'я каля хаты ў Чаранках, калі мяне яшчэ не было на свеце. (Злева направа) сястра Герця, мама, сястра Ядвіга-Марыя з любімай лялькай, тата, сястра Аля, ззаду — брат Рамуальд.

Сажалка не так даўно выкапаная была, глыбакаватая для такіх зухаў, як мы. Пачалі мы камбінаваць, што ды як рабіць, а Толік наш адразу я-я-як зарумзае ды ходу!.. А што нам заставалася? Сыпанулі гарохам куды каторы па хатах. Зашылася я, памятаю, у кусты парэчак, ажно доўга сядзець не давялося — выгнаў мяне адтуль крык цёці Каці. Як была яна, бедачына, дома ў халаце ды хатніх пантофліках, так і пабегла па вёсцы з крыкам. Бяжыць, крычыць штосьці неразборлівае — і да сажалкі. Мая маці таксама пабегла — ну а як тут уседзіш? Норбэртавы таксама выбеглі на крык. Усе — да сажалкі!

— Помогите! Помогите! — лямантуе цёця Каця.

Каму? Дзе? Хто топіцца?

Норбэртавы «дзядэк» з бабцяй прыбеглі апошнімі, а разам з імі — Норбэртава мамуся з растрэсенымі па плячах валасамі і сам Норбэрт... Асмелілася і я таксама падысці хоць бы і здаля.

А цёця Каця бегае па беразе сажалкі, лямантуе, потым раптам, нібы спатыкнулася, утаропілася на Норбэрта ды аціхла на паўгуку.

— Т-ты? Т-ты живой? Вылез... из воды? Сам... вылез?..

Нас — Рэню, мяне і нават Толіка — Норбэрт разумеў ужо добра. Мы дамаўляліся сходу, а цёцю Кацю ці то ад страху, ці яшчэ з якой прычыны не пажадаў зразумець — крутнуў галавой ды схаваўся за бабцін шырокі падол.

Цёця Каця пачала ўсім тлумачыць, што Норбэрт уваліўся ў сажалку, увесь уваліўся, і што Толік дома моцна плача, крычыць, што Нор... Тут цёця Каця замоўкла, утаропілася на Норбэрта, а потым на мяне... Мы ўсе прагаломшана маўчалі, толькі Норбэрт выціснуў, пасмялеўшы:

— Вцале не впадлэм до садзавкі...

— Ён жа і сухі во ўвесь, як бы ён з сажалкі гэткі сухі быў?.. — пачала разважаць Норбэртава бабця, забыўшыся і на пальшчызну, бо калі прыязджалі госці з Польшчы, яна выкручвала сваю гаворку на польскі манер.

— Гэта не Норбэрт, а ровар у сажалцы, — пасмялела нарэшце і я, скумекаўшы, мабыць, што калі Норбэрт жывы і не ў сажалцы, то за ровар, які ляжыць цяпер у вадзе, нам, можа, й не надта перападзе...

— Ро-вар! — нараспеў прамовіла па складах цёця Каця і... засмяялася. — Ровар! Они... утопили... ровар!.. Ве-ло-си-пед! Так это Толик имел ввиду ве-ло-си-пед, а не Нор..Нор-бер-та...

Яна была яўна шчаслівая. Мы з Норбэртам на ўсякі выпадак адышліся трохі, але ўжо смяяліся ўсе, нават Норбэртаў «дзядэк». Ён узяў доўгі крук, якім чэрпалі ваду з сажалкі, павалтузіў ім трохі, падчапіў ровар ды вывалак яго на бераг.

1 Назва першай кнігі Уладзіміра Арлова.

2 Святары-калегі, літаральна: субраты (ад лац. *confrater*).

3 Хвала! Хвала! На вышнях Богу! (лац.)

Тамара Габрусь



Сабор і плошча св. Пятра ў Рыме.

# Ад Рыма да Нясвіжа

## (да 540-годдзя Мікеланджэла Буанароці)

Сёлета ўдзячным чалавецтвам адзначаецца 540 гадоў з дня нараджэння (6 сакавіка) найвялікшага з тытанаў Адраджэння Мікеланджэла Буанароці (1475—1564). Хоць па паходжанні Мікеланджэла быў фларэнціец, большасць яго мастацкіх шэдэўраў звязана з Рымам, дзе ён працаваў доўгія гады па замове рымскіх папаў, якія высока цанілі яго надзвычайны талент. Ён стварыў і роспісы Сікстынскай капэлы, і скульптурныя кампазіцыі пахавальні папы Юлія II, а славутая *Pieta* была выкананая Мікеланджэла ўсяго ў 24 гады. Джорджа Вазары, шырока вядомы ў гісторыі культуры складзеным ім «Жыццеапісаннем найбольш славутых мастакоў, ваяцеляў і дойлідаў» эпохі Адраджэння, так пісаў пра геній Мікеланджэла: «Мастацтвы дасягнулі ў ім такой дасканаласці, якой не знойдзеш ані ў старажытных, ані ў новых людзей за многія і многія гады» [1]. Але я як гісторык архітэктуры засяроджуся толькі на некаторых архітэктурных творах Мікеланджэла, якія, на маю думку, зрабілі ўплыў на беларускую архітэктуру, у першую чаргу, праз Нясвіж.

Па волі лёсу Мікеланджэла стаў асноўным архітэктарам і будаўнікам галоўнага храма каталіцкага свету — сабора святога Пятра ў Рыме, пастаўленым на Ватыканскім пагорку на правым беразе Тыбра, дзе ў I ст. знаходзіўся цырк імператара Нерона. На яго арэне знайшлі пакутніцкую смерць многія першыя хрысціяне. Тут археолагамі выяўлены старажытны некропаль, дзе, магчыма, знайшоў апошні прытулак і святы апостал Пётр. На гэтым месцы пры імператары Канстанціне I Вялікім, які ў 313 г. абвясціў Медыяланскі (Міланскі) эдыкт аб свабодзе веравызнання, што стала важным крокам на шляху ператварэння хрысціянства ў афіцыйную рэлігію Рымскай імперыі, у 324 г. была ўзведзена трохнававая раннехрысціянская базыліка ў гонар св. Пятра, якая стала цэнтрам масавага паломніцтва. На мяжы V—VI стагоддзяў пры ёй узнікае рэзідэнцыя рымскага Пантыфіка, якая паступова разрасталася, але і цярпела падчас бясконцых войнаў. У 848—852 гг., пасля набегу сарацынаў, якія зруйнавалі базыліку, папа Леў IV абкружыў тэрыторыю Ватыканскага пагорка магутнымі мурамі з крапаснымі вежамі [4].

Першая спроба ўзвесці новы сабор на месцы раннехрысціянскай базылікі св. Пятра была ажыццёўлена пры папу Мікалаю V у 1452 г., але ён не быў дабудаваны (ад яго ацалела толькі частка падмуркаў хора і папярочнай навы). Будаўніцтва сабора св. Пятра вялося больш за паўтара стагоддзя і ўвасобіла ў сабе ўсе творчыя знаходкі архітэктурна-мастацкіх стыляў Новага часу — ад ранняга Адраджэння да сталага барока. Некалькі разоў папераменна змянялася форма крыжа, закладзенага ў аснову яго архітэктурнай кампазіцыі — ад грэчаскага да лацінскага і наадварот, у залежнасці ад патрабаванняў замоўцаў, рымскіх папаў і клерыкальна-палітычнай сітуацыі ў Еўропе [3].

На пачатку XVI ст. на замову папы Юлія II першы праект грандыёзнага новага сабора распрацаваў вялікі дойлід Высокага Адраджэння Даната Брамантэ. Вобраз будучага збудавання

**Тамара ГАБРУСЬ** — доктар мастацтвазнаўства, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Закончыла архітэктурнае аддзяленне Беларускага політэхнічнага інстытута (1968) і аспірантуру ІМЭФ АН Беларусі (1973). Даследуе манументальнае дойлідства Беларусі. Укладальнік і аўтар кнігі «Страчаная спадчына» (1998), аўтар кніг «Мураваныя харалы: сакральная архітэктура беларускага барока» (2001), «Саборы помняць усё» (2007), «Паэзія архітэктуры» (2012) і інш. Сябра Саюза беларускіх архітэктараў, Саюза беларускіх мастакоў і Саюза беларускіх пісьменнікаў, член-карэспандэнт Беларускай акадэміі архітэктуры.




Медаль у гонар закладкі сабора св. Пятра ў Рыме. Праект Д.Брамантэ.

быў выбіты на медалі ў гонар закладкі сабора ў 1506 г. [2]. У аснову кампазіцыі быў пакладзены роўнаканцовы крыж (так званы грэчаскі), што надавала збудаванню цэнтрычнасць і асаблівую веліч. Над сяродкрыжжам меркавалася ўзвесці вялікі паўсферычны купал, абкружаны магутнай каланадай. Распор купала ўраўнаважваўся сістэмай вуглавых купальных аб'ёмаў, накшталт візантыйскай [7].

Пасля смерці папы Юлія II, а праз год, у 1514 г., і самога Брамантэ, папа Леў X даручыў распрацоўку новага праекта пераемніку і пляменніку дойліда — вялікаму мастаку Рафаэлю Санці з умовай, каб сабор займаў усю плошчу старой базылікі святога Пятра. У гэткай завуаліраванай форме было акрэслена патрабаванне да Рафаэля запраектаваць менавіта базыліку з планам у выглядзе лацінскага крыжа, што ён і выканаў. У праекце Рафаэля купал адышоў углыб кампазіцыі, а на першы план выступіў галоўны тарцовы фасад базылікі, аздоблены каланадным порцікам, прызначаным для фрэскавых роспісаў, якія мастак меркаваў выканаць.

Пасля заўчаснай смерці Рафаэля ў 1520 г. яго пераемнік на будаўніцтве сабора Бальдасарэ Перуці, дзеля большай велічы кампазіцыі збудавання, вярнуўся да сіметрычнага двухвосевага плана ў выглядзе грэчаскага крыжа. Аднак новы галоўны архітэктар сабора св. Пятра Антоніо да Сангала, пастаўлены папам Паўлам III, мусіў зноў вярнуцца да праграмнай тэктонікі лацінскай крыжова-купальнай базылікі, хаця і ў вельмі кампрамісным варыянце: да цэнтрычнай крыжовай кампазіцыі меркавалася дадаць толькі двухвежавы фасад-нартэкс (уваходны прамавугольны папярочны аб'ём). Але будаўніцтва цягнулася надзвычай марудна.

Нарэшце, у 1547 г., кіраўніцтва будаўніцтвам сабора прыняў геніяльны скульптар, мастак і паэт Мікеланджэла Буанароці, якому ў той час было ўжо 72 гады. Апошнія 17 гадоў свайго жыцця ён цалкам ахвярна, «дзеля Бога», прысвяціў будаўніцтву Сан П'етра, дзе выявіў сваю геніяльнасць яшчэ і як архітэктар. У сваім праекце Мікеланджэла зноў вярнуўся да цэнтрычнай, візантыйскай па сутнасці, тэктанічнай сістэмы Брамантэ, але яшчэ больш узмацніў ролю купала і пла-



План сабора св. Пятра Д.Брамантэ.

стычную дынаміку аб'ёмаў. На гэтым шляху яму давялося пераадолець вялікія цяжкасці, што адлюстравана ў эпісталярнай спадчыне Мікеланджэла, дзе ён сведчыць, што яго папярэднік наўмысна зацягваў будаўніцтва сабора і моцна шкодзіў яму. У пісьме да свайго вучня Барталамеа Аманаці, датаваным 1555 г., Мікеланджэла гаворыць: «Нельга аспрэчваць перавагу Брамантэ над усімі архітэктарамі... Ён першы склаў план Сан П'етра, які не заблытаны, а просты і зразумелы, светлы і з усіх бакоў адкрыты такім чынам, што ён [сабор] не замінае ніводнай частцы палаца; ... таму кожны, хто ўхіліцца ад указанняў Брамантэ, як гэта зрабіў Сан Гала, аддаліцца ад ісціны. ... Сан Гала пазбаўляе пабудову ўсяго святла, які яна мае ў Брамантэ... Увечары, калі неабходна зачыняць сабор, спатрэбіцца звыш дваццаці пяці чалавек, каб абшу-



Праект сабора св. Пятра Рафаэля Санці.



Праект сабора св. Пятра А.Сангала.



Сабор і плошча св. Пятра ў Рыме. Сучасны план.

каць усе закуткі, ці нехта там не хаваецца ... Потым, развіваючы план Брамантэ, як гэта робіць Сан Гала сваім дадатковым планам, трэба будзе знесці капэлу св. Паўла... і іншыя пабудовы Ватыкана. Непакоюся, што не пашкадуюць Сікстынскую капэлу... Калі карыстацца планам Сан Гала, цалкам не застанецца нічога, што было створана за маім часам, а гэта будзе вялікай стратай» [5].

Пад канец жыцця старасць і хваробы перашкаджалі Мікеланджэла часта бываць на будаўніцтве. У пісьме да Джорджа Вазары, якому быў даручаны нагляд над ажыццяўленнем яго праекта, датаванага 1557 г., Мікеланджэла адзначае: «Бог сведкам таму, што я цалкам супраць свайго жадання і толькі дзякуючы настойліваму прымусу папы Паўла прыняўся за будаўніцтва Сан П'етра ў Рыме, але каб я мог працягваць працаваць як раней, будаўніцтва ўжо амаль завершылася б і я меў бы магчымасць ад'ехаць, як хацеў, у Фларэнцыю. Але недахоп рабочых зацягнуў будоўлю, а кінуць яе цяпер, якраз у той момант, калі мы дайшлі да самых важных і цяжкіх частак, было страшна сорамна і горка, і грэшна страціць узнагароду за тыя цяжкасці і нядолю, якія я цярпеў на працягу дзесяці гадоў з-за любові да Бога... Я хачу вам давесці, што выйдзе з таго, калі я цяпер пакіну будоўлю Сан П'етра. Па-першае, я гэтым дам задавальненне шмат якім нягоднікам, па-другое, я стану прычынай змарнавання гэтага вялікага помніка, які, быць можа, ніколі ўжо не будзе закончаны» [6].

Вяршыня архітэктурнай задумы Мікеланджэла — велічны купал Сан П'етра. Як для кожнай сваёй працы, ён зрабіў буйнамаштабны макет купала, канструкцыя якога складалася з трох абалонак рознай вышыні. Узвядзенне купала і магутнага карніза пад ім вялося з квадраў вапняковага туфа, што было новым для пабудоваў Рыма. Вялікі дойлід быў аддданы ідэі велічы і прыгажосці сабора, наяўнасці ў ім Боскага святла. Пасля смерці Мікеланджэла ў 1564 г. аўтарытэт генія прымусіў папу Юлія III больш нічога не мяняць у яго праекце, які быў цалкам рэалізаваны паслядоўнікамі вялікага майстра.

Але ўжо на пачатку XVII ст., у 1607—1614 гг., па патрабаванні папы Паўла V архітэктары ранняга барока Карла Мадэрна і Даменіка Фантана прыбудавалі да цэнтрычнага сабора з уваходнага ўсходняга боку тры падоўжныя навы і нартэкс, што канчаткова ператварыла яго ў крыжова-купальную базыліку лацінскага ўзору. Відавочна, што новы Рымскі Папа быў больш зацікаўлены выяўленнем праграмнай семантыкі архітэктуры галоўнага храма каталіцкага свету, акрэсленай Трыдэнцкім Саборам. Менавіта з таго часу адметная архітэктоніка і назва базылікі сталі сінонімамі ўзорнага каталіцкага храма.

Усе складаныя семантыка-тэалагічныя і мастацкія пытанні, якія зацягнулі і абцяжарылі будаўніцтва сабора св. Пятра, былі ўлічаныя і мэтанакіравана вырашаныя пры будаўніцтве галоўнага храма ордэну езуітаў — сабора Іль Джэзу ў Рыме. Яго будаўніцтва распачаў у 1568 г. Джакома Бароццы да Віньёла, аўтар вядомага трактата «Правіла пяці ордэраў архітэктуры», які адразу вызначыў тэктоніку храма як крыжова-купальнай базылікі з лацінскім крыжам у верхнім сячэнні. Сваёй выцягнутасцю па падоўжнай восі сіметрыі гэтая структура прынцыпова абвяргала цэнтрычнасць, «усефасаднасць», уласцівую архітэктурным збудаванням эпохі Адраджэння. Яна арганічна патрабавала акцэнтацыі галоўнага фасада, якім з'яўляўся ўваходны тарэц базылікі. Таму самай характэрнай рысай новага мастацкага стылю барока стала трактоўка галоўнага фасада як самастойнай плоскай сцяны, якая б накшталт тэатральнай кулісы закрывала грандыёзнасць усёй кампазіцыі. На галоўным фасадзе канцэнтраваліся ўсе дэкаратыўныя сродкі, якія сваімі прапорцыямі і рытмам павінны былі ўздзейнічаць на эмоцыі вернікаў, у той час як астатнія фасады маглі зусім не мець дэкаратыўнай апрацоўкі. Гэтыя прынцыпы культавага барочнага фасада ў дасканалым «узорным» варыянце распрацаваў у 1575–1584 гг. стваральнік галоўнага фасада і купала сабора Іль Джэзу Джакома дэла Порта. Пошукі новых сродкаў выразнасці каталіцкага сакральнага дойлідства прывялі да стварэння новага сусветнага мастацкага стылю барока, што непасрэдным чынам адбілася і ў гісторыі беларускай архітэктуры.

Мікалай Радзівіл Чорны, які ўзначальваў рэфармацыйны рух у Вялікім Княстве Літоўскім, як вядома, пазакрываў у сваіх уладаннях усе касцёлы і праваслаўныя цэрквы, ператварыўшы іх у кальвінскія зборы. Яго старэйшы сын і спадчыннік Мікалай Крыштоф, атрымаўшы добрую адукацыю ў Лейпцыг-



План касцёла Іль Джэзу ў Рыме.

скім і Страсбургскім універсітэтах, у 1567 г. прыняў каталіцтва і з тае пары ўсёй сваёй шматграннай грамадскай дзейнасцю абвяргаў рэлігійныя перакананні бацькі, у тым ліку і ў мастацкім кірунку ўзводзімых па яго загадзе архітэктурных збудаванняў. Лепшым сродкам для вяртання сваіх падданых да каталіцтва М.-К.Радзівіл, празваны Сіроткам, палічыў запрашэнне ў Нясвіж місіі езуітаў. З просьбай пра гэта ён звярнуўся ў Ватыкан да генерала ордэну Клаўдзіа Аквавіва і да яго рэгіянальнага кіраўніка І.П.Кампана. У 1582 г. у Нясвіж прыбылі два прадстаўнікі ордэну, якім мястэчка зусім не спадабалася, — яны нават назвалі яго «непрыстойным месцам» [9]. Магчыма, гэта ў пэўнай ступені прымусіла Радзівіла Сіротку карэнным чынам змяніць аблічча свайго радавога гнязда. Ён задумаў, як адзначалі сучаснікі, «у цэнтры Сарматыі стварыць сапраўдную Італію».

Пачатку будаўніцтва езуіцкага касцёла Божага Цела ў Нясвіжы папярэднічалі няпростыя драматычныя падзеі. На падставе фундуша на будаўніцтва нясвіжскага калегіума езуітаў, выдадзенага М.-К.Радзівілам Сіроткам 19 жніўня 1584 г. і зацверджанага каралём Стафанам Баторыем на сейме ў Варшаве 4 лютага 1584 г., езуітам дадаваліся ў горадзе дзве пляцоўкі па баках вуліцы Воднай. На яе ўсходнім баку меркавалася ўзвесці будынак калегіума з гаспадарчымі пабудовамі, садам і агародам, а на пляцоўцы з заходняга боку, як пазначана ў дакуменце, у той час ужо будаваўся касцёл. Вядомы польскі даследчык будаўнічай дзейнасці езуітаў у Рэчы Паспалітай Е.Пашэнда на падставе шматлікіх матэрыялаў, пераважна эпісталярнага жанру, з архіваў Ватыкана, удакладніў, што ў гэты час на месцы існуючага касцёла будаваўся першы мураваны каталіцкі храм у горадзе, які спачатку быў парафіяльным, а ўжо пазней перададзены езуітам [9]. У перапісцы рэгіянальнага кіраўніка ордэну І.П.Кампана, князя М.-К.Радзівіла і біскупа Віленскага Юрыя Радзівіла выказвалася агульная незадаволенасць абліччам і памерамі збудавання. У выніку ў 1586 г., пасля двухгадовага абмеркавання, толькі што ўзведзеныя «свежыя» муры касцёла былі разабраныя. Чаму гэта было зроблена, падказвае архіўная калекцыя чарцяжоў XVI ст., якая паходзіць з Нясвіжа і атрыбутаваная намі разам з вядомым гісторыкам Г. Галенчанкам, як «Альбом Бернардоні» [8; 10]. На аркушы 19-га альбома пад гербам Радзівілаў прадстаўлены план культавага будынка з надпісам, што гэта «першы касцёл нясвіжскі, зламаны за Юрага, заложаны ў року 1581». Тут удакладняецца дата закладкі касцёла і падкрэсліваецца, што галоўным ініцыятарам збурэння храма быў сам кардынал Юры Радзівіл, адна з вышэйшых асобаў каталіцкага кліра, больш за тое — тагачасны прэтэндэнт на папскі прастол.

Архітэктурна-мастацтвазнаўчы аналіз чарцяжа плана першага нясвіжскага касцёла пераконвае, што не толькі памеры збудавання і якасць будаўніцтва былі прычынай яго знішчэння. Ён стаў маленькай ахвярай зацятай ідэалагічнай барацьбы розных хрысціянскіх канфесій, выяўленай у мастацкіх формах. Яго архітэктура была заснаваная на мясцовай гатычнай будаўнічай традыцыі з элементамі візан-


План касцёла Божага Цела ў Нясвіжы. Праект Д.-М.Бернардоні.

тызму, што не адпавядала новаму часу. З гэтай прычыны кардынал Юры Радзівіл ініцыяваў знос храма, неадпаведнага ідэалагічнай праграме контррэфармацыі, якую неслі езуіты, і запатрабаваў узвесці касцёл «па іх узору» [9].

У дакуменце, датаваным 12 снежня 1587 г., М.-К.Радзівіл Сіротка адзначыў: «...залажыў касцёл новы, які павінен быць пабудаваны крыжовы, з купалам пасярэдзіне наверсе, па тым узоры, які зацверджаны Айцамі, тым больш і фундаменты з Божай дапамогай ужо закладзены Юрыем, кардыналам Радзівілам, біскупам Віленскім» [9]. Апошні 14 верасня 1587 г. асвяціў краевугольны камень будучага касцёла Божага Цела, што стаў перлінай беларускага барока і вестуном мастацтва Новага часу на абшарах Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Дзеля рэалізацыі гэтай ідэі Сіротка запрасіў да сябе таленавітага архітэктара-італьянца Джавані Марыя Бернардоні. Яшчэ зусім маладым чалавекам, у 1564 г., Д.-М.Бернардоні стаў манахам ордэну езуітаў, прымаў удзел у будаўніцтве сабора Іль Джэзу ў Рыме і падобнага сабора езуітаў у Неапалі пад кіраўніцтвам Дж. Трыстана, вывучаючы прафесійныя прыёмы вялікіх маэстра позняга італьянскага Адраджэння і ранняга барока. Вядома, што перад ад'ездам на Сардынію ў 1577 г. па накіраванні ордэну ён атрымаў ад яго кіраўніка архітэктурны трактат Віньёлы. У 1583 г. Бернардоні выехаў з Рыма ў



Партал Капіталійскага палаца ў Рыме. Праект Мікеланджэла. З альбома Бернардоні.



Плошча Капітолія ў Рыме. Сучасны выгляд.

Рэч Паспалітую. Хаця ён быў запрошаны непасрэдна ў Нясвіж, аднак на некалькі гадоў затрымаўся ў Любліне, дзе прыняў удзел у будаўніцтве мясцовага касцёла і калегіума езуітаў.

У Нясвіж Бернардоні прыбыў у ліпені ці жніўні 1586 года. Там ён распрацаваў праект новага храма, які адпавядаў патрабаванням заказчыкаў. У архіўнай калекцыі чарцяжоў XVI ст. з Нясвіжа зберагліся тры праектныя чарцяжы касцёла езуітаў Божага Цела: план і падоўжны разрэз храма (паасобку), а таксама план і фасад купала ў артаганальнай праекцыі. Паколькі ўсе пісьмовыя архіўныя крыніцы сведчаць, што архітэктарам збудавання быў Бернардоні, ёсць падставы лічыць, што менавіта ён з'яўляецца аўтарам гэтых графічных матэрыялаў. Прапанаваны Бернардоні праект нясвіжскага касцёла езуітаў стаў якасна новай з'явай не толькі ў навукова-тэхнічным прагрэсе, але і ў мастацкай культуры ўсяго рэгіёна Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Па сваёй архітэктанічнай тыпалогіі нясвіжскі касцёл езуітаў — трохнававая 6-слуповая крыжова-купальная базыліка з планам у верхнім сячэнні (пад купалам) у выглядзе выцягнутага лацінскага крыжа і бязвежавым барочным фасадам. Гэта прынцыпова новая для беларускага дойлідства структура сакральнага збудавання, якая дазваляла стварыць новыя аб'ёмна-пpасторавыя суадносіны.

Яшчэ адзін «рымскі» след зафіксаваны пад нумарам 60 альбома Бернардоні, дзе пададзены чарцёж вытанчанага архітэктурнага афармлення дзвярнога партала з надпісам: «*Porta in Compidoglio inventor Michel Angelus*». *Compidoglio* — гэта італьянская назва Капітолія, галоўнага з сямі славутых пагоркаў Вечнага горада, які з антычнасці трактаваўся як геаметрычны і семантычны цэнтр неабсяжнай Рымскай імперыі. Стварэнне цудоўнага архітэктурнага ансамбля Капітолія было ажыццёўлена Мікеланджэла па замове папы Паўла III у 1537–1539 гады. У ім майстар выявіў сябе не толькі як выдатны архітэктар, але і горадабудаўнік. На вяршыні пагорка ён стварыў трапецападобную плошчу, абкружаную з трох бакоў палацам кансерватараў, палацам сенатараў і капіталійскім музеем з «багатымі і разнастайнымі фасадамі» [1]. У апошнім захоўваецца антычная скульптурная выява капіталійскай ваўчыцы, што выхавала Ромула і Рэма, міфічных заснавальнікаў Рыма. З чацвёртага боку да плошчы вядзе шырокая лесвіца і пандус у выглядзе серпанціна, аформленыя парапетам з балясінамі і пастаўленымі на яго «высакароднымі» антычнымі статуямі. «Пасярэдзіне плошчы на цокалі авальнай формы пастаўлены вельмі славуты бронзавы конь са статуяй Марка Аўрэлія, які перанесены сюды па загадзе таго ж папы Паўла з Латэранскай плошчы, куды яе паставіў Сікст IV. Увесь гэты ансамбль атрымоўваецца цяпер такім прыгожым, што мае права быць названым у ліку выдатных твораў Мікеланджэла» (паводле Джорджа Вазары). Пластыка фасадаў, форма плошчы і ўпісанага ў яе авала, плаўная «цякучасць» лесвіцы і пандуса дазваляюць лічыць Мікеланджэла родапачынальнікам стылю барока, хаця часам яго архітэктурную эстэтыку вызначаюць як «трагічны рэнесанс». Выява ўваходнага партала капіталійскага палаца ў альбоме з Нясвіжа сведчыць пра натурнае вывучэнне Бернардоні архітэктурнай спадчыны вялікага майстра. Магчыма, ён намерваўся зрабіць нешта падобнае на фасадзе нясвіжскага палаца Радзівілаў.

1. Вазари, Джорджо. Жизнеописания наиболее знаменитых живописцев, ваятелей и зодчих / Джорджо Вазари. Перевод с итальянского. — Москва, 2002.
2. Всеобщая история архитектуры /Под ред. Б. П. Михайлова. Т.2 .— Москва, 1962.
3. Габрусь, Т. В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока / Т. В. Габрусь. — Мінск: Ураджай, 2001.
4. Газлине, Чинция Валиджи. Рим и Ватикан. Русское издание / Ч.-В.Газлине. — Roma: Plurigraf, 2006.
5. Книга, заключающая в себе планы, фасады, детальные чертежи различных зданий конца XVI века // Цэнтральная навуковая бібліятэка АН Украіны, г. Кіеў. Аддзел рукапісаў, 721 (589) С. — 71 арк.
6. Микеланджело Буонарроти. Стихотворения. Письма / Микеланджело. Перевод с итальянского. — Санкт-Петербург: «Азбука», 1999.
7. Шуази Огюст. История архитектуры / О.Шуази. Т. 2. — Москва: Изд-во Всесоюзной Академии архитектуры, 1937.
8. Gabrus T., Galenczanka G. G.M. Bernardoniego projekty kosciołów na Białorusi. [w:] Kultura artystyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w epoce baroku. — Warszawa, 1995. — S. 163–177.
9. Paszenda J. Kosciół Bożego Ciała (pojezuicki) w Nieświeżu / J. Paszenda // Kwartalnik architektury i urbanistyki. — Warszawa, 1976. Nr. 21. Zesz. 3. — S. 195–216.
10. L'architetto Gian Maria Bernardoni sj tra l'Italia ele terre dell' Europa centroıorientate. — Roma, MCMIC.



Абраз Маці Божай з касцёла ў Камаях
у каштоўным акладзе.
Фота 1970-х гг.

Аркадзь Шпунт

# З «Агульнага сшытка»

## *Нататкі рэстаўратара*

...Наш аўтобус калясіў па пыльных прасёлках, зацярушаных хлебам, не давезеным у дзіравых кузавах машынаў да сховішчаў. Зерне, якое ўпала на зямлю не для таго, каб потым узысці, пазначала наш шлях. Пранікаючы ў «зону», дзе час імкнуўся назад, мы падбіралі «каласкі» пасля адгрымелага «жніва» атэістычнага псіхозу...

Гэта была невясёлая і досыць нервовая праца. Я спрабаваў расказаць пра яе ў 1982 годзе ў эсэ «Блікі адыходзячага дня», але, вядома ж, не адважыўся нават заікнуцца пра расцярушанае па дарогах зерне, пра людзей, якія сустракалі нас з віламі і косамі каля дзвярэй разрабаваных святыняў, і пра непахісную веру, што цеплілася каля апаганеных алтароў.

Але, як бы там ні было, у экспедыцыях па «знятых з уліку культавых пабудовах» з уратаваных рэчаў сфармаваліся калекцыі старажытнабеларускага мастацтва Дзяржаўнага мастацкага музея БССР, музея пры Акадэміі навук Беларусі і абласных музеяў гісторыі рэлігіі і атэізму. <...> Многае не вярнуць, не аднавіць, хоць сёння робяцца спробы, але нашы ўнукі, напэўна, ужо не паверáць, што «Статут» Вялікага Княства Літоўскага напісаны на іх роднай мове. І, мабыць, Уладзімір Караткевіч падасца ім іншаземным рамантыкам-фантастам.

...Напярэдадні 1913 года (года эканамічнага росквіту нашай найбліжэйшай суседкі Расіі) Бацькаўшчына падавалася патрыятычнаму позірку персанажа аповесці Максіма Гарэцкага кучкаю хатак — *«як куча гною: цераз дзясятак вёрст — убогая царкоўка мужыцкая ці касцёл — і ўсё, уся спадчына, што мае краіна ад гаспадарання бацькоў, дзядоў і дзяцей іхніх»*.

На жаль, да 1970-х гадоў і тых цэркваў ды касцёлаў амаль не засталося. Ва ўсялякім разе, не «знятых з уліку», а значыць не ператвораных у склады, сховішчы, спартзалы, архівы, клубы. Можна было таксама ператварыць касцёл у Дом кіно або планетарый ці музей чаго-небудзь, бо разбурэнне «до основанья, а затем...» патрабавала значных высілкаў — у даўніну, як вядома, будавалі на вякі.

Маёмасць святыняў разрабоўвалася і знішчалася, роспісы сценаў калі не збіваліся, то проста закрываліся слоем шпаклёўкі, як у мінскім катэдральным касцёле, напрыклад... Многае проста зраўнялі з зямлёю, як фару Вітаўта ў Гародні. Але, тым не менш, у Гродзенскай вобласці да 1948 года ўсё ж ацалела 1050 цэркваў... каб да 1985-га іх

**Аркадзь ШПУНТ —** мастак-рэстаўратар вышэйшай катэгорыі. Нарадзіўся ў 1947 г. у Барысаве. Закончыў мастацкую вучэльню. Навучаўся прафесіі ў майстроў Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута рэстаўрацыі. Рэстаўраваў пінскі катэдральны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, мінскую архікатэдру Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, іншыя помнікі сакральнай архітэктуры і мастацтва. Аўтар аповесцяў-эсэ «Блики уходящего дня» (1989), «Момент нуль» (2000), «Тире» (2012) і шэрагу сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Працуе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Жыве ў Мінску.

засталося ўсяго толькі 219...

З вядомых мне стратаў можна было б стварыць музей гісторыі мастацтва Беларусі, гэткі віртуальны калумбарый; а замест урнаў з прахам — фотаздымкі, апісанні, макеты, успаміны... І самыя шчырыя спачуванні...

Страта каванага з пазалочанага срэбра акладу абраза з касцёла Яна Хрысціцеля з мястэчка Камаі Віцебскай вобласці незваротная для дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. І пра Камаі ніхто, напэўна, не ведаў бы, каб не гэты касцёл — невысокі (16 метраў), укаранёны ў макаўку ўзгорка на перасячэнні пяці дарогаў у самым цэнтры вёскі. Просты трохвугольны шчыт з чатырма навамі завяршае фасад, фланкаваны ладдзямі-вежамі з вузкімі вокнамі і рэдкай формы байніцамі, падобнымі да чашаў.

Вызначаючы стыль, хочацца назваць яго лапідарным, бо яго архітэктуры ўласцівыя яснасць, стрыманасць, лаканічнасць і выразнасць. Ён сапраўды нібыта высечаны з каменя, як двухметровы крыж, зроблены з валуна, што з даўніх часоў стаіць на скрыжаванні дарогаў. Нягледзячы на лаканічнасць і простасць, касцёл не губляецца побач з такімі шэдэўрамі абарончага тыпу як цэрквы ў Сынковічах і Мураванцы. Наадварот, яго падкрэслена суровая і вытанчаная грунтоўнасць выглядае яшчэ больш выразна. Гэтае збудаванне — рэальнае сведчанне неабходнасці абараняцца, увасобленай у рысах готыкі, рэнесансу і барока. Ядры для пушак, замураваныя ў сцены, нагадваюць пра шведаў, якія падчас Паўночнай вайны намагаліся праверыць трываласць сценаў двухметровай таўшчыні. <...>

Пра героя Хоцімскай бітвы, на грошы якога ўзведзены шэдэўр абарончага дойлідства, ніхто не згадвае...

Дзіўна і сапраўды ўспрымаецца як цуд тое, што за чатыры стагоддзі касцёл ні на адзін дзень не быў зачынены для веруючых. Аднак ні абарончая архітэктура, ні боязь Бога не былі перашкодаю для крадзяжу ў канцы XX ст., зрэшты, як і любога іншага часу, і злодзеі, прыйшоўшы ў касцёл уначы, па-варварску сарвалі цяжкія каштоўныя шаты з пазалочанага срэбра з абраза галоўнага алтара. Алтарны абраз ацалеў толькі таму, што акно, праз якое злачынцы залезлі ў касцёл, выламаўшы краты, было невялікім.

...Аголены жывапіс патрабаваў рэстаўрацыі. У працэсе работы высветлілася, што пад слаямі запісаў больш за два стагоддзі хаваўся абраз Божай Маці. Два стагоддзі ніхто не здагадваўся, што Яна — Чэнстахоўская.

Абраз па-барочнаму святочны, яркі, светлы, усмешлівы — не падобны да абраза Чорнай Мадонны з Чэнстаховы. Прадаўгаваты твар, буйны падбародак, вялікі нос, вялікія вочы, пухлы рот з доўгімі куткамі вуснаў і ледзьве заўважныя сляды ад удараў шаблі на правай шчацэ, якія наўрад ці былі б раскрытыя, калі б раскрыццё жывапісу вялося без выкарыстання мікраскопа. Знак чэнстахоўскай святыні, схаваны пад познімі запісамі, быў нябачны пад пацямнелым лакам ужо перад першым панаўленнем, інакш яго, безумоўна, не асмеліліся б запісаць. Калі б не гэтая «метка», раскрытая пад мікраскопам, немагчыма было б здагадацца, што гэта менавіта Чэнстахоўскі абраз, як цяжка здагадацца, што плыткі ручаёк паміж узгоркамі — гэта насамрэч суднаходная рака Камайка, якая некалі мела абарончае значэнне.

Выклікала сумненне тое, што назва вёскі нібыта паходзіць ад фінскага слова «камаі», што азначае «буралом». Пры чым тут буралом — тым больш фінскі? Камай, як мне вядома, — гэта галаўны ўбор, які атуляе плечы і шыю — штосьці падобнае да сярэднявечнага кальчужнага падшлемніка, або клабука, «шлема выратавання» праваслаўных манахаў. Магчыма, калі ўзгоркі сярод азёраў яшчэ не мелі назвы, адзін з іх займалі манахі, якія насілі ўзімку камаі, каб схаваць ад холаду галаву і плечы. Гэта было звыклае адзенне заходнееўрапейскага манаха. Людзі, выпраўляючыся ў кляштар з Паставаў ці Лынтупаў, напэўна, гаварылі «пайду ў камаі», маючы на ўвазе месца, дзе пасяліліся манахі, апранутыя не па тутэйшай «модзе». Напэўна, на фоне чысцюткага снегу і яснага неба фігуры ў цёмных камаях глядзеліся на версе крутога ўзгорка вельмі выразна, графічна — іх мог бы добра намаляваць Рэрых...Такое маё разуменне назвы, і больш лагічнага я пакуль не ведаю — яно больш праўдападобнае, чым фінскі буралом...

У краіне пераможнага сацыялізму прыкладалася нямала намаганняў для таго, каб вывіхнуць мазгі і душы грамадзянаў, а нацыянальныя асаблівасці савецкіх рэспублік былі для імперыі проста дэкаратыўнымі бразготкамі. Але...

...але сакральная архітэктура, якая ўсім сваім выглядам сведчыла пра тое, што яна створаная назаўсёды, «на векі вечныя», пераканаўча і відавочна сцвярджала і волю, і свабоду... хаця б у архітэктуры. Дастаткова толькі ўбачыць вертыкалі ўзвышаных сілуэтаў, заснаваных на выгнутых фасадах, якія нібы ўзносяць у неба вытанчаную сіметрыю шмат'ярусных вежаў...

Дарэчы, асаблівасць нашай архітэктуры раптоўна спасцігаеш з радасна-нечаканай яснасцю, калі, вяртаючыся дадому з Пскова ці Ноўгарада, бачыш, як над даляглядам у промнях захаду выплывае сітуэт полацкай Сафіі...

Ірына Зварыка

# Гравюра Францыска Скарыны ў Кнізе прарока Даніэля

## Сэнсы мастацкай інртэрпрэтацыі

Сярод пражскіх выданняў Францыска Скарыны, надрукаваных у 1519 г., знаходзіцца кніга пад назвай «Книги Данийла Пророка» («Книги светого пророка Божия Данийла»). Яе тытульны аркуш мае гравюру з тлумачальным тэкстам уверсе: «Даніўлу седящему сольвы принесе Абвакум обед» [1, гравюра 6; 3, с. 697]. Гравюра адносіцца да сюжэтна-тэматычных, апавядальных ілюстрацый. На наш погляд, яна з'яўляецца адной з найбольш неардынарных сярод іншых у Бібліі Скарыны, а для яго асабіста — адной з найбольш значных. Як нам бачыцца, па крытэрыях суб'ектыўнасці і выяўлення аўтарскай індывідуальнасці яе можна паставіць побач з аўтапартрэтам Скарыны. Яна зусім не такая наіўная, як можа падацца на першы погляд, хоць і мае відавочныя рысы наіўнасці. Паводле сённяшніх мастацтвазнаўчых поглядаў, гравюру можна аднесці да твораў інсітнага мастацтва. Насычаная візуальнай інфармацыяй, з вялікай колькасцю персанажаў, напоўненая падрабязнасцямі, гэткая «блокбухаўская» ілюстрацыя прызначалася для маласпрактыкаванага чытача, а яшчэ больш — для непісьменнага, але цікаўнага слухача [10, с. 110]. Аднак «карцінка» з бегам часу стала цікавай і для даследчыкаў.


Данийлу седмщему сольвы принесе Абвакум обед

Книги светого пророка Божия Да-
нийла починаютьсия. Зуполне
выложены на руский язык
доктором Францыском Скориною
из славнаго града Полоцька. Напред
богу кчти, и людем посполитым к наўце.

**Ірына Зварыка** — вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь. Аўтар навуковай канцэпцыі міжнароднай выставы «Слуцкія паясы» (Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі; кастрычнік 2005 — студзень 2006 гг.); укладальнік і суаўтар каталога «Слуцкія паясы» (Мінск, 2008 г.); аўтар навуковай канцэпцыі экспазіцыі «Беларусь XVI–XVIII стагоддзяў у партрэце і геральдыцы» ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь; аўтар атрыбуцыі партрэта Луізы Гогенцолерн («Партрэт вядомай»: штогоднік «Музейны веснік», Мінск, 2012).

«Книги Данийла Пророка» (далей — Кніга) — адна з прарочых частак Старога Запавету. Аўтарства яе прыпісваецца біблійнаму прароку Даніэлю, нашчадку юдэйскіх нобіляў, які жыў на пераломе VII–VI стст. да н.э. У юным узросце разам з тысячамі сваіх супляменнікаў ён быў выведзены ў бабілёнскі палон [4, с. 185; 13, 23]. Нягледзячы на свой нізкі сацыяльны і, умоўна кажучы, нацыянальны статус (быў палонным і іншапляменным), Даніэль заняў пасаду першага дарадцы пры царскіх асобах бабілёнскага двара дзякуючы сваім прыродным і духоўным якасцям. Адна з іх — дар адгадваць сны і тлумачыць іх сэнс. Высокае становішча рабіла Даніэля мішэнню ў інтрыгах зайздросных саноўнікаў. У Кнізе апісваюцца гісторыі з жыцця гэтага чалавека і падзеі, сведкам якіх ён быў (a) [2, с. 1273-1299; 13, 14, 24]. Многія з гэтых разнастайных і глыбокіх па змесце гісторый знайшлі адлюстраванне ў выяўленчым мастацтве.

Для тытульнай гравюры Францыск Скарына абраў адзін з найбольш драматычных эпізодаў жыцця Даніэля — яго цудоўнае выратаванне ад смерці ў яме з галоднымі львамі. У цэнтры гравюры (105 x 104 мм) вока гледача бачыць галоўнага персанажа, які сядзіць у атачэнні ільвоў, не раз'юшаных, але ціхмяных і лагодных. Зверху — група з чатырох чалавек, адзін з якіх, пасярэдзіне, у кароне — цар бабілёнскі, па баках — яго прыдворныя, ніжэй — слуга. Яны прыйшлі паглядзець, што сталася з Даніэлем, кінутым у львавярню. Справа зверху — анёл, які трымае чалавека за валасы; у руцэ чалавека кошык з ежай — гэта прарок Авакум. Усё дакладна паводле тэксту, апроч аднаго — кнігі на каленях Даніэля, аб'екта зусім нечаканага для гэтага эпізоду.

Выявіць прарока Даніэля з кнігай было б абсалютна праванамерным, бо ў аповедзе пра яго ёсць пасаж, у якім згадваецца сакральная кніга з таямніцай абраных для вечнага жыцця імёнаў, даручанай Прароку (Дан 12, 1.4). Такім, дарэчы, ён і прадстаўлены ў фрэскавым роспісе Мікеланджэла на скляпеннях Сікстынскай капэлы [16]. Даніэль з ільвамі — таксама бясспрэчны эпізод. Але прысутнасць пры Даніэлю і кнігі, і львоў на адным выяўленчым полі выглядае нейкім каламбурам, «прыколам». Тым не менш, Скарына, аб'яднаўшы гэтыя аб'екты — кнігу і львоў — у адным сюжэце, не запярэчыў біблійнаму тэксту.

Справа ў тым, што Прарок перажыў прысуды пакарання смерцю праз львавярню двойчы. Першы раз, стаўшыся ахвяраю палацавых інтрыгаў, ён прабыў сярод галодных драпежнікаў цэлы дзень, але застаўся жывы і здаровы дзякуючы анёлу Божаму, які закрыў пашчы львам. Гэта паведамляецца ва ўсіх тэкстах Бібліі (Дан 6, 19–22).

Другая ж гісторыя, у якой Даніэль ізноў трапляе пад такі ж вырак смерці, не заўсёды змяшчаецца ў Святым Пісанні, бо яна не прызнана кананічнай (Дан 14, 1, 29–31). Скарына зрабіў поўны пераклад, разам з некананічнымі месцамі, што засведчыў у прадмове і пасляслоўі да Кнігі — «...зуполъне выложены на руский языкъ...» [3, с. 697, 704, 775]. Для тытульнай гравюры ён абраў якраз некананічны эпізод з 14-га раздзела, і гэты яго ход быў свядомы і прадуманы.

У другой гісторыі пра выратаванне святога Даніэля з'явіўся новы персанаж — святы Авакум, а прабыванне ў яме з ільвамі працягнулася да шасці дзён. У тэксце прыведзены шматлікія падрабязнасці: пра колькасць львоў (іх было 7), пра іх штодзённы рацыён (2 цяляці і 2 авечкі), пра тое, што звярам наўмысна не давалі ежы, каб яны разадралі ахвяру. Сказана, якім чынам быў перанесены да ільвінай ямы Авакум (анёлам Божым), і што ён нёс у сваіх руках: кошык з абедам для Даніэля, каб за шэсць дзён той не аслабеў (b). Але зусім не гэтыя акалічнасці паўплывалі на рашэнне Скарыны. Вызначальным фактарам было тое, пра што **не** напісана: у абраным эпізодзе, у адрозненне ад кананічнага, аніяк не пазначана прычына шчаслівага выратавання Даніэля — поўнае маўчанне (Дан 14, 25–42) [3, с. 775; 2, с.1299]. І вось гэты «прабел» Скарына вельмі дасціпна і тактоўна выкарыстоўвае для таго, каб прапанаваць сваю версію выратавання святога і падаць яе так, каб можна было зразумець, **што** яму, Скарыну, блізка і **што** яго хвалюе.

У таго, хто глядзіць на малюнак, ствараецца ўражанне, што Даніэль чытае ільвам кнігу. Гэта адна з «усмешлівых» скарынаўскіх гравюраў. Але за ўсмешкаю схаваны важны сэнс. Кніга — гэта слова. Чалавек на малюнку сумовіцца з жывёламі праз слова. Дзякуючы слову паміж чалавекам і дзікімі звярамі ўзнікаюць паразуменне і прыязнасць — грозныя жывёлы больш не пагражаюць яму. Паняцце «слова» ў дадзеным кантэксце з'яўляецца ключавым. Гэты «ключ» адмыкае новую сэнсавую прастору, выводзіць да новага персанажа — віртуальнага. Гэтая нябачная постаць — Францішка з Асізі (1182 — 1226), аднаго з найбольш вядомых у хрысціянстве святых, якому была ўласцівая незвычайная любоў да жывёлаў і які мог звярнуцца да іх з пропаведдзю [17]. Ці не самая папулярная легенда, з ім звязаная, апавядае пра цудоўнае ўтаймаванне лютага ваўка, які знаходзіўся ў лесе каля італьянскай вёскі Губіё. У крытычны момант, калі воўк быў гатовы кінуцца на святога, той звярнуўся да звера з прамоваю, якая пачыналася

словамі: «Браце воўк...». Словы Францішка, адрасаваныя ваўку, ператварылі страшнага драпежніка ў лагодную жывёлу, сябра ўсіх навакольных жыхароў [8, с. 244, 246; 18]. Легенда была ўключана ў зборнік ордэнскіх і народных паданняў пра святога — «Кветачкі святога Францішка» («*Fioretti di San Francesco*»), найбольш раннія лацінскія спісы якога датуюцца 1390 г. [18]. Яго першае друкаванае выданне на італьянскай мове выйшла ў 1476 г. у горадзе Вічэнцы, які ляжыць непадалёк ад Венецыі і Падуі, дзе ў лістападзе 1512 г. Скарына абараняў вучоную ступень доктара медыцыны. Як піша Я. Неміроўскі, у Венецыянскай рэспубліцы шматлікія друкарні былі свайго роду навуковымі і літаратурнымі клубамі [6, с. 210]. У гэтым кантэксце малады Скарына мог пазнаёміцца там з друкаванай версіяй гісторый пра свайго нябеснага апекуна і даведацца шмат новага пра яго. Вось і прарок Даніэль, паводле версіі Скарыны, каб ўратавацца ў львавярні, выкарыстаў сілу слова: алюзія на св. Францішка з Асізі тут відавочная. Праз яе, як нам уяўляецца, Францыск Скарына выказаў пашану таму, у гонар каго ён быў названы.


Палац Дожаў у Венецыі.

Цяпер звернем увагу на кампазіцыю асноўнай часткі гравюры, дзе знаходзяцца Даніэль і львы. Цэнтрам яе з'яўляецца раскрытая кніга на каленях Прарока. Яна «трымае» лінію злева направа, на якой паслядоўна змешчаны фігура чалавека — раскрытая кніга — фігура льва. Наогул, вобраз львоў з кнігаю — своеасаблівы маркер усёй гравюры (тая, дзе Даніэль чытае львам кнігу). Адзначаныя вышэй лінія і вобраз выбудоўваюцца невыпадкова — гэта творчая знаходка Скарыны. Льва з кнігаю ён бачыў штодзённа ў лістападзе 1512 г. у Падуі, дзе, як ужо адзначалася, абараняў вучоную ступень доктара медыцыны: каменны леў з кнігай — скульптура над уваходам — вітаў яго зверху над брамай пры ўваходзе ва ўнівэрсітэт. Леў — сімвал евангеліста Марка, святога апекуна Венецыі. Крылаты леў з лапаю на раскрытай (найчасцей — у вертыкаль) кнізе — сімвал гэтага горада і ўсёй Венецыянскай рэспубліцы [23].

Аднак непасрэдным прататыпам цэнтра кампазіцыі гравюры з'явіўся іншы пластычны твор: архітэктурны комплекс над уваходам у Палац дожаў у Венецыі — над брамай, якая завецца Порта дэла Карта [15]. У атачэнні гатычнага дэкору вылучаецца група: укленчаная фігура чалавека — раскрытая ў вертыкаль кніга — фігура крылатага льва, то бок, у венецыянскай скульптуры і на кніжнай гравюры Скарыны адна і тая ж кампазіцыйная схема. У скульптурнай кампазіцыі прадстаўлены дож Франчэска Фаскары, укленчаны перад крылатым ільвом св. Марка (с); [22]. На гравюры Скарыны, на месцы ўкленчанага дожа — сядзіць прарок Даніэль; раскрытая кніга лягла на калені Прарока; леў застаўся на сваім месцы, але апусціў лапу, а яго крылы «адляцелі» да анёла зверху. Імя і прозвішча дожа сугучныя з імем і прозвішчам вялікага асветніка: **Fran**cesco Fo**scari** — **Фран**цыск **Скары**на (у арыгінале — **Скори**на). Францішак «з слаўнага града Полацка», чуйны да слова, не мог не звярнуць увагі на гэты факт. Скарынаўская выява — не калька і не цытата, але праява вобразнаасацыятыўнага мыслення таго, хто непасрэдна бачыў венецыянскую скульптуру.

Такім чынам, у тытульнай гравюры нябачна сышліся тры Францішкі:

— святы Францішак з Асізі, дзякуючы якому ў Скарыны з'явілася ідэя слова — выратавання ў дачыненні да постаці Даніэля ў яме з галоднымі львамі;

— венецыянскі дож Франчэска Фаскары, імя і прозвішча якога сугучныя з імем і прозвішчам Францыска Скарыны. Скульптурная кампазіцыя, прысвечаная дожу, паўплывала на выбудову цэнтра тытульнай гравюры;

— сам геній і вялікі асветнік Скарына, які ўсё аб'яднаў і выступіў як аўтар ідэі ілюстрацыі.

Па нашым меркаванні, цэнтральная частка гравюры «Данійлу седящему сольвы ...» створана пад уплывам непасрэдных эстэтычных уражанняў, атрыманых у Венецыянскай рэспубліцы, і кніжных рэфлексій

Скарыны падчас працы над перакладам Бібліі.

У гэтым творы Скарына надзвычай выразна абазначыў самога сябе: свае прэферэнцыі, унутраны свет, адносіны да карыстальнікаў кнігі. Гэта адна з тых гравюраў, пра якія даследчык У. Конан пісаў: «...Ф. Скарына тлумачыў старазапаветныя міфы як падзеі рэальнай гісторыі, якія, аднак, маюць не плоска падзейны, але і сімвалічны сэнс, што мае дачыненне не толькі да мінулага, але і да сучаснага і будучага жыцця... **Гаворка ідзе аб прыкметнай мадэрнізацыі старазапаветных сюжэтаў і гравюраў, якія ілюструюць яго Біблію**...» *(пераклад І. З.)*, [7, с.187]. Не перастае ўражваць свабода ў творчасці Скарыны — свабода не стыхійная, але інтэлігентная, натхнёная культурай.

З пазіцыі сённяшніх рэалій мастацкая інтэрпрэтацыя вобраза Даніэля з кнігай у львінай яме можа выглядаць своеасаблівым піяр-ходам выдаўца ў папулярызацыі кнігі. Распаўсюджванне ведаў праз чытанне — адна з праграмных задачаў вялікага асветніка, прычым кніга гэтая — Біблія, а ў ёй — слова Божае, а яно павінна быць заўсёды побач. Можна сказаць і так: кніга ў руках Прарока — знак, пасланне чытачу і гледачу пра тое, што кніга — жыццёва неабходная рэч і што сіла слова можа быць мацнейшай за сілу мускулаў...

«Кніжны» леў натхніў не толькі Францыска Скарыну. Вось радкі:

Золотая голубятня у воды,
Ласковой и млеюще-зеленой;
Заметает ветерок соленый
Черных лодок узкие следы.

Сколько нежных,
странных лиц в толпе.
В каждой лавке яркие игрушки:
С книгой лев
на вышитой подушке
С книгой лев
на мраморном столбе.

Как на древнем,
выцветшем холсте,
Стынет небо тускло-голубое...
Но не тесно в этой тесноте
И не душно в сырости и зное [5, с. 43-44].

Верш «Венеция» Ганна Ахматава напісала ў 1912 годзе, роўна праз 400 гадоў пасля таго, як Скарына ўпершыню (?) убачыў льва з кнігаю, а ў Ватыкане адкрылася Сікстынская капэла (d). Словы паэтычнага радка «С книгой лев» паслужылі аўтару гэтых аналітычных назіранняў штуршком для пошуку прычынаў стварэння такой дзіўнай гравюры — з ільвамі і кнігаю.

**Каментары**

a) У сучасных каментарыях да Бібліі, у прыватнасці, да Кнігі прарока Даніэля, указваецца на тое, што яе ананімны аўтар жыў пазней за час, які ён апісвае, карыстаючыся вуснымі і пісьмовымі паданнямі. Не з'яўляючыся прапаведнікам, пісьменнік толькі выкладае вучэнне вялікага прарока [2, с. 2027-2028].

b) Анёл, пераносячы Авакума, узяў яго зверху за валасы. Ежа, паводле скарынаўскага перакладу, была змешчана ў «пляценік» — плецены кош, што дакладна адлюстравана на гравюры [3, с.714]. У іншых перакладах, у прыватнасці, сучасным рускім, начынне для пераносу ежы пазначана словам «блюдо» [2, с. 1299]. Ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі ў сваім перакладзе на беларускую мову Кнігі прарока Даніэля ўжывае слова «пасудзіна» (гл.: Біблія / на падставе рукапісаў У. Чарняўскага. — Мінск: Біблейскае таварыства ў Рэспубліцы Беларусь, 2012. — С. 689).

c) На старонках кнігі, што паміж імі, занатаваны лацінскі надпіс: «PAX TIBI MARCE EVANGELISTA MEUS» («Мір табе, Марк, Евангеліст мой»). Манумент пабудаваны ў 1442 г. архітэктарамі братамі Джавані і Барталамэа Бон [20].

d) Адкрыццё капэлы прыпала на 31 кастрычніка 1512 года [11, с. 24], [16].

**Бібліяграфія**


1. Баразна Л. Гравюры Францыска Скарыны. Выданне 2-е. — Мінск : «Беларусь», 1990.
2. Библия. Книги Священного Писания Ветхого и Нового Завета. — Брюссель: изд-во «Жизнь с Богом», 1989.
3. Біблія. Факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенай Францыскам Скарынаю ў 1517–1519 гадах. У 3-х тамах. — Мінск: «Беларуская энцыклапедыя» імя П. Броўкі, 1991. Т. 3.
4. Библейская энциклопедия. Издание Свято-Троице-Сергиевой Лавры. Репринтное издание. 1990 г. / «Иллюстрированная полная популярная библейская энциклопедія въ 4-хъ выпускахъ. Выпускъ I. А — Е. Москва. 1891».
5. Анна Ахматова. Бег времени. — Минск: «Мастацкая літаратура», 1983.
6. Немировский Е.Л. Франциск Скорина. Жизнь и деятельность белорусского просветителя. — Минск : «Мастацкая літаратура», 1990.
7. Конон В.М. Литературные жанры, художественные символы и мифологические образы в творчестве Ф. Скорины // Франциск Скорина — белорусский гуманист, просветитель, первопечатник. — Минск : «Вышэйшая школа», 1989.
8. Пименова Э.К. Францискъ Ассизский, его жизнь и общественная деятельность. Биографический очеркъ. — С.-Петербургъ, 1896. // Магомет. Григорий VII. Франциск Ассизский. Никон. Аввакум. — СПб: «ЛИО Редактор». (Жизнь замечательных людей). Переиздание книг. 1996.
9. Францыск Скарына і яго час. Энцыклапедычны даведнік. — Мінск: «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя П. Броўкі, 1988.
10. Шматов В.Ф. Искусство книги Франциска Скорины. — Москва: «Книга», 1990.
11. АЛЬБОМ Kaplica Sykstyńska/ Wydawnictwo: Sopran. Roma. Edito e stampato dalla «plurigraf». — Narni — Terni. 1987.
12. АЛЬБОМ Venise. Tresor de l'Art. "plurigraf". — Narni — Terni — Italia. 1997.
13. https://ru.wikipedia.org/wiki/Даниил_(пророк)
14. Книга пророка Даниила. — Рэжым доступу: http://www.magister.msk.ru/relig/bible/rusbib34.htm
15. Порта-делла-Карта. — Рэжым доступу: http://italia.obnovlenie.ru/places/photos/porta-della-carta/1536/
16. http://commons.wikimedia.org/wiki/File:Michelangelo_Buonarroti; https://ru.wikipedia.org/wiki/Сикстинская_капелла
17. Гилберт Честертон. Франциск Ассизский. — Рэжым доступу: http://krotov.info/library/24_ch/ches/terton_048.html
18. Цветочки Святого Франциска. — Рэжым доступу: http://s-francesco.narod.ru/16.html
19. Цветочки Святого Франциска. — Рэжым доступу: http://s-francesco.narod.ru/21.html
20. http://artmart.su/81-lvi_svyatogo_marka.html
21. «Бумажные» ворота Порта делла Карта. — Рэжым доступу: http://euroupe-turizm.ru/italy/247-bumazhnye-vorota-porta-della-karta.html
22. http://ru.wikipedia.org/wiki/Лев_святого_Марка
22. http://ru.wikipedia.org/wiki/Фоскари,_Франческо
23. Герб Светлейшей Республики Венеция в 697–1797 годах. — Рэжым доступу: http://rovdyrdreams.com/gerb-svetleyshey-respubliki-venetsiya-v-697-1797-godah/
24. http://holybible.by/daniel-by.html

Уладзімір Кароткі

# Булава, з пяром злучаная

## *Хрысціянскі запавет гетмана Гасеўскага*

Даследаванне помнікаў перакладной літаратуры Беларусі, як правіла, скіраванае на вывучэнне рукапіснай пісьмовай спадчыны — «Александрыі», «Троі», «Аповесці пра Трышчана» і г. д. Між тым, багатая, але не ўведзеная ў навуковы ўжытак друкаваная перакладная літаратура нашых суайчыннікаў пакуль што не зрабілася прадметам даследавання беларускіх вучоных. Шырокаму колу беларускіх чытачоў яшчэ не вядомыя імёны такіх знакамітых перакладчыкаў, як Стэфан Дзічкоўскі, Зыгмунт Брудзецкі, Ян Ліцыній Намыслоўскі, Беняш Будны.



Вінцэнт Гасеўскі.

«Люстэрка, якое нікому не дагаджае...» (Вільня, 1665[1]; Торунь, 1695[2]) французскага гістарыёграфа Жана Пюжэ дэ ля Сэра, прысвечанае найвышэйшым саноўнікам Вялікай Брытаніі. Перакладзенае польным гетманам Вялікага Княства Літоўскага Вінцэнтам Аляксандрам Корвінам Гасеўскім (каля 1620 – 1662) у маскоўскім палоне, яно з'яўляецца яркім прыкладам перакладной польскамоўнай літаратуры Беларусі эпохі Барока. У чатырох раздзелах кнігі — «O poznaniu siebie samego» («Пра пазнанне сябе самога»), «O wzgardzie sławy i bogactw» («Пра пагарду да славы і багаццяў»), «Zwycięstwo i tryumph żywota ludskiego nad śmiercią» («Перамога і трыумф жыцця людскога над смерцю»), «Nowy widok na theatrum cmentarzów, grobów i trun» («Новы погляд на тэатр могілак, склепаў і трунаў»), а таксама ў прысвячэнні ўдаве гетмана Магдалене раскрываецца барочнае бачанне чалавечай існасці ў створаным Богам сусвеце, даецца ацэнка духоўным і матэрыяльным каштоўнасцям у гістарычнай рэтраспекцыі.

Гэты твор французскага пісьменніка, драматурга, гістарыёграфа, пяру якога належыць звыш ста сачыненняў, быў не толькі вядомы, але і надзвычай папулярны ў Заходняй Еўропе. Так, у 1639 годзе «Люстэрка...» было перакладзена на англійскую мову і выдадзена ў Лондане, а ў 1667 г. — на нямецкую, і апублікавана ў Амстэрдаме.

Двойчы «Люстэрка…» ў перакладзе польнага гетмана, падскарбія ВКЛ Вінцэнта Гасеўскага друкавалася ў Рэчы Паспалітай абедзвюх дзяржаў, і гэта быў рэдкі выпадак у нашай культурнай прасторы. Характэрна, што ў торуньскім выданні на тытульным аркушы не пазначаны аўтар «Люстэрка…», а толькі гаворыцца пра тое, што гэты твор «zgotowany w moskiewskim więzieniu» («падрыхтаваны ў маскоўскім зняволенні») у 1650 г. Вінцэнтам Гасеўскім. І тым самым ужо тытульны аркуш утрымлівае ў сабе загадку, якая датычыць перш за ўсё года ці гадоў працы польнага гетмана над перакладам сачынення дэ ля Сэра. В. Корвін-Гасеўскі да 1638 г. вучыўся ва ўніверсітэтах Вільні, Вены, Рыма і Падуі (нарадзіўся каля 1620 г.), дзе «...zabawiał młode lata swoje słuchaniem i przeglądaniem wiekopomnych dzieł swoich Corwinow w Rzymie Consulow, a w Węgrzech Krolow, w X. Litewskim Senatorow» («...бавіў маладыя гады свае слуханнем і вывучэннем векапомных твораў сваіх Корвінаў, консулаў Рыма, каралёў Венгрыі, сенатараў Кн. Літоўскага»)[3]. Толькі з 1646 г. пачалася яго службовая кар'ера ў якасці стольніка ВКЛ, а таксама вельмі хуткі кар'ерны рост (1648 г. — крайчы ВКЛ, 1650 г. — маршалак пасольскай ізбы, 1651 г. — генерал артылерыі ВКЛ).

З даступных нам крыніцаў вядома, што падчас вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай у сярэдзіне XVII ст. гетман Вінцэнт Гасеўскі не быў у палоне ў 1650 годзе. Ён быў захоплены ў палон маскоўскімі войскамі на чале з ваяводам Іванам Хаванскім 21 кастрычніка 1658 года. Як сведчыць аўтар артыкула Адам Пшы-

**Уладзімір Кароткі** – кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры філалагічнага факультэта БДУ, гісторык літаратуры і культуры, перакладчык. Аўтар манаграфій «Творческий путь Мелетия Смотрицкого» (1987), «Беларуская літаратура і гісторыя» (2013), складальнік зборніка «Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны» (1991), сааўтар падручнікаў па гісторыі беларускай літаратуры, аўтар звыш 200 навуковых працаў.



ZWIERCIADŁO
NIKOMU NIE POCHLEBUIACE.
Przez
Iaśnie Wielmożnego
Iego Mośći P. WINCENTEGO COR-
WINA GOSIEWSKIEGO, Podſkárbiego
Wielkiego, Piſárzá Ziemſkiego, Hetmáná PolnegoW. X. Lit.
Ośmiáńſkiego, Wielińſkiego, Puńſkiego, Márkowſkiego,
Lozdźieyſkiego Stároſtę
Polſkiemu Narodowi,
w Moſkiewſkim więźieniu
zgotowáne, Roku 1650.
Opus Poſthumum.
Teraz świeżo
Przez
IegoMośći Páná Iozefá Láſkowſkiego,
do druku podáne.
W THORUNIU.
Drukował IAN BALCER BRESLER, 1695.

басьу «Польскім слоўніку біяграфічным», вязень быў вызвалены ў 1659 годзе. Пры гэтым даследчык заўважае, што Гасеўскі прысвяціў свой пераклад жонцы Магдалене Канапацкай[4]. Аднак і гэта не зусім дакладная інфармацыя. Прысвячэнне ўдаве гетмана напісаў выдавец Юзаф Ляскоўскі. Хутчэй за ўсё, ён і знайшоў рукапіс перакладу кнігі дэ ля Сэра, як і іншыя сачыненні Гасеўскага. Выдавец «Люстэрка...» адзначае, што, акрамя гэтага перакладу, Гасеўскаму належыць яшчэ шэраг сачыненняў: «Inne, że są niedoskonałe, podobno w cieniu zostają. Tej zaś nie zdało mi się zamilczeć, aby praca tak wielkiego człowieka nieużytecznie zapaść miała, i żeby przez nas miała Ojczyzna po śmierci jego utracić reflexyią w tym Zwierciadle, którą on jey za żywota zawsze dawał hojnie, y w tej to pracy swojej do przejrzenia się gotował. <...> ta księga godna iest i rąk i oczu wielkich ludzi» («Іншыя, з прычыны іх недасканаласці, падобна, застаюцца ў цяні. Але пра гэтую мне не даводзіцца маўчаць, бо інакш бы праца такога вялікага чалавека магла б марна заняпасці, а Айчына з-за нас пасля яго смерці страціла б рэфлексію, заключаную ў гэтым «Люстэрку...», якую ён пры жыцці сваім заўсёды шчодра ёй прыносіў, і гэтай вось працай сваёй рыхтаваўся да разглядання самога сябе. <...> гэтая кніга вартая і рук, і вачэй вялікіх людзей»)[5].

У гэтай жа прадмове Ю. Ляскоўскага змешчана і эпітафія (аўтаэпітафія), напісаная Гасеўскім у палоне. Далей ідзе яшчэ адна эпітафія, на лацінскай мове, якая, хутчэй за ўсё, была змешчана ў касцёле святога Казіміра ў Вільні. Там жа жонка Гасеўскага Магдалена паставіла помнік у гонар свайго мужа. На жаль, пасля 1832 г. маскоўскія войскі разрабавалі грабніцу Гасеўскага, а сам касцёл перарабілі ў царкву святога Мікалая.

Празаічнае прысвячэнне Магдалене Канапацкай нагадвае перш за ўсё прысвячэнні ўдовам у фунеральнай літаратуры Беларусі (напрыклад, прысвячэнне Соф'і Слуцкай, удаве Сімяона Алелькавіча; Ганне Хадкевіч, удаве Яна Караля Хадкевіча і інш.). Відаць, выдавец лічыў друкаваныя пераклады кнігі Гасеўскага сведчаннем філалагічных заняткаў польнага гетмана. Усё прысвячэнне прасякнута матывамі *memento mori*[6], *vanitas vanitatum et omnia vanitas*[7]. Эпіграфам да твора з'яўляецца цытата з Сенэкі на лацінскай мове. У тэксце прадмовы гэты эпіграф перакладаецца на польскую мову, але перад перакладам эпіграфа змешчана заўвага Юзафа Ляскоўскага пра тое, што там, дзе некалі былі «mury Dardańskie, dziś pługiem ziemię krają, a gdzie był zamek Troiey, dziś kłosy wspływają, jednym słowem że wszystko ginie, poczynając» («муры Дарданіі, сёння [людзі] плугам зямлю крояць, а дзе быў замак Трэі, сёння каласы ўсплываюць, адным словам, усё, што пачынаецца, гіне»)[8]. І толькі потым ідзе пераклад словаў Сенэкі: «nigdy nie jest prożna praca dobrego i życzliwego Ojczyźnie człowieka: słuchaniem bowiem, weyrzeniem, milczeniem i chodzeniem nawet iest pomocny» («ніколі не бывае марнаю праца добрага і зычлівага да Айчыны чалавека, бо ён слуханнем [сваім], поглядам, маўчаннем і нават хадзьбою ёй дапамагае»)[9].

Годнасць чалавека, гетмана перш за ўсё была заснаваная на высокай навуцы і памяці пра слаўных продкаў і сваякоў. Упамінаюцца, напрыклад, гераічныя справы яго бацькі і брата. Ды і сам малады Вінцэнт Гасеўскі праславіўся ў першых сваіх бітвах з непрыяцелем тым, што ён «Dimirską y Irpieńską wygranemi potrzebami białoryskich W. X. L. obronił krajow» («Дзімірскай і ірпеньскай перамогамі[10] абараніў беларускія землі В[ялікага] Кн[яства] Л[ітоўскага]»)[11]. На чатырох старонках прысвячэння ўзгадваюцца галоўныя вехі жыцця Вінцэнта Гасеўскага, яго перамогі і паразы, расказваецца і пра яго дыпламатычную дзейнасць. Ю. Ляскоўскі адзначае, што Вінцэнт Гасеўскі быў у маскоўскім палоне чатыры гады, і сенатары Рэчы Паспалітай называлі яго «delicium» (аздобаю) дзяржавы. Гэта не перашкодзіла, аднак, западозрыць Вінцэнта Гасеўскага ў дзяржаўнай здрадзе. Пасля вызвалення з палону 6 красавіка 1662 г. Гасеўскі атрымаў віншаванні ад французскага караля Людовіка XIV. Відаць, пад уплывам каралевы Людавікі Марыі Ганзага Вінцэнт Гасеўскі 12 чэрвеня 1662 г. у прысутнасці французскага пасла дэ Люмбрэ даў касцёльную прысягу, што падпарадкуе сабе войска Вялікага Княства Літоўскага. За гэта пазней



ZWIERCIADŁO
NIKOMV NIE POCHLEBVIACE
Przez
Iaśnie Wielmożnego
Iego Mośći P. WINCENTEGO CORWINA
GOSIEWSKIEGO, Podskárbiego Wielkiego/ Pisárza Ziemskiego/ Hetmaná Polnego W. X. Lit. Osmiánskiego/ Wielińskiego/ Puńskiego/ Markowskiego/ Lozdzieyskie Stárostę. Oekonomiey Grudziadzkiey, Mobilewskiey, y Olizskiey, Administratora:
Polskiemu Narodowi/ w Moskiewskim więzieniu zgotowáne/ Roku 1650.
Opus posthumum.
Niegdy
Przez Piotra de la Serre Historiographa Francuskiego, Językiem Francuskim dedykowane, Naiaśnieyszym Maiestatom Wielkiey Britanniey, Roku 1632. w Rowan do druku podane.
Drukowano w Wilnie/ Roku 1665.

ён быў расстраляны, але і яго карнікі Багдан Хлявінскі і Казімір Катоўскі таксама ў хуткім часе атрымалі смяротны прысуд.

Відаць, перыпетыі жыцця, звязаныя са зменай прыярытэтаў і мецэнатаў, пераканалі Вінцэнта Гасеўскага ў марнасці ўсяго існага. Таму выбар твора для перакладу відавочна меў значэнне. Не можа быць таксама двух меркаванняў адносна часу выканання задумы: гэта быў перыяд яго турэмнага зняволення. Праўда, шкада, што сёння мы маем толькі адзін з перакладных твораў гетмана — інфармацыя пра нейкія іншыя арыгінальныя творы таксама падаецца няпэўнай.

«Люстэрка…» ў знакавай сістэме паэтыкі Барока займае асобае месца. Люстэрка як прадмет служыць механізмам адлюстравання, але ў розныя эпохі сам прынцып адлюстравання ўспрымаецца па-рознаму. Найбольшую метафарызацыю люстэрка набывае ў эпоху Барока, калі кожны прадмет набывае другі, прыхаваны, сэнс. У звычайных з'явах мастакі Барока бачылі адлюстраванне вечных паняццяў, катэгорый і каштоўнасцяў. Сам па сабе прадмет мог і не мець пэўнай каштоўнасці, але яго ўнутраны сэнс, прыхаваны для непасвечанага, — вынік гістарыясофскага асэнсавання быцця, прычым у сусветным, касмічным маштабе. У адным люстэрку могуць быць сфакусіраваны самыя розныя прадметы, адлюстраванні асобаў, іх жыццёвыя гісторыі; калі не стае якой-небудзь адной рэчы, яе можа замяніць іншая, блізкая паводле падабенства альбо адрознасці. Вельмі важным элементам у пабудове самых розных канцэптаў была ідэя Божага Провіду. Самакаштоўным элементам, які захоўвае чалавечае ў чалавеку з пункту гледжання пісьменнікаў эпохі Барока, ёсць перш за ўсё дух, духоўнае — тое, што збліжае чалавека з космасам. Усё астатняе не належыць да вечнага.

Асаблівае месца ў гэтым вартасным радзе займае чалавечае цела і яго абрамленне, я б сказаў, атрыбутыка. Пісьменнік эпохі Барока імкнецца даказаць, праілюстраваць сваё бачанне сусвету праз гісторыю (*historia est magistra vitae*[12]). Для гэтага адбіраюцца не звычайныя прадметы ці асобы, а толькі тыя, што нясуць у сабе сімвалічны змест. Прывяду характэрныя для эпохі Барока выразы з гэтай кнігі. Аўтар задае пытанне, чым ёсць чалавек. Адказ: «Ty nazwany jesteś ziemią, boś nie z czego innego iest uczynion, tylko z ziemie… Ty w rzeczy samej niczem jesteś» («Ты названы зямлёю, бо створаны ні з чаго іншага, як з зямлі… Ты ў самой [сваёй] сутнасці — нішто»)[13]. Усе прарочыя сны, хімеры, усё прыватнае, з пункту гледжання аўтара, — нішто, і чалавек — таксама нішто. Ёсць толькі дзве асноўныя кнігі быцця: Біблія і Неба. Згодна з канцэпцыяй адлюстравання, усё чалавечае жыццё, усё, што жыве на зямлі, — гэта толькі вобраз смерці. Чалавечае жыццё можна параўнаць з кветкай, якая на ўзыходзе сонца завязвае пупышкі, апоўдні расцвітае, а на схіле дня адцвітае. У гэтым і ёсць канчатковая мэта жыцця. На с. 6 знаходзіцца глоса: «Niemasz nic niesmiertelnego w człowieku, tylko cnota» («Няма нічога несмяротнага ў чалавеку, толькі цнота»). Для ілюстрацыі гэтай думкі ізноў жа прыводзіцца люстэрка: «…proch i popioł ludzki służy nam za nowe zwierciadło namniej nie pochlebujące» («…прах і попел ад людзей служыць нам за новае люстэрка, якое нікому не дагаджае»)[14].

Дзеля асэнсавання вечных праблемаў існавання чалавека ў хрысціянскім разуменні пісьменнік падае сваю спрэчку з антычнымі аўтарамі.

Merkury Trysmegyjski:

— Człowiek iest to ieden cud wielki

— toć musi być iednym cudem indzie.

Pytagor:

— Człowiek iest jakimś bogiem śmiertelnym

— gdybyś się przeyrzał w ułożeniu kości i żył iego, musiał by odmienić swoje zdanie.

Platon:

— Człowiek iest z pokolenia Boskiego

— a słusznie, ponieważ twoi bogowie byli ludźmi, a człowiek ponieważ z ziemie iest, do ziemi wrocić musi.

([Гермес] Меркурый Трысмегіст:

— Чалавек — гэта адзіны вялікі цуд.

— Значыць, павінен быць адзіным цудам у іншым месцы.

Піфагор:

— Чалавек — у пэўным сэнсе смяротны бог.

— Калі б ты ўбачыў, што ён складаецца з касцей і жылаў, мусіў бы змяніць сваё меркаванне.

Платон:

— Чалавек — з боскага роду.

— Гэта справядліва, бо твае багі былі людзьмі, а чалавек, паколькі паходзіць з зямлі, то ў зямлю і вярнуцца павінен[15].

Для ўзмацнення ўздзеяння на чытача аўтар неаднаразова паўтарае: «Wspomnicie sobie, żeście wy ludzie» («Памятайце, што вы — людзі»).

Звяртаючыся да вялікіх каралёў, князёў, аўтар ізноў жа нагадвае, што «wasze wszystkie wyniosłości, wasze wszystkie bogactwa zawarte będą na owych marach, na których wy będziecie złożeni, wszystko bowiem to, co wam da dziś fortuna, śmierć wam odejmie jutro, a jutrzejszy dzień może was jeszcze postawić w szereg najnędzniejszych na świecie ludzi» («...уся вашая ганарлівасць, усе вашыя багацці будуць абмежаваны тымі прывідамі, з якіх вы складаецеся, бо ўсё тое, што вам сёння дае фартуна, смерць у вас заўтра адбярэ, а заўтрашні дзень можа яшчэ і паставіць вас у шэраг самых убогіх на свеце людзей»)[16].

Марнымі з пункту гледжання барочнага пісьменніка аказваюцца не толькі людзі, іх жыццё, подзвігі, але і тыя матэрыяльныя каштоўнасці, якія яны пакінулі нашчадкам. Ён успамінае Капітолій, збудаванні Семіраміды, амфітэатр у Пампеях, — усё «zapadło w ieden ocean wieczności» («абрынулася ў адзін акіян вечнасці»). У адрозненне ад славы мірской, якую ён лічыць марнай, слава ёсць толькі ў Богу: «Szukajcie sławy w Bogu» («Шукайце славы ў Богу»).

Нават пісьмовыя крыніцы, якія сведчаць пра велічнасць каралёў, цароў, імператараў, не пакінулі нам нічога іншага, як толькі ўспаміны пра дзікасць чалавечай прыроды. З пункту гледжання аўтара, не трэба мецць і шыкоўных надгробкаў. Аўтар успамінае адказ Дыягена, які той даў Аляксандру Вялікаму на могілках, дзе быў пахаваны Філіп Македонскі. «Ja się krzątam (odpowiedział Dyogenes) szukając kości ojca twego Filipa, w pośrodku tej wielkiej liczby, ktorą tu widzisz, ale mój trud iest daremny, bo iedne od drugich niczym rożne nie są» («Я корпаюся (адказаў Дыяген), шукаючы косці твайго бацькі Філіпа, сярод той вялікай [іх] колькасці, якую тут бачыш, але мае намаганні дарэмныя, бо адныя нічым не адрозніваюцца ад другіх»)[17]. Згадваючы пра надгробкі Аляксандра Македонскага, Кіра, Фемістокла, аўтар прыходзіць да высновы, што найлепшы надгробак, які нам пакінула гісторыя, — той, які датычыць смерці Адама ў Святым Пісанні: «Umarł — tyle nam powiedziano o nim» («Памёр — гэта ўсё, што нам сказана пра яго»)[18].

Твор, перакладзены Вінцэнтам Гасеўскім, — яркае сведчанне тыпалагічнай блізкасці тэмаў, сюжэтаў, архетыпаў, топасаў у беларускай і заходнееўрапейскіх літаратурах эпохі Барока. Рэнесанснае разуменне гарманізацыі асобы, адзінства цялеснай і духоўнай арганізацыі змянілася ў ім канцэпцыяй, заснаванай на тэалагічным бачанні сусвету. З'яўляецца асобая паэтыка кантрастаў, якая ідэальна падыходзіць для адлюстравання несумяшчальнасці зямнога і нябеснага, высокага і нізкага ў жанрава-стылёвай сістэме Барока. Не сам чалавек, а яго сімвалічная напоўненасць, не яго дзеянні як знак увекавечвання жыцця, а пастуліраванасць іх нікчэмнасці і марнасці ў касмічным маштабе становяцца асновай эстэтычнага выбару. Гармонія Бога і чалавека бачыцца ў асобым тыпе раздвоенасці душы і цела, якая становіцца перашкодаю, а па сутнасці зброяй д'ябла на шляху да Бога і вечных каштоўнасцяў.

---

1 [de la Serre, P.] Zwierciadło nikomu nie pochlebujące przez Jaśnie Wielmożnego Jego Mości P. Wincentego Corwina Gosiewskiego, podskarbiego wielkiego, pisarza ziemskiego, hetmana polnego W. X. L., Osmianskiego, Wieliskiego, Puńskiego, Markowskiego, Lodzieyskie(go) starostę, oekonomiey Grudziądzkiey, Mohilewskiey y Olitskiey administratora Polskiemu narodowi w Moskiewskim więzieniu zgotowane, roku 1650. Opus posthumum niegdy przez Piotra della Serre Historiographa Francuskiego językiem francuskim dedykowana Naiaśnieyszym Maiestatom Wielkiey Britanniey, roku 1632 w Rowan do druku podane. Drukowano w Wilnie, roku 1665.

2 Zwierciadło nikomu nie pochlebujące przez Jaśnie Wielmożnego Jego Mości P. Wincentego Corwina Gosiewskiego, podskarbiego wielkiego, pisarza ziemskiego, hetmana polnego W. X. Lit., Ośmiańskiego, Wielińskiego, Puńskiego, Markowskiego, Lodzieyskiego starostę Polskiemu narodowi w Moskiewskim więzieniu zgotowane, roku 1650. Opus posthumum. Teraz świeżo przez Iego Mości Pana Iozefa Laskowskiego do druku podane. W Thoruniu: drukował Ian Balcer Bresler, 1695.

3 [de la Serre, P.] Zwierciadło nikomu nie pochlebujące... Drukowano w Wilnie, roku 1665. Арк. 2 зв.

4 Przyboś, A. Gosiewski (Gąsiewski) Wincenty Aleksander Korwin // Polski słownik biograficzny. T. 8. Wrocław–Kraków–Warszawa, 1959–1960. S. 345.

5 [de la Serre, P.] Zwierciadło nikomu nie pochlebujące... Drukowano w Wilnie, roku 1665. Арк. 4, 4 зв.

6 Memento mori (лац.) – памятай пра смерць.

7 Vanitas vanitatum et omnia vanitas (лац.) – марнасць над марнасцямі, і ўсё марнасць (словы з Кнігі Эклезіяста).

8 [de la Serre, P.] Zwierciadło nikomu nie pochlebujące... Drukowano w Wilnie, roku 1665. Арк. 1.

9 Тамсама. Арк. 2 зв.

10 Маюцца на ўвазе перамогі над казацкім войскам Багдана Хмяльніцкага падчас ваеннай аперацыі Рэчы Паспалітай у чэрвені – ліпені 1651 г.

11 [de la Serre, P.] Zwierciadło nikomu nie pochlebujące... Drukowano w Wilnie, roku 1665. Арк. 3.

12 Historia est magistra vitae (лац.) – гісторыя ёсць настаўніца жыцця.

13 [de la Serre, P.] Zwierciadło nikomu nie pochlebujące... Drukowano w Wilnie, roku 1665. С. 1 другога ліку.

14 Тамсама. С. 6 другога ліку.

15 Тамсама. С. 19 другога ліку.

16 Тамсама. С. 58 другога ліку.

17 Тамсама. С. 149–150.

18 Тамсама. С. 155.

Мікола Купава



М. Купава. «Раніца пад Воршай».

# «Art-Ворша-Рубон»

*Выстава суполкі «Пагоня»,
прысвечаная 500-гадоваму юбілею вялікай перамогі пад Воршай*

Нашу краіну шчодра азараюць юбілеі. У 2012 г. мы адзначылі 650-я ўгодкі перамогі войскаў ВКЛ над трыма татарскімі ханамі і вызвалення Украіны ад чужаземнага ярма. Нашымі войскамі тады кіраваў сам вялікі князь Альгерд Гедзімінавіч. У 2010 г. таксама былі адзначаны важныя юбілеі: 660 гадоў з часу нараджэння Вітаўта Вялікага і 600-гадовы юбілей перамогі саюзных войскаў Польшчы і Літвы пад Грунвальдам, 445 гадоў II Статута ВКЛ, 270-годдзе Літавора Яўхіма Ігната Язэпа Храптовіча — апошняга канцлера ВКЛ. Былі і іншыя даты, значныя па сваёй важнасці ў гісторыі і культуры Беларусі. І гэтыя даты суправаджаліся мастацкімі выставамі і іншымі мерапрыемствамі, за якімі стаіць невялікая група мастакоў суполкі «Пагоня». Але гэтыя святы, як склалася ў апошнія дзесяцігоддзі, былі святамі для патрыятычнай часткі грамадства. 500-гадовы юбілей важнай падзеі ў нашай гісторыі адзначалі Грамадскі нацыянальны аргкамітэт і патрыятычныя беларускія арганізацыі. У ліку іншых мерапрыемстваў было праведзена святкаванне на Аршанскім полі — пабаявішча, якое стала галоўнай часткаю свята.

Паводле праграмы Аргкамітэта, народныя святкаванні праходзілі ў розных местах і вёсках нашай краіны і ў замежжы. Такі значны юбілей Аршанскай бітвы адзначаўся ў Менску, Вільні, Варшаве, Гародні, Магілёве, Гомелі, Смаленску і ў іншых местах. Усе святкаванні трансляваліся па канале «Белсат», па радыё «Свабода» і «Рацыя», у іншых сродках інфармацыі і ў інтэрнэце. Аргкамітэт лічыў правядзенне нацыянальнай мастацкай выставы адным з найважнейшых мерапрыемстваў юбілею. Да правядзення выставы спрычыніліся Беларускі саюз мастакоў і суполка «Пагоня». Кіроўны орган БСМ — Рада — у траўні 2014 г. зацвердзіла план выставачнай дзейнасці творчага звязу, у тым ліку і правядзенне выставы, прысвечанай 500-годдзю вялікай перамогі пад Воршай. Назву выставе далі «Art-Ворша-Рубон», ужыўшы старабеларускае слова з двайным значэннем: «ура» і «сеча». Назва выставы, на наш погляд, цалкам адпавядае гістарычным фактам і рэаліям бітвы.

---

**Мікола КУПАВА** нарадзіўся ў 1946 годзе ў Оршы. У 1976 г. скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Удзельнік шматлікіх мастацкіх выставаў. Сябра Саюза мастакоў з 1978 года. Працаваў выкладчыкам у Мінскім мастацкім вучылішчы (1976–1978), мастацкім рэдактарам часопіса «Маладосць» (1982–1984), намеснікам дырэктара Мінскага мастацкага вучылішча імя Глебава (1990–1996), выкладчыкам малюнка і акварэлі на Архітэктурным факультэце БНТУ (2002–2006). Працуе ў галіне кніжнай і станковай графікі, акварэлі, гістарычнай кампазіцыі, партрэта, краявіду. Даследуе беларускую архітэктуру, у прыватнасці аршанскае абарончае і сакральнае дойлідства. Лаўрэат прэміі Беларускага фонду Тадэвуша Касцюшкі ў галіне грамадскай працы на ніве культуры і адраджэння гісторыка-культурнай спадчыны. Уладальнік вышэйшай узнагароды ў галіне кніжнага мастацтва ў Беларусі — Дыплома і медаля імя Францыска Скарыны. Жыве і працуе ў Мінску.

У беларускім сучасным выяўленчым мастацтве тэма Аршанскай бітвы пачала развівацца з 1984 года. У гэты час Генрых Ціхановіч напісаў карціну «Бітва пад Воршай», а праз 10 гадоў Гаўрыла Вашчанка напісаў кампазіцыйны партрэт Канстанціна Астрожскага. Так пачала складвацца беларуская тэматыка пра Аршанскую бітву ў сучасным нацыянальным мастацтве. Конная статуя  Льва Гумілеўскага «К. Астрожскі», адлітая ў матэрыяле сілумін, выдатна дапаўняе і робіць тэму паўнавартаснай і паўнакроўнай. Гэта скульптура ўпрыгожвае экспазіцыю Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.



Я. Батальёнак. «Поле пад Воршай».

Экспазіцыя выставы пачыналася з копіі карціны невядомага мастака першай чвэрці XVI ст. «Бітва пад Воршай» з Нацыянальнага музея ў Варшаве. Пяць гадоў даследавання карціны прынеслі плён: мы цяпер можам сцвярджаць, што гэта карціна беларуская, але да гэтага часу ў беларускім мастацтвазнаўстве пра яе не было аніводнай публікацыі. Другім творам, які самым яркім чынам ілюструе падзеі бітвы, была каляровая аўталітаграфія М. Басалыгі «Бітва пад Воршай», а таксама конны партрэт К. Астрожскага. Гэта вобраз палкаводца, які ўзначальвае літоўскае войска ў пераможнай бітве. У серыю ўваходзіць партрэт Юрыя Алелькавіча, маладога слуцкага князя, сына Настассі Іванаўны, арганізатаркі і камандзіркі войска Слуцкага княства ў бітве і перамозе з крымскімі татарскімі наезнікамі ў 1506 годзе. Ён прымаў актыўны ўдзел у Аршанскай бітве. У розныя гады ўжо ў XXI ст. да стварэння вобраза К. Астрожскага і бітвы пад Воршай звярталіся многія мастакі: Ніна Сакалова-Кубай, Антаніна Лапіцкая, Мікола Купава, Алесь Мара, Сяржук Цімохаў, Юрась Каралевіч, Ягор Батальёнак, Алесь Пушкін, Святлана Баранкоўская з Віцебска, Генадзь Говар з Гомеля, Мікалай Аўчыннікаў і Рыгор Мяжуеў з Маладзечна, Эдуард Мацюшонак, Валеры Калясінскі, Усевалад Свентахоўскі, Пётра Шарыпа і іншыя мастакі.




Н. Сакалова-Кубай.
Выцінанка «Бітва пад Воршай».

Варта асобна разгледзець некаторыя творы гэтай галерэі. Надзвычай арыгінальная кампазіцыя Ніны Сакаловай-Кубай. Злева на аркушы паказаны літоўскі рыцар з пікай у руцэ, які ў галопе скача насустрач маскоўскаму ваяўніку. Літоўскі рыцар — белы на чырвоным полі, маскоўскі ваяўнік — чорны. Уверсе кампазіцыі вельмі прыгожа пададзены герб ВКЛ — таксама белая «Пагоня» на чырвоным шчыце і па баках — пікі з беларускім баявым сцяжком. Маскоўскі ваяўнік павернуты галавой уніз, гэтак жа паказаны і чорныя пікі з белым двухгаловым арлом на чорным шчыце. У кампазіцыі ўжытыя два колеры і белая папера, што стварае ў рэалізацыі трохкаляровае вырашэнне задумы. Надзвычай пранікнёна ў Ніны Сакаловай-Кубай паказаны вобраз Багародзіцы. Гэта невыпадкова, бо 8 верасня 1514 года было вялікае




А. Шаціла.
Медаль, прысвечаны К. Астрожскаму.




Г. Вашчанка. «К. Астрожскі».




М. Басалыга. «Бітва пад Воршай».

свята канфесійнага зместу — Дзень Нараджэння Святой Багародзіцы, які адзначаўся ў абедзвюх хрысціянскіх канфесіях: у праваслаўнай і ў каталіцкай. Арыгінальная тэхніка выцінанкі.

Творы Міколы Аўчыннікава вызначаюцца высокім прафесіяналізмам, дынамікай і прадуманай кампазіцыяй. Гэта надзвычай прыгожыя акварэлі «Бліскавіца над Дняпром», «У сутоцы Крапіўны і Дняпра». Кожны разумее, што адлюстраваныя мясціны, дзе і была гэтая эпахальная бітва. Мастак услаўляе сваю зямлю, якая нарадзіла перамогу. Многія мастакі былі ў гэтых мясцінах, авеяных славутай перамогай, але кожны пісаў самастойную, толькі ім убачаную карціну. Ягор Батальёнак гэты ж самы матыў паказаў прыгожа і лірычна, а Алесь Пушкін падаў крапівенскія краявіды ў эпічным прачытанні.

У канцы жніўня — пачатку верасня на берагах Дняпра і Крапіўны пад Воршай, на полі пабаявішча, прайшоў пленэр, арганізаваны творчай суполкай «Пагоня». Творы, якія адлюстроўваюць краявіды Падняпроўя, якраз і нарадзіліся на пленэры. І на ўзвышшы, дзе 8 верасня 1514 г. на белым кані стаяў К. Астрожскі, які кіраваў ходам бітвы, пакуль яшчэ невядомымі скульптарамі былі ўсталяваныя барэльефы К. Астрожскага, Ю. Радзівіла і І. Сапегі. Бронзавыя барэльефы ўмураваныя ў вялікія валуны, і на гэтыя помнікі з боку Крапіўны адкрываецца грандыёзнае відовішча.

Сама выстава, прысвечаная такой вялікай і па сутнасці ўнікальнай падзеі і даце, была значнаю з'яваю ў нашым культурным жыцці. І арганізатары выставы пастараліся зрабіць яе адкрыццё таксама значнай падзеяй у мастацкай практыцы. Прэлюдыяй да выставы былі паказальны выступ і двубой



Ю. Каралевіч. «Рыцары ВКЛ».

удзельнікаў рыцарскага клуба «Гівойт», а таксама выступы музыкаў, паэтаў і песняроў, у якіх знайшліся адпаведныя паэтычныя радкі, характэрная музыка і песні, блізкія па духу падзеям 1514 года. А галоўнай песняй свята была беларуская народная песня «Бітва пад Воршай», якой ужо каля 500 гадоў і якая ўслаўляе вялікую перамогу.

Тэма выставы значна шырэйшая за батальныя сцэны і партрэты герояў бітвы. Задачай, якую ставілі перад сабой арганізатары выставы, з'яўляецца пашырэнне гісторыі і культуры ВКЛ праз выяўленчае мастацтва і асэнсаванне гэтага перыяду ў нашай гісторыі. Беларусь у гэты час называлі краінай замкаў. У краіне будаваліся храмы-крэпасці, фартэцыі, палацы. Ствараліся велічныя творы літаратуры. Дарэчы, адразу пасля перамогі пад Воршай Ян Вісліцкі напісаў эпічную паэму «Пруская вайна» і «Оду каралю Жыгімонту» з апісаннем славутай бітвы. Гэта быў першы прыклад мастацкай літаратуры пра вялікую перамогу. М. Гусоўскі ўжо пісаў сваю славутую «Песню пра зубра», а Ф. Скарына перакладаў на родную мову кнігі Біблії і ў 1517 г., якія пачне друкаваць, заснаваўшы такім чынам беларускае кнігадрукаванне. У беларускіх храмах з'явіліся новыя выдатныя абразы. Гэтыя з'явы засведчылі, што ў Вялікім Княстве Літоўскім развіваецца культура зусім іншага тыпу — еўрапейскага. Гэта было Адраджэнне Беларусі, залаты век Беларусі-Літвы.

Некаторыя тэмы Адраджэння знайшлі сваё ўвасабленне ў творчасці нашых мастакоў і былі паказаны на выставе. Гэта творы А. Лапіцкай, Н. Сакаловай-Кубай, Р. Мяжуева і інш. Сярод твораў дробнай пластыкі варта адзначыць медаль і жэтон Генадзя Лойкі і Валерыя Калясінскага. Творы вельмі вобразныя і тэхналагічныя, у іх вельмі красамоўна выкарыстаны матэрыял — бронза.

Віцебскі кераміст Міхась Паўлаў у плакетцы паказаў Аршанскі замак. Гэта дэбют мастака, які сваёю працаю заняў пачэснае месца ў шэрагу творцаў, якія на выставе развівалі мірную тэму Адраджэння.

Юбілейны двухбаковы медаль, які прадстаўляе і бітву, і Канстанціна Астрожскага, стаў выдатнаю памяткаю пра перамогу, што было так неабходна вялікаму святу (яго аўтар — скульптар і медальер Алесь Шаціла).

Выстава прыцягнула ў Палац мастацтва найбольшую колькасць гледачоў у параўнанні з мінулымі гадамі. Гледачы ішлі на выставу зацікаўленыя і ўдзячныя яе арганізатарам. Выстава стала значнай культурнай падзеяй і значным унёскам у святкаванне 500-гадовага юбілею вялікай перамогі пад Воршай, важнай даты ў гісторыі нашага народа.




А. Лапіцкая. «Канстанцін Астрожскі».

## CONTENTS

The new issue of the quarterly magazine «Our Faith» is remarkable because we celebrate the 20th anniversary of its origin within the Archdiocese of Minsk-Mogilev. On this occasion we placed the word by Metropolitan Tadeusz Kondrusiewicz. This issue is also notable because of other different anniversaries and dates (p. 2).

An interview «I come, O God, to Do Your Will...» of F. Siuko with Bishop Aleg Butkevich of the Diocese of Vitebsk is dedicated to the first anniversary of the Bishop's ordination (p. 3-6).

Words by K. Lialko «To the Eternal Life in God...» and excerpts from «Personal Notes» by the Great Pope are dedicated to the 10th anniversary of the passing by of Pope John Paul II (p. 7-11).

In article by Fr. A. Kulacha OCD you will read about St. Teresa of Jesus, the teacher of communion with God (p. 12-16).

Translator S. Gresvi offers the readers some extracts from the book «The Life of St. Teresa of Jesus, Written by Herself» (p. 17-20).

Essay by art critic V. Buival is dedicated to the city of St. Teresa - Ávila (p. 21-23).

We also continue to publish the translation of the work by Stephan Svyazhauski «Saint Thomas, re-read» made by A. Zhlutka (Section XIV) (p. 24-25).

Literary critic I. Bagdanovich in her article «To Be a Priest, Sacrificer of the Living God» presents her new study of life and work of priest and poet K. Swajak, whose 125th anniversary of birth we celebrate this year (p. 26-31).

«*The Four Loves*» is the title of the work by English writer and theologian C.S. Lewis, we propose an excerpt from this work translated by Y. Shedzko (Section IV. «Friendship») (p. 32-33).

In column «Poetry» we placed new poems by Y. Chykvin and A. Danilchyk (p. 34-37).

Article by M. Skobla «The Temple of His Poetry» is dedicated to the memory of the national poet of Belarus R. Baradulin (p. 38-40).

Researcher Y. Yanushkevich in his article «The Lawyer of Vilna Consistory, or Autographs of Bagushevich... in Minsk» writes about his new archival discoveries. You will also find two poems by D. Bichel dedicated to F. Bagushevich (p. 41-45).

In column «Prose» I. Zharnasiek offers the readers her biographical reminiscences, collected under the title «Our Days' Drifting Ice» (p. 46-52).

Doctor of Arts T. Gabrus in her article «From Rome to Niasvizh» dedicated to the 540th anniversary of Michelangelo, talks about the impact of this great creator on the culture of Belarus (p. 53-57).

Restorer A. Shpunt in his notes from «The General Notebook» talks about the peculiarities of his profession and the difficult task of preserving the national cultural heritage (p. 58-59).

«The Engraving by Francis Skaryna in the Book of Daniel. The Meaning of Artistic Interpretation» is the title of an article by employee of the National History Museum of Belarus I. Zvaryka, where she talks about the sense of image of a lion in the works of the famous printing pioneer (p. 60-63).

Literary critic U. Karotki in his article «The Mace, Connected to the Pen. The Christian Covenant by Hetman Gosiewski» studies one of the monuments of translated literature of Belarus (p. 64-67).

Painter M. Kupava in the essay «Art-Orsha-Rubon» writes about the creative achievements of association «Pagonia» and its recent exhibition in Minsk, dedicated to the Battle of Orsha (p. 68-71).

## RESÜMEE

Die neue Nummer der Vierteljahreszeitschrift zeichnet sich dadurch aus, dass 20 Jahre seit ihrer Gründung bei der Erzdiözese Minsk und Mogiljow vergangen sind. Aus diesem Anlass ist darin das Wort des Metropoliten Tadeusz Kondrusiewicz untergebracht. Diese Nummer ist auch durch andere Jubiläen und Daten gekennzeichnet (S. 2).

Dem Jahrestag der Bischofsweihe des Ordinarius der Diözese Witebsk A. Butkewitsch ist das Interview von F. Siuko mit ihm unter dem Titel „Gott, ich komme, um Deinen Willen zu erfüllen…“ gewidmet (S. 3-6).

Dem zehnten Todestag des Papstes Johannes Paul II. sind das Wort von K. Lialko „Zum ewigen Leben in Gott…“ und die Publikation von Auszügen aus den „Persönlichen Notizen“ des Großen Papstes gewidmet (S. 7-11).

Über die Person der heiligen Teresa vom Herzen Jesu – der Lehrerin der Kommunion mit Gott – wird im Artikel von P. A. Kuljacha OCD erzählt (S. 12-16). Die Übersetzerin S. Greswi bietet den Leserinnen und Lesern Abschnitte aus dem „Leben der heiligen Teresa vom Herzen Jesu, von ihr selbst aufgeschrieben“ (S. 17-20). Mit Ávila – der Stadt der heiligen Teresa – beschäftigt sich das Essay des Kunstwissenschaftlers W. Bujwal (S. 21-23).

Fortgesetzt wird die Publikation der Übersetzung des Werkes von Stefan Swjashauski „Heiliger Thomas, neu gelesen“ (Abschnitt XIV.), die von A. Shlutka angefertigt wurde (S. 24-25).

Die Literaturwissenschaftlerin I. Bagdanowitsch veröffentlicht anlässlich des 125. Geburtstags des Priesters und Poeten K. Swajak ihre neuen Studien aus seinem Leben und Schaffen im Artikel „Priester sein, Opferaltar des 'Lebendigen Gottes'“ (S. 26-31).

Fortgesetzt wird die Publikation des Werkes „Vier Arten der Liebe“ des englischen Schriftstellers und Theologen C.S. Lewis in der Übersetzung von J. Schedsjko (Abschnitt IV „Freundschaft“) (S. 32-33).

In der Rubrik „Poesie“ befinden sich neue Gedichte von J. Tschykwin und A. Daniltschyk (S. 34-37).

Dem Andenken an den Volkspoeten von Belarus R. Baradulin ist der Artikel „Die Kirche seiner Poesie“ von M. Skobla gewidmet (S. 38-40).

Der Forscher J. Januschkewitsch schreibt im Artikel „Der Rechtsanwalt des Konsistoriums von Wilno, oder die Autogramme von Baguschewitsch… in Minsk“ berichtet von seinen neuen Archivfunden. Hier werden auch zwei Gedichte von D. Bitschel zum Andenken an F. Baguschewitsch veröffentlicht (S. 41-45).

In der Rubrik „Prosa“ bietet I. Sharnasek ihren Leserinnen und Lesern ihre biographischen Notizen, gesammelt unter dem Titel „Eisgang unserer Tage“ (S. 46-52).

Die Doktorin der Kunstwissenschaft T. Gabrusj reflektiert im Artikel „Von Rom bis Njaswish“, der dem 540. Geburtstag von Michelangelo gewidmet ist, über den Einfluss dieses großen Meisters auf die Kultur von Belarus (S. 53-57).

Der Restaurator A. Spunt reflektiert in den Notizen aus dem „Dicken Schreibheft“ über die Besonderheiten seines Berufes und die schwere Aufgabe der Erhaltung des inländischen Kulturerbes (S. 58-59).

„Die Gravüre von Franzisk Skaryna im Buch des Propheten Daniel. Der Sinn der künstlerischen Interpretation“ heißt der Artikel von I. Swaryka, der Mitarbeiterin des Nationalen historischen Museums von Belarus. In diesem Artikel reflektiert sie interessant über den Sinn der Löwenbilder in den Arbeiten des berühmten Gründers des Buchdruckes (S. 60-63).

Der Forschung eines der Denkmäler der Übersetzungsliteratur von Belarus ist der Artikel des Literaturwissenschaftlers U. Karotki „Keule, vereint mit Feder. Das christliche Vermächtnis des Hetmans Gasejski“ gewidmet (S. 64-67).

Der Maler M. Kupawa schreibt im Essay „Art-Borscha-Rubon“ über die schöpferischen Leistungen der Vereinigung „Jagd“ und über ihre jüngste Ausstellung in Minsk, die sich der Schlacht bei Orscha widmete (S. 68-71).

## PODSUMOWANIE

Najnowszy numer kwartalnika "Nasza wiara" jest wydaniem jubileuszowym, bo właśnie minęło 20 lat od czasu jego powstania w archidiecezji mińsko-mohylewskiej. Z tej okazji zamieszczono zwrot Metropolity Tadeusza Kondrusiewicza. Poza tym w tym numerze znajdują się także inne jubileusze i ważne daty (s. 2).

Rocznicy sakry biskupiej ordynariusza witebskiej diecezji A. Butkiewicza poświęcony jest wywiad pod tytułem „Przychodzę Boże spełnić Twoją wolę.." , który przeprowadził z biskupem F. Siwko (s. 3-6).

10. rocznicy odejścia do wieczności papieża Jana Pawła II zostały poświęcone słowa K. Lalko „Do życia wiecznego w Bogu…" i publikacja urywków z „Osobistych notatek" Wielkiego Papieża (s. 7-11).

O osobie św. Teresy od Jezusa – nauczycielki komunii z Bogiem – możemy przeczytać w materiale o. A. Kulachi OCD (s. 12-16).

Tłumaczka S. Greswi proponuje czytelnikom rozdziały z „Księgi życia" św. Teresy od Jezusa (s. 17-20).

Miastu św. Teresy — Avilli, został poświęcony esej znawcy sztuki W. Bujwała (s. 21-23).

Kontynuujemy publikację przekładu A. Żłutki pracy Stefana Świeżawskiego «Święty Tomasz na nowo odczytany» — rozdział XIV (s. 24-25).

Z okazji rocznicy 125-lecia narodzenia księdza i poety K. Swajaka literaturoznawca I. Bogdanowicz w artykule „Być księdzem, ofiarnikiem Boga żywego" publikuje swoje nowe badania dotyczące jego życia i twórczości (s. 26-31).

Publikujemy także dalszą część przekładu pracy angielskiego pisarza i teologa C.S. Lewisa «Cztery miłości» (Rozdział IV. «Przyjaźń») (s. 32-33).

W rubryce „Poezja" zamieszczone są wiersze J. Czykwina i A. Danilczyk (s. 34-37).

Pamięci narodowego poety Białorusi R. Baradulina poświęcony został artykuł M. Skobły „Świątynia jego poezji" (s. 38-40).

Badacz J. Januszkiewicz w artykule „Adwokat Wileńskiej Konsystorii, albo autografy Boguszewicza… w Mińsku" pisze o swoich nowych archiwalnych znaleziskach. Tu także zostały zamieszczone dwa wiersze D. Biczel o F. Boguszewiczu (s. 41-45).

Natomiast w kolumnie „Proza" I. Żarnasiek proponuje czytelnikom swoje biograficzne wspomnienia, zebrane pod nazwą „Powódź naszych dni" (s. 46-52).

Doktor sztuk pięknych T. Habruś w artykule „Od Rzymu do Nieświeża", poświęconemu 540-leciu Michała Anioła, rozważa o wpływie tego wielkiego twórcy na kulturę Białorusi (s. 53-57).

Restaurator A. Szpunt w notatkach z „Zeszyta ogólnego" prowadzi rozważania o osobliwościach swojego zawodu i niełatwym zadaniu zachowania ojczystego dziedzictwa kultury (s. 58-59).

„Grawiura Franciszka Skaryny w Księdze proroka Daniela. Sens artystycznej interpretacji" – taki tytuł nosi artykuł współpracownicy Narodowego Muzeum Historycznego Białorusi I. Zwaryki, w którym autorka w ciekawy sposób prowadzi rozważanie o sensie obrazu lwa w pracach znakomitego pierwszego drukarza (s. 60-63).

Badaniu jednego z pomników tłumaczonej literatury Białorusi poświęcony został tekst literaturoznawcy U. Karotkaha „Buława z piórem złączona. Chrześcijańska zapowiedź hetmana Gosiewskiego" (s. 64-67).

Artysta M. Kupawa w eseju „Art-Worsza-Rubon" pisze o twórczych osiągnięciach wspólnoty „Pogoń" i jej wystawie w Mińsku, poświęconej Orszańskiej bitwie (s. 68-71).

## SOMMARIO

Il nuovo numero della rivista trimestrale "Naša vera" è particolare alla luce del 20° anniversario della sua fondazione presso la Diocesi di Minsk e di Maghiliou. In questa occasione si pubblica il discorso del Metropolita Tadewuš Kandrusevič. Il numero si distingue anche per altri anniversari e date (p. 2).

Così, l'ordinario della diocesi di Vitebsk A. Butkevič in occasione dell'anniversario della sua consacrazione vescovile è stato intervistato da F. Siuko che ha intitolato l'intervista "Vengo, Signore, per avverare la tua volontà…" (p. 3-6).

Al 10° anniversario del passaggio all'eternità del Papa Giovanni Paolo II è dedicato il saggio di K. Lalko "Per una vita eterna dal Dio…" e la pubblicazione di alcuni brani dalle "Note personali" del Grande Papa (p. 7-11).

L'articolo del padre A. Kuliakha OCD racconta della Santa Teresa di Gesù, insegnante della comunione con il Dio (p. 12-16).

La traduttrice S. Gresvi propone all'attenzione dei lettori i brani dalla "Vita della Santa Teresa di Gesù, scritta da lei stessa" (p. 17-20).

Il saggio del critico d'arte Valery Bujval è dedicato alla città di Santa Teresa Avila (p. 21-23).

Continua la pubblicazione della traduzione dell'opera di Stefan Swiezawski "San Tommaso riletto" eseguita da Ales Žlutka. Si pubblica la parte XIV (p. 24-25).

In occasione del 125° anniversario della nascita del sacerdote e poeta K. Svajak la studiosa di letteratura I. Bagdanovič pubblica i risultati della sua ricerca a lui dedicati nell'articolo "Essere sacerdote, sacrificatore del "Dio vivente" (p. 26-31).

Continua la pubblicazione dell'opera dello scrittore e teologo inglese C. S. Lewis "Quattro Amori" nella traduzione di J. Šedzko (Parte IV. Amicizia) (p. 32-33).

Nella rubrica *Poesia* sono collocati i nuovi versi di J. Čykvin e di A. Danilchyk (p. 34-37).

L'articolo di M. Skobla "Il Duomo della sua poesia" è dedicato alla memoria del poeta R. Baradulin, insignito del titolo "Il poeta del popolo bielorusso" (p. 38-40).

Il ricercatore J. Januškevič nell'articolo "L'avvocato del consistorio di Vilnia oppure gli autografi di Baguševič… a Minsk" scrive di nuovi reperti d'archivio. Accanto si pubblicano le due poesie di D. Bičel in memoria di F. Bagušević (p. 41-45).

Nella rubrica *Narrativa* I. Žarnasek propone ai lettori i suoi ricordi riuniti sotto il titolo "La fluitazione dei nostri giorni" (p. 46-52).

Al 540° anniversario del grande Michelangelo è dedicato l'articolo della Dott.ssa di ricerca nella storia dell'arte T. Gabrus "Da Roma a Niasviž" nel quale si riflette sull'influenza del grande artista sulla cultura bielorussa (p. 53-57).

Il restauratore A. Špunt negli appunti del "Quaderno comune" riflette sulle particolarità della sua professione e sul non facile compito di conservare l'eredità culturale nazionale (p. 58-59).

"L'incisione di Franzysk Skaryna nel Libro del Profeta Daniele. Il significato dell'interpretazione artistica" è l'articolo della collaboratrice del Museo Storico Nazionale I. Žvaruka in cui l'autrice riflette sul significato dell'immagine di leone nelle opere del primo editore bielorusso (p. 60-63).

L'articolo dello studioso di letteratura U. Karotki "Una clava unita alla penna. Il testamento cristiano del hetman Gaseuski" è dedicato allo studio di uno dei monumenti della letteratura di traduzione della Bielorussia (p. 64-67).

Il pittore M. Kupava nel saggio "Art-Orša-Rubon" scrive dei risultati artistici del gruppo "Pagonia" e della sua mostra recente avvenuta a Minsk e dedicata alla battaglia di Orša (p. 68-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — Джан Ларэнца Берніні. Экстаз святой Тэрэзы. 1647–1652. Капэла Карнара ў касцёле Санта Марыя дэла Віторыя, Рым.


*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 1 (71)/2015.*

*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*

*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*

*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*

*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*

*Падпісаны да друку 30.03.2015 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 300 экз. Зак № 205.*

*Надрукавана ў друкарні ООО «Юстмаж» Ліцэнзія № 02330/250 ад 27.03.2014.*

*Вул. Каліноўскага, д. 6, Г4/К, пакой 201. 220103 г. Мінск.*

# ГОРАД СВЯТОЙ ТЭРЭЗЫ



*Падчас фэсту ў гонар святой Тэрэзы Авільскай каля касцёла св. Тэрэзы.*



*Старажытныя муры Авілы і катэдра (на заднім плане).*



*Помнік святой Тэрэзе Авільскай каля муроў горада.*



*Вітраж з касцёла св. Тэрэзы Авільскай.*



*У музеі св. Тэрэзы Авільскай.*



*Алтар у касцёле св. Тэрэзы.*



*Сікстынская капэла.*
*Роспіс столі (1508–1512)*
*і алтарнай фрэскі «Страшны суд» (1535—1541)*
*выканаў Мікеланджэла Буанароці.*